# НА ФОНЕ СТАГОДДЗЯ З ЛЮБІМАЮ КОШКАЮ

*У «табелі пра рангі» беларускага выяўленчага мастацтва імя Міколы Селешчука запісана ў графе «класікі». Ён, так бы мовіць, класік не па ўзросту. Занадта малады. Хоць мастак увесь час навідавоку, творчасць ягоная даволі вядомая, эвалюцыя таленту падрабязна апісана ў крытычных артыкулах, усё ж, мне здаецца, і крытыкі, і калегі Міколы прагледзелі той момант, тую мяжу, пераступіўшы якую, «парушальнік спакою» стаў (калі карыстацца тэрмінам Французскай акадэміі) «бессмяротным». Афіцыйна гэты статус зацверджаны за Селешчуком напрыканцы мінулага года, калі газеты паведамілі аб наданні яму Кембрыджскім біяграфічным цэнтрам званняў «Чалавек года-1992», а затым і «Чалавек стагоддзя». Але гэта хутчэй пастфактум міжнароднага прызнання, бо творы Міколы Селешчука даўно і з поспехам выстаўляюцца ў многіх краінах. Але ўся адметнасць сітуацыі ў тым, што разам з гэтымі ганаровымі званнямі мастаку прысвоена яшчэ адно — лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі.*

*Быў час, калі прозвішча «Селяшчук» і тэрмін «авангард» успрымаліся амаль сінонімамі. Пры тым, што і тады ў работах мастака не было эпатажнасці, адкрытага цытавання сусветнага жывапіснага здабытку (а менавіта цытаванне — ад Кандзінскага да Сальватора Далі — ці не галоўная рыса сённяшняга авангарда), памкненняў да арыгінальнасці. У ранняга Селешчука не было нічога, што сёння выклікае асацыяцыю са словам «авангард».*

*Авангардыстам жа Міколу лічылі па той простай прычыне, што аб'ектыўна ён знаходзіўся ў апазіцыі да афіцыёза. Ад самага пачатку сваёй творчасці ён не імкнуўся падладзіцца ні пад сапсаваны густ начальства, ні пад слаба развіты густ гледача. Селяшчук рабіў сваё мастацтва. Рабіў так, як падказвала яму яго прыродная адоранасць, прыстойная адукацыя і пастаянныя пошукі. Шукаў жа ён там, дзе яшчэ не ўтрамбавалі асфальт стэрэатыпаў, дзе былі вольныя ад штампаў лапікі творчай прасторы.*

*Каштоўнасць зробленага Селешчуком па-сапраўднаму выявілася, на маю думку, адносна нядаўна, недзе ў другой палове 80-х. Тады, калі пахіснуўся «сацыялістычны рэалізм» і паступова знікла палітычная цэнзура ў мастацтве, калі ўсё стала дазволеным і мастакі ўжо не маглі апраўдаць сваю бездапаможнасць або бязвольнасць вонкавымі прычынамі. Рабі, што хочаш! Але высветлілася, што хацець недастаткова. Трэба яшчэ і ўмець. Вось ты, вольны, але ці ёсць у вольнага запасы творчых скарбаў, якія стала мажлівым вынесці да гледача?*

*Селешчуку, як высветлілася, доўга корпацца ў сваіх каморах не давялося: ён нібыта ўсё сваё творчае жыццё ведаў, што калі-небудзь ягоны «авангард» стане нормай. І выяўляў сябе ў палотнах дзён мінулых так, што яны сталі творчай карцінай будучых гадоў.*

*Як ні дзіўна, але менавіта цяпер, калі мастак афіцыйна далучаны да кагорты класікаў, у яго пачалося складанае творчае жыццё. Цяпер да яго хочуць ставіцца як да мэтра, а яму гэта не даспадобы. Я калісьці пісаў, што галоўнае ў ягонай творчасці — іронія. Ён умее гаварыць пра сур'ёзныя рэчы нібыта між іншым, але словы ягоныя запамінаюцца. Іронія — як супрацьвага агульнаму цынізму. Іронія — як сродак пазнання свету, як стаўленне да непазбежных супярэчнасцей жыцця. Іронія — як сродак ад «забранзавеласці» ў мастацтве, як спосаб захавання здаровага сэнсу ў жыцці. Вось таму творы Міколы Селешчука прыцягваюць увагу гледачоў (падкрэслю — адукаваных у законах жывапісу гледачоў) мудрагелістымі сюжэтамі, спалучэннем рэчаў, якія ў звычайным свеце побач не бываюць. Кожны глядач, у адпаведнасці са сваім светаўспрыманнем прачытвае работу па-свойму, але тых, хто прайшоў паўз яе,— амаль не бывае.*

*Да нядаўняга часу сярод прыхільнікаў таленту Міколы Селешчука былі ягоныя калегі, крытыкі, гледачы, замежныя калекцыянеры. Цяпер ён прыйшоўся даспадобы яшчэ і сваёй роднай дзяржаве. Добра, што дзяржава ў нас паразумнела...*

Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.
Здымкі Віктара ЖЫЛІНА.

## Споведзь

**Васіль ВАСІЛЬКОЎ,**
**пенсіянер**



# ПАКЛІЧ НАС, РАДАЎНІЦА, ДАДОМУ!

Так супала сёлета: на другі дзень пасля гадавіны чарнобыльскай катастрофы — Радаўніца — светла-шчымлівы дзень, які аб'ядноўвае ўсе пакаленні. Памятаю, штогод як не ўвесь наш Гайшын збіраўся на могілках, каб памянуць адышоўшых сваіх блізкіх. Ці збяромся цяпер так дружна, ці пагамонім так шчыра, як некалі? Мусіць, не. Няма нашай вёскі — вялікай, прыгожай, што раскінулася на беразе Сажа на мяжы Гомельшчыны і Магілёўшчыны. Засталіся там лічаныя сем'і, ды і тыя збіраюць пажыткі, каб пакінуць гэту раненую, скалечаную зямлю.

Не ведаю, як іншыя, а мы збіраемся на Радаўніцу дадому, да нашых разбураных нячыстымі людзьмі хат, каб палюбавацца, можа ў апошні разок, туманам белапенных садоў, пасядзець са сваімі думкамі над магіламі бацькоў і дзядоў нашых. Ці ляжам мы ў зямлю побач, ці сустрэнемся там, у далёкай нязведанай далечы? Пахаваюць жа нас, спешна і клапатліва, на далёкіх сталічных могілках, пад аднатонны гул экскаватара, які штодзень заняты прывычнай работай — капае магілы.

Мінуў год, як нас перасялі-

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,**
**вайсковы журналіст**



# ПАЛЯВАННЕ НА ЭКСТРЭМІСТАЎ

Сустрэча з аднакурснікам па вайсковым вучылішчы не парадавала. Зрэшты, сябрамі мы ніколі не былі. Так, землякі, хаця і гэта не так ужо мала...

Напоўнілі чаркі, паспрабавалі знайсці словы, адпаведныя такому моманту. Але пляшка нават самага дарагога каньяку нічога не змяніла. Ні ў нашых адносінах, ні ў думках. Бо неўзабаве суразмоўнік мне выдаў:

— Заколебали с этой мовой. Депутаты выкаблучиваются, и вы туда же. Хотите поговорить на белорусском — берите своего любимого Позьняка и поезжайте на дачу, беседуйте там, сколько влезет!

Дзякуй, калега, за дазвол на беларускую гаворку ў падполлі! Мо, калі мы добра станем паводзіць сябе, вы дазволіце нам аддаваць сваіх дзяцей у беларускія садкі і школы?

Страшна і балюча ад думак, звязаных з моўнай сітуацыяй у маладым беларускім войску. З аднаго боку міністэрства абароны быццам бы спрыяе ўвядзенню дзяржаўнай мовы. З другога ж — адносіны да беларушчыны ў войску застаюцца адмоўнымі. І спрыяюць таму, на вялікі жаль, самі вайскоўцы-беларусы. Сваёй пасіўнасцю, што ідзе ад несвядомасці, а часам і актыўна: спрабуючы абвінаваціць ва ўсіх бедах арміі «нацыяналістаў». Згодзен, што

**Наталля СТРАЛКОВА,**
**публіцыст**



# СЛУЖБОВЫ РАМАН

Калі хочаце, пра кожнага без выключэння мужчыну можна напісаць прыгодніцкі раман (з умовай, што гэты мужчына захоча тое-сёе пра сябе расказаць). Пра жанчыну таксама можна напісаць раман. Службовы. Калі не верыце, спытайце ў любой знаёмай, прывабнай дзяўчыны. Я неяк спытала. І патрапіла, што называецца, у самую кропку.

...У Марыны — інтэлігентная прафесія з творчым ухілам. У падрабязнасці ўдавацца не буду, тым больш, што гэта не так важна. Скажу толькі, што са сваім «шэфам» яны сядзяць у розных кабінетах і нават на розных паверхах. Гэта не перашкаджае яму заходзіць часам у іх «жаночы» пакой з дробнымі даручэннямі ці пытаннямі накшталт «ну, як тут у вас справы?» Тое ж самае, безумоўна, можна было б зрабіць і па тэлефоне, але Валерый Віктаравіч (без прозвішча абыдземся) у працы карыстаецца адным залатым правілам, якое яшчэ ніколі ніхто не падводзіла: будзе працоўны, і людзі да цябе пацягнуцца. Гэтак жа проста, пасяброўску ён аднойчы запрасіў Марыну, якая затрымалася ў кабінеце з адзінай бяскрыўднай мэтай — папрацаваць, да сябе на шклянку кавы. Да сябе — безумоўна ж, не дадому. Дома Валерый Віктаравіч быў, што называецца, «абкладзены» з усіх чатырох бакоў. Справа і злева — дачка і сын, наперадзе — жонка, ззаду — цешча.

У першае імгненне яна адчула нейкае ўнутранае раздваенне. Нейкі момант дзве яе паловы нібыта спрачаліся адна з адной. Першая раіла Марыне цвяроза ўсё ацаніць, узважыць і адмовіцца ад двухсэнсоўнага запрашэння. Другая... О, гэта другая палова!.. Яна прымусіла Марыну заплюшчыць вочы і ўявіць сабе ўсё, што можа «выцякаць» з гэтай шклянкі кавы. «Шэф» быў прыгожым мужчынам. Прыгожым і недасягальным. Недасягальным і жаданым. А гары ты гарам, нікому не патрэбны жаночы гонар!

... Сакратаркі, натуральна, на працоўным месцы не аказалася. Усё, што адбылося далей, Марыначка не можа ўспамінаць без з'едлівай усмешкі: «А кавы ў яго нават і не было. Гэта — як пароль, прынада для дурніц. Для прыліку ён сказаў некалькі слоў, сэнсу я ўжо не памятаю... Потым яго затрэсла, быццам наэлектрызаваўся ўвесь. Скінуў свой пінжак, гальштук... Усё адбылося прама на стале, сярод нейкіх квітанцый, загадаў і справаздач. (Я потым не магла без смеху глядзець на гэты стол.) За дзвярамі

лі сюды, у Мінск. Праўда, я хацеў паехаць у Гродна, дзе жывуць сын, унукі, але ж у нас, чарнобыльцаў-перасяленцаў, не папыталі: зашмат строгіх і недаступных столаначальнікаў. Загадалі: у Мінск, і ніякіх пярэчанняў! Пяць сямей з нашага Гайшына, у тым ліку і нас, размеркавалі ў мікрараён «Шабаны», астатніх — у «Малінаўку». З суседзямі па высотнаму дому калі-нікалі сустракаемся, а з «малінаўцамі» пакуль ні разу. Дабрацца туды пенсіянерам не так проста — штурханіна, апошняга здароўя, калі яно ў каго захавалася, пазбавішся. Гэта некалі, выйшаў на вуліцу — і першаму стрэчнаму руку падаеш, у вочы глядзіш, бо ўсе свае, блізкія, дарагія.

Зразумейце мяне: я не ў крыўдзе на тых, хто адпраўляў нас сюды, хто будаваў нам жыллё. Не! Раён хоць і далёка ад цэнтра, але ж жыць можна. Дый чаго нам, старым, перціся ў той цэнтр, калі свой гастраном пад бокам. А да яго — і паліклініка, аптэка. Неўзабаве абяцаюць тэлефон падключыць. Да таго ж, не стану ўтойваць, мы і льготамі карыстаемся. За жылплошчу, газ, ваду, электрычнасць плацім толькі палавіну кошту. А лекі зусім бясплатна атрымліваем, толькі, на вялікі жаль, тых лекаў няма ў аптэцы.

Глядзіце, здаецца, дзяржава і не дала нас у крыўду, але ж і асаблівага задавальнення мы не адчулі. І, бадай, не адчуем. Мяркую па сабе. Хіба ж змагу я выйсці ў свой садок, паслухаць шпакоў на бярозе, абкапаць кусты абляпіхі, падвязаць галінкі вінаграду, падзівіцца, як набіраюць сокі зямлі кітайскі лімоннік, кедр, грэцкія арэхі... Так-так, усё гэта вырасціў сваімі рукамі, сярод гэтай прыгажосці чэрпаў здароўе і бадзёрасць. А цяпер, як у той песні, прагна гляджу на дарогу, што прывяла б да роднага клёна, да роднага дома.

Дома бываю толькі ўначы. Дарэчы, там я бываю амаль штоноч. Бясконца сніцца наш мілы Гайшын. Вось і нядаўна, здаецца, стаю я на агародзе дзеда Данілы, побач вішня пеніцца, я спрабую дацягнуцца да яе рукою,— і не магу. А дзед ласкава так усміхаецца...

Не, трэба хоць на гадзінудругую вырвацца туды.

Пакліч нас, Радаўніца, пакліч!

---

дзейнасць Беларускага згуртавання вайскоўцаў часам патрабуе крытыкі. Але калі журналісцкі матэрыял аб праліках у баявой падрыхтоўцы ці дрэннай дысцыпліне ў якім-небудзь падраздзяленні вянчае пасаж накшталт: «А где же господа из БНФ, БЗВ со своим патриотизмом?», то гэта ўжо не крытыка, не паленіка, а звычайная ўзлаванасць.

Сам працую ў газеце вайсковага ведамства. Пішу па-беларуску, рыхтую беларускамоўную пошту. І часам чую ад калег, маўляў, занадта беларускі нумар выйшаў, у арміі яго ўсё роўна не прачытаюць. Магчыма! А калі прачытаюць, то адзінкі. Хаця матэрыялы гэтыя — пра родную мову, культуру, гісторыю... Пра тое, што, урэшце, загадам зверху прызначана для вывучэння ў войску.

Яшчэ прыклад. У газеце друкуем грунтоўны нарыс Станіслава Цярохіна пра Грунвальд, пра тагачасную ваенна-палітычную сітуацыю на Беларусі і яе памежжы. Дзяжурны па нумару афіцэр не вытрымлівае: — Национализм! Еще одна «Забытая слава», противопоставление русского и белорусского народов.

У рэдакцыю тэлефануе невядомы чытач: «Калі б мне далі аўтамат, то я пакрышыў бы ўсіх «проклятых националистов». Жудасна! Няўжо яшчэ жыццяздольная ў нас ідэя знішчэння роднага, спрадвечнага, лёсам і Богам наканаванага? Ці гэта мы так вырадзіліся? «Забіце мову!» — звініць у вушах. Звініць, як быццам кулі ўжо ляцяць побач.

То адкрыта, то ціхай сапай ідзе пошук экстрэмістаў, праяў экстрэмізму. Зноў паляванне. Ёсць з кім і з чым змагацца. І нашы апаненты не шкадуюць сіл. Але ці не экстрэмізмам з'яўляецца іх дружнае супрацўленне праўдзіваму адлюстраванню нашай гісторыі?

Беларускую мову найбольш спрытныя камандзіры імкнуцца зрабіць разменнай палітычнай манетай. Спрыяем таму і мы самі, маўклівыя, памяркоўныя (ці не занадта?) беларусы. Часам ціха пагаджаемся з вынікамі розных сацыялагічных апытанняў: што зробіш, калі адзінкі ведаюць мову, з кім тады працаваць афіцэрам? З кім? Так проста на гэтае пытанне не адкажаш. Але я ўпэўнены, што працаваць у такім накірунку неабходна. Праўда, убіваць у свядомасць беларускія словы, як цвікі, нельга. Гэта — справа пакаленняў. Але ж павага, шанаванне да Бацькаўшчыны павінны выхоўвацца ўжо цяпер. Дазволім забіць мову — дамо скнаць нашаму суверэнітэту і дзяржаўнасці!

---

ўвесь час нехта хадзіў, тузалі за ручку, званіў тэлефон.

... Калі ўсё скончылася, Валерый Віктаравіч надзеў свой пінжак, акуратна расклаў паперы на стале, расчыніў акно, пырснуў у паветра дэзадарантам і прапанаваў мне пачакаць яго з паўгадзіны на аўтобусным прыпынку за квартал ад нашага будынка... Потым ціха падышоў да дзвярэй, прыслухаўся, пацягнуў мяне за руку і літаральна выпхнуў у калідор».

Усё гэта было б вельмі смешным, калі б не было такім сумным. Так ці інакш, а Марыніна жыццё змянілася. Дадому Валерый Віктаравіч пачаў падвозіць яе на машыне, праўда, дзеля гэтага Марыначка разыгрывала цэлы спектакль: стаяла ў вызначаным месцы і старанна «галасавала». Быццам бы выпадкова побач спыняліся бэжавыя «Жыгулі». Марына для прыліку «таргавалася», і толькі пасля неабходнай паўзы садзілася ў машыну... На рабоце ён перыядычна выклікаў яе ў кабінет, выключна праз сакратарку. Апошнюю папярэджваў, што з паўгадзіны будзе заняты, прасіў нікога не пускаць. Тэлефонную трубку знімаў і клаў на стол... Потым, быццам нічога не здарылася, садзіўся насупраць і пачынаў задаваць ёй пытанні, звязаныя з работай. Асабістыя адносіны ніякім чынам не ўплывалі на службовыя — наадварот. Па ўстанове папаўзлі плёткі, і В. В. у мэтах «рэабілітацыі» аб'явіў Марыначцы вымову за спазненне на работу, хоць яна і адпрасілася напярэдадні. Марына, у сваю чаргу, аб'явіла байкот і пачала ігнараваць выклікі ў кабінет. В. В. пазваніў па тэлефоне і сказаў, што яе праца не адпавядае патрабаванням кіраўніцтва і ўзроўню ўстановы.

Марыначка здалася... У той вечар ён быў вельмі ласкавы, гаварыў розныя пяшчотныя словы. Прасіў прабачэння за ўсе непрыемнасці, абяцаў нават павысіць зарплату і пасаду. Ёй было так агідна, што хацелася плакаць. Падумаць толькі, ледзь не закахалася! Калі скончылася «абавязковая праграма», В. В., задаволены і супакоены, сеў за стол насупраць: «Цябе падвезці дадому ці дойдзеш сама?»

Іх адносіны доўжыліся гады два. Марына, звязаная па руках і нагах мамінай пенсіяй і частымі хваробамі дачкі, наведвала абрыдлы кабінет ужо хутчэй па інерцыі, упісаўшы гэта сабе ў працоўны абавязак. В. В. з аднолькавым запалам прызнаваўся ёй у каханні і аб'яўляў вымовы.

Магчыма, калі-небудзь хтонебудзь, класіфікуючы віды чалавечых пачуццяў, вывучыць як асобную з'яву тое, што «каранаваныя» асобы мужчынскага полу лічаць чамусьці бескарыслівым і светлым пачуццём, г. зн.— каханнем. Шкада мне іх, бедненькіх. Можа, яны і мараць па начах, прыгрэўшыся ля мажнога жончынага боку, пра нешта ўзнёслае і рамантычнае. Але... Каханне, як гэта ні трывіяльна гучыць, патрабуе ахвяр. Тым большых, чым вышэй узбіраецца мужчына па службовай лесвіцы. Вельмі лёгка сказаць «я аддам табе ўсё», калі нічога не маеш. І вельмі цяжка, калі маеш, сапраўды аддаць. Тут пытанне стаіць канкрэтна: або — або. Або кар'ера, або каханне. Кожны разумны мужчына гэта ведае. Захопішся больш чым трэба нечым адным — адразу пазбавіўшся другога. І наадварот. Вельмі рэдкія мужчыны згадзіліся б ахвяраваць сваёй высокай службовай планкай дзеля сапраўднага пачуцця. І хочацца, як кажуць, і колецца. Таму многія, імкнучыся ўседзець адразу на двух крэслах, ідуць на паўмеры, вылучаючы даму сэрца сярод сваіх падначаленых. Заўсёды — пад рукой, заўсёды знойдзецца падстава выклікаць да сябе, і ўвогуле вельмі зручна—здымае стрэс пасля ўсяляякіх міністэрскіх пасяджэнняў.

Ці ведаеце вы, мілыя мужчыны, якімі эпітэтамі ўзнагароджваюць вас вашыя абранніцы пасля свайго візіту? І як яны смяюцца з вас, распавядаючы лепшым сяброўкам пра ваш знешні выгляд — пры гальштуку, але без штаноў? Яны кпяць з вашай баязлівасці, з вашай невыкаранімай прывычкі тузацца ў бок тэлефона, калі ён звоніць «у самы разгар». Іх абражае ваш любімы «ментарскі» тон у інтымнай размове і ваша паспешлівасць там, дзе не трэба. Ім шкада вас за ваша імкненне быць добрым палюбоўнікам і пры гэтым усё ж заставацца начальнікам, не страчваць аўтарытэту. Яны ненавідзяць вас за ваша жаданне помсціць шляхам вымоў і звальненняў. Нават тут вы здольныя змяшаць у кучу асабістыя і службовыя інтарэсы. І разам з тым яны, здараецца, кахаюць вас менавіта за ўсе вышэйпералічаныя слабасці і недахопы (ці насуперак ім?), што зусім не здымае з вас адказнасці за свае далёка не мужчынскія паводзіны.

Не, заставайцеся ўжо лепей «шэфам», «босам», рэктарам, дырэктарам...

А калі вам і спадабаецца якая-небудзь жанчына, то проста скажыце ёй камплімент. Раніцай у панядзелак. І яна цэлы тыдзень будзе ўспамінаць вас з удзячнасцю.

# ЦІ ПАКЛІЧА СЭРЦА Ў ТРЫВОЖНУЮ ДАЛЬ?



*Памятаеце заклік «Партыя сказала — трэба...»? І што адказваў камсамол? Пад бадзёрыя гукі маршаў («маладым усюды ў нас дарога!») моладзь паступова адціралі ўсё далей на перыферыю грамадскага жыцця, адхілялі ад адказных спраў і рашэнняў: навязаныя стэрэатыпы скоўвалі не толькі сацыяльную, але і асабістую ініцыятыву.*
*Чаму так здарылася? Як жывуць юнакі і дзяўчаты цяпер? Як ставіцца да іх грамадства? Ці патрэбна сёння дзяржаўная маладзёжная палітыка? Чаго дамагаюцца грамадскія арганізацыі?*
*Адказы на гэтыя і іншыя пытанні спецыяльны карэспандэнт «Беларусі» Марат Бушэнка паспрабаваў атрымаць у людзей, якія непасрэдна займаюцца маладзёжнымі праблемамі.*

**Міхаіл ПАДГАЙНЫ, старшыня Камітэта па справах моладзі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь:**



## «МАЛАДОМУ ЧАЛАВЕКУ ТРЭБА ДАЦЬ МАГЧЫМАСЦЬ ЗНАЙСЦІ СЯБЕ»

**— На вашу думку, Міхаіл Васільевіч, якіх прыярытэтаў прытрымліваецца моладзь?**

— Пачну з палітыкі. Усе кажуць, што сучаснае грамадства надзвычай палітызавана. Па нашых даных у палітычных рухах на Беларусі ўдзельнічае не больш як 10% ад усяе моладзі. Трэба сказаць, што гэтая лічба характэрная для краін Захаду, Германіі, напрыклад.

Калі мы праводзілі апытанне сярод вучняў 9—10-х класаў, то атрымалі вельмі дзіўную лічбу — 94%. Менавіта столькі старшакласнікаў у хуткім часе бачаць сябе прадпрымальнікамі і бізнесменамі. І тут зноў напрошваецца параўнанне з Захадам. Там моладзь ацэньвае свае магчымасці куды больш рэальна, і гэта лічба не перавышае 10—16%.

Але, шчыра кажучы, праблема цэнасных арыенціраў у нас сур'ёзна яшчэ не вывучалася. Таму мы папрасілі Дзяржплан рэспублікі выдзеліць сродкі на фінансаванне трох даследчых праграм: без аналізу немагчыма прагназіраваць развіццё.

Зрэшты, нават без даследаванняў можна сказаць, што арыенціры ў моладзі, якой дзяржава так і не прапанавала но-

вай прывабнай ідэалогіі, значна змяніліся. Ідэя суверэнітэту выклікае рэзка адмоўную рэакцыю ў маладых бізнесменаў: ім патрэбна агульная эканамічная прастора. Што датычыць ідэі пабудовы «светлай капіталістычнай будучыні», то яна таксама ці не аформілася, ці ўспрымаецца негатыўна. Станоўчыя адносіны да прыватызацыі выказалі толькі 44,6% юнакоў і дзяўчат. Сярод студэнцтва — 71,9%.

Дарэчы, большасць філосафаў і палітолагаў лічаць, што капіталізацыя нясе з сабою крызіс культуры і духоўнасці. Трэба заўважыць, што рыначныя адносіны яшчэ на пачатку XX стагоддзя адмаўляла ўся расійская інтэлігенцыя.

І зноў зірнём на Захад, на які так модна цяпер спасылацца. І таму, калі на іх экранах з'яўляецца фільм накшталт нашай «Рускай рулеткі», дзе ўзвышаецца злачынца, то дзяржава робіць усё, каб зняць гэты фільм з пракату: дзяржаўная ідэалогія...

**— А што ўвогуле ўяўляе сабой сучасны маладзёжны рух Беларусі?**

— У рэспубліцы зарэгістраваны 24 арганізацыі моладзі, з якіх толькі 16 можна лічыць менавіта маладзёжнымі. У лістападзе мінулага года яны ўтварылі Нацыянальную раду маладзёжных арганізацый Беларусі. У яе кампетэнцыю ўваходзіць дапамога ў працаўладкаванні, выпрацоўка канцэпцыі развіцця маладзёжнага руху, каардынацыя яго дзейнасці вакол галоўных праблем. Безумоўна, дзейнасць Рады будзе ўплываць і на дзяржаўныя структуры, якія займаюцца маладзёжнай палітыкай. Іншымі словамі, у мяне ёсць нейкая апазіцыя. І гэта лічу нармальнай з'явай: галоўнае — будзе праз каго рэалізаваць дзяржаўную маладзёжную палітыку.

**— Ці ёсць якая-небудзь дзяржаўная структура, акрамя вашай, якая б займалася сёння праблемамі моладзі?**

— Ведаеце, раней аб ёй клапаціліся прафсаюзы, міністэрства жыллёвай і камунальнай гаспадаркі, міністэрства адукацыі і камсамол. Сёння ж рэальна ніхто не ў стане займацца гэтай справай: былога камсамола ўжо няма, Саюз моладзі Беларусі, які заняў яго месца, сам знаходзіцца ў цяжкім становішчы.

**— А ці не здаецца вам, што гэтыя клопаты могуць узяць на сябе спрытныя дзялкі!**

— У нечым так і атрымалася: толькі ў Мінску існуе пяць арганізацый, якія адшукваюць маладыя таленты для вучобы на Захадзе. Зразумела, што робіцца гэта не для таго, каб потым вярнуць іх на радзіму.

Добра, што міністэрства культуры яшчэ спрабуе стварыць канкурэнцыю заходнім вярбоўшчыкам, падтрымліваючы маладзёжныя творчыя конкурсы, тэатры і г. д.

**— І якое вы бачыце выйсце з такога становішча!**

— На аснове даследаванняў будзем фарміраваць дзяржаўную палітыку. Дарэчы, вопыт такой работы ўжо ёсць. У Брэсце і Магілёве, напрыклад, праведзены сацыялагічныя даследаванні, на падставе якіх распрацаваны адпаведныя мерапрыемствы. Заказчыкам выступілі нашы структуры, а выканаўцам — абласныя камітэты СМБ. Прыкладна па такой схеме працуюць і ў Першамайскім раёне Мінска. Такім чынам будзе фарміравацца дзяржаўная сістэма ўзаемадзеяння з маладзёжнымі арганізацыямі.

Плануем падрыхтоўку кадраў для работы з моладдзю за мяжой. На вельмі выгадныя для нас умовы пагадзіліся Германія і Швейцарыя.

Галоўная тэза нашай палітыкі ў тым, каб даць магчымасць маладому чалавеку знайсці сябе. Упэўнены, калі ён плённа будзе працаваць, то і сам сябе забяспечыць, і дзяржаве карысць прынясе.

**Сяргей ВАЗНЯК, першы сакратар ЦК ЛКСМБ:**



# «НАШ ЗОРНЫ ЧАС— НАПЕРАДЗЕ»

**— Сяргей, чаму менавіта Ленінскі камуністычны саюз моладзі! Ці не здаецца табе, што ў наш час такая назва можа напалохаць патэнцыяльных членаў тваёй арганізацыі!**

— Назва любой арганізацыі павінна адпавядаць яе мэтам. А паколькі мы называем сябе арганізацыяй маладых камуністаў, то мяняць назву няма неабходнасці.

**— А назоўнік «Беларусі» ў вашай назве выконвае ролю геапалітычнай «прывязкі» ці гэта нешта большае!**

— І тое, і другое. Але перш за ўсё гэтым мы хочам паказаць, што аб'ектам нашых інтарэсаў і імкненняў з'яўляецца менавіта беларуская моладзь.

**— Як камсамол збіраецца працаваць з гэтым «аб'ектам»!**

— Я і мае аднадумцы лічаць, што моладзь трэба не цягнуць назад, як робяць гэта па-неабальшавіцку настроеныя «радыкал-ідыёты», а весці яе ў XXI стагоддзе.

**— Шчыра кажучы, не першы раз чую ад цябе гэтыя словы і не магу зразумець — гэта поза ці абгрунтаваная канцэпцыя!**

— Мы лічым, што ў XXI стагоддзі будуць панаваць іншыя прыярытэты, яно стане эпохай рэанімацыі ідэалаў справядлівасці.

**—... Цяперашняе пакаленне будзе жыць пры камунізме!**

— Не трэба іроніі. Наўрад ці я змагу дакладна акрэсліць тэрмін, але гэта аб'ектыўны гістарычны працэс. Таму спадзяюся, што ў рэшце рэшт грамадства прыйдзе да светлай будучыні.

**— У такім разе вельмі цікава было б ведаць тваё разуменне камунізму!**

— Я разумею яго не зусім так, як трактавалася гэта паняцце яшчэ зусім нядаўна. У праграме КПСС было вульгарнае ўяўленне аб камунізме як аб вялізным і бяздонным карыце, ля якога можна бясконца смачна есці і піць. Камунізм — гэта грамадства сацыяльнай справядлівасці. Гэта не закончаны лад, бо палітычная сістэма знаходзіцца ў пастаянным руху, але гэта той лад, які непазбежна прыйдзе на змену капіталізму.

**— Дазволь не згадзіцца з табою. Няўжо ты не бачыш, што надзвычай дынамічныя працэсы ў сусветнай палітыцы і эканоміцы ідуць у адваротным накірунку!**

— Для таго, каб спазнаць мінулае, мала вывучаць гісторыю рэвалюцый. Трэба ведаць яшчэ і гісторыю рэстаўрацый. Кожная рэвалюцыя перажывала перыяд рэстаўрацыі. Такім чынам у нас цяпер перыяд пракапіталістычнай рэстаўрацыі. Як і ўсе астатнія, ён гістарычна недаўгавечны.

**— Сяргей, прабач, але, па-мойму, ад усяго гэтага вельмі ж патыхае гістарычным нафталінам. Няўжо ты пераканаы, што моладзь, якая сёння адышла ад палітыкі і горнецца бліжэй да камерцыі, будзе разбірацца ў такіх нюансах!**

— Мы рэальна ацэньваем папулярнасць палітыкі ў маладзёжным асяроддзі, тым больш папулярнасць камуністычных ідэй. Так, цяпер усе апанаваны



ідэяй паўтарэння «жыцця па Форду», які пачынаў з рабочага і стаў мільянерам. Але на самай справе Фордам стане адзін з дзясяткаў, калі не сотняў тысяч, а ўсе астатнія пойдуць да яго чорнарабочымі. Прычым далёка не ўсе — многія акажуцца на біржы працы. Вось тады яны і зразумеюць, што свае эканамічныя правы трэба здабываць праз палітыку. І вельмі добра, калі мець палітычную арганізацыю, якая б змагла аб'яднаць іх і дапамагчы ім. Мне здаецца, што ідэальнай арганізацыяй якраз і стане камсамол. Так што наш «зорны час» яшчэ наперадзе.

**— І апошняе пытанне. У ЛКСМБ каля дзвюх сотняў «актыўных штыкоў», супраць каго ты збіраешся іх накіраваць?**

— Я супраць такой пастаноўкі пытання. У рэзалюцыі свайго апошняга з'езда мы запісалі: 1) У ЛКСМБ ворагаў няма; 2) У яго ёсць праціўнікі, і рознагалоссі з імі вырашаюцца канстытуцыйнымі метадамі і шляхамі. А праціўнікі нашы — усе, хто не дае нармальна жыць простым людзям.

**Ігар МІХНО, камандант арганізацыі «Выбранецкія шыхты»:**



# «ПАЛІТЫКА ЗАБЯСПЕЧВАЕ ПАТРЭБЫ СЕННЯШНЯГА ДНЯ, МЫ Ж ПРАЦУЕМ НА БУДУЧЫНЮ»

**— Ігар, па-першае, чаму выбранецкія і чаму шыхты?**

— Выбранцы ў былым беларускім войску — гэта адборная пяхота з сялян і дробнай шляхты. Вельмі мабільныя, прафесійна цудоўна падрыхтаваныя вайсковыя падраздзяленні.

**— Аб тым, што з'явілася ваша арганізацыя, прэса пісала ўжо неаднойчы, а вось аб тым, чаму і для чаго яна ўзнікла, амаль ніхто яшчэ не чуў.**

— Колькі гадоў таму на Беларусі шырыўся маладзёжны рух нацыянальнага і патрыятычнага накірунку — Канфедэрацыя беларускіх суполак. Ён аб'ядноўваў каля 60 арганізацый: культурных, палітычных і розных іншых плыняў.

Са стварэннем БНФ некаторыя з іх уліліся ў Фронт. Гэта, па-першае. А па-другое, падрыхтоўчыя функцыі Канфедэрацыя выканала. Да таго ж, многія яе структуры сталі непрацаздольнымі. Вось тады і з'явілася патрэба ў маладзёжнай суполцы з акрэсленымі мэтамі і больш жорсткай дысцыплінай.

**— І якія ж гэта мэты?**

— Трэба сказаць, што палітычныя мэты мы не дэкларуем. Наша арганізацыя патрыятычная. Хаця часам мы не можам заставацца па-за палітыкай: напрыклад, у жніўні 91-га амаль усе выбранцы ўступілі ў нацыянальную гвардыю.

Галоўная наша мэта — патрыятычнае выхаванне моладзі. Усё астатняе, чым займаемся, я схільны аднесці да метадаў дасягнення гэтай мэты. Культурны рух, напрыклад. Самі вырабляем музычныя інструменты, нацыянальныя строі. У хуткім часе будзе свая майстэрня, а можа нават і дзве.

Важнае месца займае навуковая дзейнасць. Удзельнічаем у рабоце Цэнтра этнакасмалогіі «Крыўя», дзе абмяркоўваюцца пытанні этналогіі, культуры, нацыі.

Яшчэ адзін з накірункаў — экалогія. Саджалі дрэвы ў Мінску і Гомельскай вобласці. Дадам таксама, што амаль усе мы займаемся ў секцыях, думаем стварыць клуб па гульнявых відах спорту.

**— Усё, аб чым ты зараз гаворыш, я разумею як стратэгію «Выбранецкіх шыхтоў». А тактычныя мэты?**

— Перш за ўсё мы імкнёмся пахіснуць той устойлівы стэрэатып, што ўся наша нацыянальная свядомасць брыдзе праз галечу. Такое разуменне беларушчыны вульгарнае і небяспечнае. На самай справе, згодна даследаванням, некаторым народным песням па 4—5 тысяч гадоў.

Думаю, што Еўропа скажа дзякуй беларусам за кансерватызм. Каб не ён, чалавецтва страціла б нас як нацыю. Мы заўсёды падкрэсліваем: моладзі трэба вучыцца жыць у сваіх продкаў, свайго народа.

**— І наколькі папулярныя гэтыя ідэі сярод хлопцаў і дзяўчат?**

— Каб адказаць на гэта пытанне, трэба мець на ўвазе, што моладзь неаднародная не толькі ў палітычным сэнсе, але і па ўзросту. І калі старшакласнікі ахвотна ўспрымаюць нашы ідэі, то тыя, каму за 20, не вельмі. Назіраюцца тыя ж праявы, што і 5—7 гадоў таму. Той, хто тады зацікавіўся нацыянальным рухам, стаў свядомым чалавекам. Скажу больш, адбылася палярызацыя, прыкметней сталі нецярплівасць, непаразуменне паміж людзьмі.

**— Тваё растлумачэнне такой з'явы?**

— Дэзарыентацыя ў маладзёжным асяроддзі. У Вялікім Кастрычніку ўсе расчараваліся, а да беларускай ідэі так і не прыйшлі. Таму што не ведалі сваіх каранёў. Адчуваюць, што мы не зусім славяне, але і не ведаюць, што мы балты і што ў нас еўрапейская, заходняя, а не ўсходняя славянская арыентацыя. Беларускі ж нацыянальны рух пакуль што не ўплывае на свядомасць гэтай часткі моладзі, бо ён сам канчаткова не вызначыўся, не мае канцэпцыі.

**— Як, на твой погляд, будзе развівацца гэты прыхаваны канфлікт?**

— Пры натуральных умовах наша ідэя непазбежна стане прывабнай для многіх. Хутка людзі адчуюць, што гэта наша, роднае. Пакуль жа на Беларусі вельмі моцны ўплыў Расіі. Сярод моладзі яе палітыку праводзіць камсамол, і няблага, трэба сказаць, робіць сваю справу. Але гэта арганізацыя палітычная, а палітыка — справа недаўгавечная. Яна забяспечвае патрэбы сённяшняга дня, мы ж працуем на будучыню. Паглядзі сам. Паняцце дзяржавы з'явілася ўсяго некалькі тысячагоддзяў таму, а народ жыў заўсёды. І будзе жыць, нават тады, калі знікне дзяржава, бо гэта натуральны працэс. У народа будзе культура, мова і г. д. Таму і наш рух вечны.

**— Колькі членаў налічвае ваша арганізацыя?**

— Каля двухсот чалавек, але гэта актывісты. Вакол нас многа моладзі, якая нам спачувае, бярэ ўдзел у многіх мерапрыемствах.

Таму за колькасцю мы не гонімся. Бо да ўзроўню свядомасці, якая патрэбна нам, проста так не дарасцеш. Неабходна прачытаць нямала гістарычнай, культуралагічнай літаратуры, шмат аб чым даведацца, мець здольнасці да навуковай дзейнасці.

---

**Можна, канешне, згаджацца ці не згаджацца з меркаваннямі М. Падгайнага, С. Вазняка і І. Міхно. Некаторыя думкі лідэраў грамадскіх арганізацый выклікаюць, мякка кажучы, здзіўленне. Аднак марыць чалавеку не забароніш, як не забароніш па-свойму вырашаць надзённыя праблемы моладзі. У гэтых кароткіх інтэрв'ю мы нават не спрабавалі закрануць іх усе, хацелася адзначыць пытанні, якія не могуць не хваляваць. А такіх пытанняў шмат. Чаму, напрыклад, сярод кіраўнікоў любога рангу, сярод вядомых грамадскіх дзеячаў, вучоных і пісьменнікаў, якія дасягнулі значных поспехаў, мала маладых? Ці многія юнакі і дзяўчаты забяспечаны нармальнымі ўмовамі жыцця? Ці ўсе маюць работу, аб якой марылі? Грамадства непакоіць рост прастытуцыі, наркаманіі, бандытызму...**

**Чаму гэтыя праблемы так востра паўсталі менавіта цяпер? Хто вінаваты? Адназначна адказаць нельга. Тым не менш, думаецца, варта зазірнуць у мінулае. Людзі старэйшага пакалення пацвердзяць: яшчэ пяцьдзесят гадоў назад дзеці паўсюдна дапамагалі бацькам, а не жылі за іх кошт. А потым... Потым моладзь падтрымлівалі апякунскім паляпваннем па плячы і тымі кавалкамі, якія не лезлі ў рот старэйшым. Недавер, незадаволенасць і спарадзілі інфантылізм — схільнасць да паразітычнага ладу жыцця.**

**Яшчэ якіх-небудзь пяць гадоў таму найбольш палымяныя ідэолагі ўсур'ёз даказвалі, што хлопец, які гадзінамі танцуе ў дыскатэцы замест таго, каб вывучаць Маркса і Леніна, страчаны для грамадства. Сёння замест класікаў можна чытаць «Майн кампф», маршыраваць у сары крышнаітаў ці эсэсаўскім шынялі, спяваць белагвардзейскія песні, насіць значкі з выявамі Бандэры ці Сталіна, гандляваць паношанымі джынсамі, мець сваю камерцыйную лаўку...**

**Карацей кажучы, рабі, што хочаш. Але ці стала моладзь больш адукаванай, сумленнай, добразычлівай, працавітай? Хто дапаможа ёй стаць такой? І як? Шмат хто бачыў панацэю ў законе аб моладзі. Так, ён быў патрэбны. Неабходны. І летась Закон РБ «Аб асновах дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі» ўступіў у сілу. І што? Лягчэй стала дыхаць? Не!**

**На наш погляд, галоўнай палітычнай задачай застаецца змена адносін грамадства да моладзі. Яна не вырашаецца праз пастановы і нават законы. Гэта задача духоўная, і яе мы павінны выпакутаваць.**

**АДДЗЕЛ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫХ ПРАБЛЕМ.**



Леанід
**ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

*Пяць вершаў для А.*

▣ ▣ ▣

*Я прачытаў: адзін мастак,
Што золатам пісаў дыханне,
Тлумачыў жоўтае як знак
Найпраніклівага кахання.*

*Раней падумаў бы: мана,
Бо жоўты ж колер на разлуку
І ў жоўтай радасці няма
Ні кроплі радаснай, ні гуку.*

*Але цяпер са мною ты,
Твой цвет вядомы мне і
колер —
Ен поўны сонечнай вады,
Якой не высахнуць ніколі.*

*І я паверыў мастаку,
У лёс ягоны самагубны,
Што звон магільнага пяску
Дадаў у колер непадкупны.*

*Мастак той ведаў, што лягчэй
Магчыма жыць, але ці трэба?
І з пастарскіх яго вачэй,
Нібы з турмы, глядзела неба.*

*Спакоем кінуты і сном,
Ад самагубства раіў шчыра
Лячыцца хлебам, і віном,
І правансальскім жоўтым
сырам...*

*Тут і ўзышла сляза твая
Над патаемным нашым садам,
Табе здалося, што і я
Той карыстаюся парадай;*

*Табе здалося, што жыву,
Як не жыву — адно чакаю,
Дзе б гэта скласці галаву
Дзеля імгненнага адчаю,—*

*І самагубства па мяне,
Як па даступную ахвяру,
У канапляным лахмане
Ідзе, падобнае на Мару...*

*Павер, павер: усё не так,
А ў тым, што расказаў такое,
Магчыма, вінен той мастак,
Што закахаўся ў жоўты колер.*

*Прабач, каханая, цябе
Сваёю кніжнаю трывогай
Я напалохаў і цяпер —
Я варты кары самай строгай.*

*Я ні душой, ні галавой
Не адчуваю адцвітання,
Бо адчуваю колер твой —
Найпраніклівага кахання.*

*А на яе — слязу тваю —
Гляджу і цешуся нямала:
Пяецца лёгка салаўю
Там, дзе яна ўзышла-упала.*

*12 чэрвеня — 20 чэрвеня 1992.*

▣ ▣ ▣

*Х а ч у ўзыходзіць над м а г у
У хвілю самую бязбожную.
Я ў сэрцы кволасць берагу —
Сваю саломінку апошнюю.*

*Я ведаю: не патану,
Паверхні не згублю алмазнай,
Адно — мой голас пойдзе дну
Пра страхі ясныя расказваць.*

*Не буду замінаць яму,
Няхай сабе распавядае,
Што страхаў не пазбыць таму,
Хто па-сапраўднаму кахае;*

*Што па-над ястрабным х а ч у
М а г у жураўнае не ўстане,
І праз персідскую парчу
Цвяток радзімы не прагляне;*

*Што на саломінцы надлом
Вясёлай ніткаю віецца
І Апалонавым святлом,
Страх не пазбыўшы, марна
грэцца;*

*Што застаецца — цішыня,
І асака, і ноч рудая,
Калі марудна цеплыня
Крой маладую пакідае.*

*20 кастрычніка 1991.*

▣ ▣ ▣

*Хацеў бы я па вечарах
З удумлівасцю лістападнай
Па снах тваіх і валасах
Жыццё далейшае разгадваць...*

*Мной не спазнаная яшчэ,—
Паўз надпісы «Лянок» і
«Мода»,—
Да плошчы Коласа цэчэ
Евангельская прахалода.*

*І я хацеў бы ў гэты міг,
Як лепшую страфу, паднесці
Да звонкіх валасоў тваіх
Сэнс лістападны дабравесця.*

*Каб неспакойнае «ало»
Згубіць у тэлефонным гудзе,
Забыць пра тое, што было,
І цешыцца з таго, што будзе.*

*Але ці мала што хацець
Душа надумае ў змярканні,
Калі праніклівая смерць
Глядзіць спакойна на каханне;*

*Калі дыханне ў каўняры
Спыняецца і мне даводзіць:
«Смерць і каханне — дзве
сястры
Твае... І ты іх брат,
выходзіць...»*

*І я згаджаюся, што брат,
І рады гэтаму сваяцтву —
Якіх яшчэ вялікіх страт
З такімі сёстрамі баяцца!*

*Пакіне музыка мяне,
Звядзе на струнную мякіну,—
Яны ж і пры апошнім сне
Мяне ніколі не пакінуць.*

*Дзве блізкія мае сястры,
Але не па крыві — па страху;
Яны спатоляць без пары
Маю евангельскую прагу.*

*І ты — ім блізкая сястра...
І нам пакінута надзея
Ісці да Паўла і Пятра,
Шлях пачынаючы з Мацвея.*

*14 кастрычніка 1991.*

▣ ▣ ▣

*Паэты любыя, вы ўсё маглі,
Таму не дзіва, што ў вачах
каханых
Вы мора бачылі, і караблі,
І свой апошні дзень, у кут
загнаны.*

*Але ці бачылі вы туманок,
Той самы, што пад позіркам
панурым
Пазвоньвае, як сонечны пясок,
У звонікі іконнай
кампанулы,—*

*А пад вясёлым позіркам маім
Празрысты робіцца
і лістападны
І ў пацалункавы ерусалім
Па небу шлях паказвае
дакладны,—*

*І слова кожнае, і кожны верш
У вільгаць апускае залатую,
Дол агародны і нябесны верх
Сабою ясніць у пару любую...*

*Паэты любыя, вы ўсё маглі.
Агнём ласкавым налівалі
шклянкі,
Якія прыгажуні ў вас былі
І вечары яснейшыя за ранкі!*

*Але ці быў у вас хоць міг
адзін,
Ахоплены павойным
неспакоем,
Калі жанчына лепшая з
жанчын
Вам уяўлялася Гарынь-ракою;*

*Калі яна свой ашчаджала час
І хваляй паўставала
немагчымай;
Калі яна расказвала пра вас
Не музыкай, не словам,—
а вачыма.*

*6 кастрычніка 1991.*

▣ ▣ ▣

*Да сімфанічнага спакою
Плыла, не чуючы званка,
Па-над трамвайнай каляёю
Твая трывожная рука.*

*Я — п'яны хлапчукоўствам
нейкім —
Цябе не папярэджваў: стой!
Зусім не бачыў небяспекі
На гэтай вуліцы пустой.*

*Твая рука, расу ляўконій
Захоўваючы ў халадку,
Да сімфанічнага спакою
Выводзіла маю руку.*

*Твая рука жарынкі цыній
Не астуджала, берагла
І перунам трамвайных ліній
Сцяблінкі светлыя дала.*

*І лінію трымала лёсу
Майго... І ад яе цяпла
Цвіла мядовая меліса,
І сальвія ў Гарынь цякла.*

*Дзяцінства ранак местачковы
Я ўспомніў праз тваю руку,
І зноў я — Лёнік Васілёвы
У бестрамвайным гарадку.*

*І зноў да флёксаў і да макаў
З гары Царкоўнае лячу,—
Тады не знаў журбы ніякай
І сёння ведаць не хачу.*

*Дык адыдзі, журба старая,
І смутак юны, прападзі —
Пад колы мінскага трамвая
Мая нярадасць упадзі.*

*Хачу спакою ўсіх сімфоній
І мецъ абедзвюх рук спакой —
Трывожнай, што ў маёй далоні,
І той рукі, што не ў маёй.*

*27 верасня 1991.*

# З ВЕРАЮ Ў БОГА І Ў СВ
# БЕЛАРУСКАЯ

***«Я быў уражаны службай і духам, які пануе ў часе набажэнства ў храмах Беларускай аўтакефальнай царквы. Зразумела, служба ідзе па-беларуску. Мяне проста ашаламіла, як яны кажуць малітвы за шчасце Беларусі, за беларускі народ, за душы беларускіх пакутнікаў». Такія ўражанні ад сустрэч з амерыканскімі і канадскімі суродзічамі прывёз са сваёй першай заакіянскай паездкі ў складзе групы парламенцкай апазіцыі ў красавіку 1991 года народны дэпутат рэспублікі Лявон Баршчэўскі.***

***Асаблівую ролю царквы ў жыцці беларускай эміграцыі зазначалі многія, каму давялося апошнім часам пабываць за мяжой. Нават «пераканаюы паганец», як ён сам сябе жартам ахрысціў, вядомы наш паэт і спявак Сяржук Сокалаў-Воюш не абмінуў сцвердзіць, што Беларуская аўтакефальная царква для амерыканскіх суайчыннікаў мае вызначальнае месца ў іхніх згуртаваннях. І на доказ высновы падараваў фотакартку, на якой — ён ля царквы св. Еўфрасінні ў Саут-Рыверы.***

***Намі, якія ў Веры маюць больш унутранай спантаннай самадалучанасці, чым вонкавай арганізаванай рытуальнасці, такое яскравае царкоўнае жыццё эміграцыі ўспрымаецца не зусім асэнсаванаю ці, дакладней, натуральнаю з'яваю.***

**Наталья АРСЕНЬНЕВА**

## УСКРЭСНІ!

*Ен уваскрос,*
*Ен — дзесь між намі,*
*Ен там, дзе ў срэбным пыле лоз,*
*у сіняй смузе над палямі*
*вісіць вясна...*
*Ен уваскрос.*
*Ускрос,*
*і зноў па Беларусі*
*перад сабой ідзе Хрыстос...*
*Здымае з душ настылых вусьціш,*
*багаслаўляе соладзь кроз,*
*сяліб раськівданых прысады,*
*муры нязьлічаных вязьніц*
*і тых, што пагублялі радасьць*
*па кроплі кропля й дзень па дні...*
*Ідзе Хрыстос... Над ім дугою*
*ўстае густы блакіт нябёс,*
*а ногі ў ранах незагойных*
*кладуць сьляды на шэрань рос...*
*Дык прыпадзем*
*і вусны спалім*
*на тых сьлядох, што*
*Бог-Хрыстос*
*губляе, моўчкі йдучы ў далеч,*
*бо Ен ускрос,*
*Ен уваскрос!*
*Няхай над родным*
*папялішчам*
*усьцяж галосіць нема лёс,*
*няхай крывавяць нас*
*і нішчаць —*
*ускрэсьне Край,*
*бо й Ен ускрос!*
*Мацней за сьмерць,*
*за ўсё,*
*каханьне*
*зямлі, дзе ад дзіцяці ўзрос...*
*Устань-жа, ўстань,*
*ускрэсьні сяньня*
*мой Край, як уваскрос*
*Хрыстос!*

— Каб не царква, то і наша пасляваенная эміграцыя згінула б гэтак жа бясследна, як і дзве папярэднія. Кожны, хто пайшоў у чужую царкву, стаўся страчаным для нашага народа.

Спадар Мікола Ганько, ад якога я пачула гэтыя словы, уваходзіць у склад Рады Беларускай аўтакефальнай царквы і з'яўляецца адным з самых паслядоўных яе стваральнікаў на працягу больш як сарака гадоў. Летась ён два разы прыязджаў на радзіму, і гэтае інтэрв'ю ёсць вынік маіх сустрэч з ім.

— Вера ў Бога, штодзённыя малітвы за Беларусь, згуртаванасць вакол цэркваў давалі нам упэўненасць у справядлівасці нашай нацыянальнай справы. Вера дапамагла нам перанесці маральныя ўціскі і грашовыя нястачы, расстанне з Бацькаўшчынай і сум па родных. Падкрэслю, вера ў Бога і ў Боскае прызначэнне свайго народа без усялякіх кампрамісаў дзеля імгненных выгод. І тут, у Беларусі, царква сёння — адзін з тых галоўных рухавікоў, які прывядзе краіну да сапраўднай незалежнасці. Бо хто валодае душамі, той кіруе і грамадствам. Нашыя нацыянальныя дзеячы, якія выехалі на Захад як палітычныя эмігранты, добра гэта разумелі. Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Мікола Абрамчык — найпершы з іх. Ён быў чалавекам грунтоўна адукаваным і разумным палітыкам, ад самага пачатку жыцця на чужыне рупіўся, каб Беларуская аўтакефальная царква не знікла і на эміграцыі. А дзеля яе ліквідацыі не толькі тут, але і там былі ўсе высілкі ворагаў беларушчыны. Бесперапынныя псіхалагічныя і ідэалагічныя атакі вытрымлівалі мы ад польскіх і ад расейскіх эмігранцкіх груповак, ішлі перашкоды і адсюль, з Беларусі. Бо ўсе працаўнікі сапраўднай нашай незалежнасці ведалі, што калі сітуацыя з царквой дойдзе да сённяшняга стану там, то рэлігія стане апорай для нацыянальнага адраджэння і тут. Але ж царква па сваёй структуры такая арганізацыя, што рабіць яе трэба паволі, дэталёва. Людзі нязвыкла ўспрымаюць кожны новы гук, які чуюць у храме. А тым больш, мову ўсяго набажэнства. Цалкам беларускай літургія ў нашых храмах стала дзесяць гадоў таму. А пачыналі з «Апостала». Потым загучалі беларускія казані і Евангелле. Яшчэ праз колькі часу гімн «Магутны Божа» стаўся часткай літургіі. Паступовасць займала многія гады.

— Як усё ж вы здолелі арганізаваць сваё царкоўнае жыццё, калі не было нават будынкаў для храмаў?

— Епіскапат усіх пяці епархій выехаў з Беларусі разам з іншымі нацыянальнымі дзеячамі ў 44-м годзе. У хуткім часе Руская замежная царква прапанавала нашым епіскапам свае епархіі. Так мы засталіся без іерархаў, а разам і без значнай часткі вернікаў, якія пайшлі ў рускія цэрквы да былых беларускіх епіскапаў. Ад гэтага часу сталіся дзве замежныя супольнасці беларусаў: тыя, хто пайшоў у Рускую замежную царкву, і тыя, хто стварыў свае парафіі пад юрысдыкцыяй Усяленскага Патрыярха. Але мы хацелі мець сваю царкву. Святары былі, ды без епіскапаў аўтакефаліі не адновіш. У гэты цяжкі час нам дапамагла Украінская аўтакефальная царква, блаславіўшы беларусам епіскапа Сергія. Сергій вывеў нас з чорнай гадзіны нашай роспачы, злучыў нашу паству, узгадаваў святароў. А на ўзвядзенне храмаў людзі грошай не шкадавалі. Ды ўсё ж якой бы ахвярнасцю мы не намагаліся зладзіць свае цэрквы, нашых высілкаў было замала, каб святары рупіліся толькі аб духоўных чынніках. Ад пачатку яны ўсе працавалі яшчэ і дзеля існавання фізічнага.

— Калі я правільна вас зразумела, спадар Ганько, царкву на эміграцыі стварылі найперш вернікі, а не наадварот, як таго чакаюць многія тут?

— Уплыў на святароў можа быць толькі ад народа. Калі свядомыя людзі пойдуць у храм і будуць дамагацца беларускае службы, то гэта паўплывае і на мітрапаліта. А пры такой пасіўнасці, як цяпер, хуткіх перамен чакаць не даводзіцца. Ды ўсё ж зрухі ёсць. Між двума маімі прыездамі было ўсяго шэсць месяцаў, але і за гэты час, між іншага, з'явіліся праўдзівыя звесткі па гісторыі царквы, многія святары сталі прамаўляць казані на роднай мове. Асабліва ж аптымізму мне дадалі ўрачыстасці з нагоды 1000-годдзя Полацкай епархіі. Усюды, дзе йшло свята, было мора народу. У Полацку, калі я ішоў у Хрэсным ходзе з Сафійскага сабора, то, як агляннуўся, адразу ўспомніў рэлігійны ход па Менску на Вадохрышча ў 44-м. Мы з сябрам забеглі тады наперад, да Свіслачы, дзе на лёдзе быў высечаны крыж, ды слухалі ўзнёслыя псалмаспевы хору, дзівячыся на Святадухаўскую горку, якая была спрэс абсыпаная народам.

**Казалі, што ў той дзень прыйшло на свята блізу 100 тысяч чалавек. Я той ход узгадваю цераз усё жыццё. Гэта быў, можа, адзін з самых вызначальных момантаў маёй непахіснай Веры. 48 гадоў прайшло, але — дзіўная рэч — у Полацку я перажываў тыя ж узрушаныя хвіліны, якія паказваюць, што беларускі народ ужо здольны ўсвядоміць сябе ў Боскім прызначэнні. Ён уваскрасае да магчымасці злучыць у сабе веру ў Бога, прагу духоўнае волі і рупнасць аб палітычнай незалежнасці...**

**Валянціна АКСАК.**

# ...ОЙ НАРОД ЖЫВЕ — ...АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ЦАРКВА

Ірына ЖАРНАСЕК

*Не ведаю тых песень. Сама іх ніколі не спявала, а слухала толькі раз на год. На Вялікдзень. І было тое ў далёкай і светлай краіне дзяцінства...*

## ВАЛАЧОБНІКІ

Тыя дні, тыя песні засталіся недзе далёка, за заслонай лёгкага туману, які яшчэ не з'ядае, не псуе жывое, але які ўжо ёсць, і ты ад гэтага нікуды не дзенешся. Гэты туман, як запатнелае акно, за якім спяваюць на Вялікдзень свае песні-зычэнні валачобнікі, ці, як іх у нас называлі,— хрыстосьнікі. Па велікодным сняданні, калі бацькі, прытомленыя пасля начной імшы, прылягалі адпачыць, раптам расчыняцца нарасхрыст дзверы і ўскочаць у хату расчырванелыя, узбуджаныя мае сябры:

— Хрыстосьнікі ідуць! Хрыстосьнікі!

У хаце — узрушанасць. Бацькі атрасаюць дрымоту і разам з намі выглядаюць у вокны: а ці шмат сёлета валачобнікаў! А хто ж там ходзіць! А ці галасістыя ж хаця!

А яны, адспяваўшы пад акном у суседа і склаўшы ў вялікі лазовы кош пачастункі, набліжаюцца, задаволеныя, усмешлівыя, да нашай хаты. Мы прыліпаем да акна і раз-пораз выціраем запатнелыя шыбы растапыранымі далонькамі, старэйшыя трымаюцца воддаль.

— Хрыстос васкрос! — гукае пачынальнік дзядзька Стась.

— Праўдзіва, уваскрос!

І грымнула песня пра Хрыстосава з мёртвых паўстанне, пра найвялікшы цуд свету, перамогу дабра над злом. А пасля — шматлікія зычэнні — гаспадару, гаспадыні, дзецям, сур'ёзныя і смешныя, але ўсе яны зычаць толькі дабра. Адна песня скончылася, другая пачалася — згаворвацца музыкам ды спевакам не трэба: усё на памяць ведаюць. Нарэшце хрыстосьнікі адкланьваюцца, і маці спяшаецца да іх з пачастункам. Гжэчны дзядзька Стась цалуе ёй руку, і вясёлы гурт выпраўляецца далей, ведаючы, што ў кожнай хаце яго чакаюць. І над вёскай зноў разлятаецца песня пра Уваскрэсенне...

Усё гэта было так даўно...

Настолькі даўно, што забылася, засланілася другімі падзеямі. Дый не дзіва, бо неўзабаве сціхлі тыя галасы, і з году ў год не гучалі болей у нашай дый у суседніх вёсках валачобныя песні. Чаму? Таму, што надышоў нядобры час, калі за нас думалі й вырашалі іншыя, тыя, што былі пры ўладзе: якія нам песні спяваць, у каго і ў што верыць.

Зніклі не толькі валачобныя песні. Знікла... Але пачакайце... Хіба ў душах знікла адчуванне свята! Хіба з-за таго, што людзі, тоячыся ад тых, хто «правіў баль» у нашым краі, ішлі перад Вялікаднем на споведзь, хавалі на Вербніцу вярбу ў сумках, дзеці загортвалі ў прамакаткі шалупінне ад чырвоных яек (каб, крый Бог, не ўбачыла піянерважатая), хіба ж з-за ўсяго гэтага мы адцураліся ад самога свята! Хіба яно зрабілася менш дарагім для нас!

Не. Яно толькі быццам прыціхла, быццам засаромелася за нас, што хавалі свае светлыя і добрыя пачуцці ад тых, што не здольныя адчуваць нічога такога. Што ўжо там «адчуваць» — хоць бы шанаваць вякамі ўстаноўленае... Ды не пра іх гаворка.

Дык вось летась...

— Хрыстосьнікі пяюць!

— Ці чуеце! Хрыстосьнікі на тым канцы вёскі пяюць!

...Іх няшмат. Сярод іх няма ўжо вясёлага жартаўніка дзядзькі Стася. Няма ягонага памагатага скрыпача. Не, не тыя валачобнікі. Няма ў іх і скрыпкі. Але затое ёсць... магнітафон. Пасля ўжо адкрылася і маленькая хітрасць: па радыё гучалі валачобныя песні і мужчыны запісалі іх на магнітафон. Не ведаючы добра слоў, мелодый, яны ўсё адно адважна выправіліся віншаваць вяскоўцаў. Як умелі — так і віншавалі, шчыра жадалі здароўя, шчасця, прыбытку ў хаце, а пасля ўключалі магнітафон і падцягвалі невядомым жанчынам. Але калі падыходзіла чарга прыпеву, гурт дружна, па-заліхвацку падхопліваў: «Хрыстос васкрэсе Божа» альбо «Хрыстос васкрос на ўвесь свет».

Бацька смяецца, круціць галавой: «Нябожчык Стась не гэтак трохі спяваў. Але і гэтыя малайцы. Дадумаліся ж!»

А маці выцірае вільготныя вочы далонню: «Дзякуй, мужчынкі! Дзякуй!» І нясе пачастунак, ды кладзе яго не ў кош з вечкам, а ў скураную сумку, што вісіць на плечуку ў маладога хлопца.

Хтосьці з хрыстосьнікаў смяецца:

— Выбачай, цётка, не надта важна мы пяём. Але ўжо ж — як умеем. Мы, цётка, налета так заспяваем! Абы жывыя былі — а заспяваць то заспяваем! І ўжо без магнітафона!

— А каб вас Бог любіў! Спявайце!

...Мінуў год. І я ведаю, што пасля Усяночнай, пасля сняданне, як і тады, у далёкім дзяцінстве, буду зноў чакаць, калі пад акном бацькоўскай хаты заспяваюць валачобнікі.

Ці заспяваюць!..

Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

*Сантыменты да Вільні, якія ўзнікалі ў наведвальнікаў гэтага незвычайна цікавага ў гістарычным аспекце горада,— з'ява зразумелая. Асабліва ў тых, каму неабыякавая гісторыя сваёй радзімы, хто імкнецца ўсвядоміць сябе ў гэтай гісторыі. За гэтымі старонкамі роздуму над складаным лёсам Вільні паспрабуем распачаць нашы вандроўкі ў часе і прасторы, шукаючы тут помнікі беларускай гісторыі і культуры...*



# СТАРАЖЫТНАЯ ВІЛЬНЯ,











# БЕЛАРУСКАЯ ВІЛЬНЯ

На фасадзе дома, што на рагу вуліц Вялікай і Шкляроў — злева ад брамы,— мемарыяльная табліца ў памяць аб беларускім першадрукару Францішку Скарыне. Яна паведамляе, што з 1522 да 1525 года ў Вільні беларускі асветнік Францішак Скарына выдаваў першыя друкаваныя кнігі ў Літве.

Калі зазірнуць праз браму, дык убачым у панадворку адрэстаўрыраваны старасвецкі дамок, збудаваны недзе ў XV ці пачатку XVI стагоддзя. Мяркуюць, належаў ён бурмістру Вільні Якубу Бабічу.

Як падаецца ў біяграфіі Скарыны, пакінуўшы ў 1520 годзе Прагу, ён пераехаў у Вільню і абсталяваў сваю друкарню ў доме Якуба Бабіча. Дом у панадворку і лічыцца месцам, куды перавёз Скарына сваю друкарню з Прагі. Менавіта тут і была надрукавана «Малая падарожная кніжыца» (1522 г.) і «Апостал» (1525 г.). Цяпер гэты дом займае аб'яднанне фатографаў, тут часта адбываюцца выставы мастацкай фатаграфіі.

Калі павярнуць на вуліцу Шкляроў ды зайсці ў панадворак дома, які значыцца пад № 4, дык пабачым тут тую самую адрэстаўрыраваную камяніччку — гіпатэтычнае месца, дзе была друкарня Францішка Скарыны,— але ўжо з другога боку. У цэнтры невялічкага, вельмі ўтульнага панадворка пастаўлена скульптура літоўскага скульптара В. Круцініса з афіцыйнай назвай «Летапісец», але агульна прынята лічыць, што фігура гэтая сімвалізуе постаць першадрукара.

Скарына прыехаў у Вільню ўжо з салíднай падрыхтоўкай і не з пустымі рукамі. За ім былі гады друкарскай і выдавецкай працы ў Празе, дзе ён выдаў сваю славутую Біблію, перакладзеную на старажытную беларускую літаратурную мову.

Літоўскі гісторык Лявас Уладзіміровас піша пра гэта так: «Рука ў выдавецкай справе была ўжо «набіта», неабходнае абсталяванне гатова і асвоена, а перанясенне друкарні з Чэхіі бліжэй да чытача — у Вільню — абяцала новыя магчымасці. Гэты сталічны горад на праву лічыўся буйнейшым цэнтрам літоўскай і беларускай культуры. (...)

Кніг у Вільні, як у кніжных зборах, так і на мясцовым кніжным рынку, было вельмі мала, і яны не маглі задаволіць усцяж узрастаючых тут культурных запатрабаванняў. Вось з-за гэтага з'яўленне ў Вільні Скарыны з яго выдавецкімі планамі трэба разглядаць як вельмі важнае здарэнне ў культурным жыцці літоўскай сталіцы».

Пра Францішка Скарыну і значэнне яго выдавецкай дзейнасці для Вільні і ўсяго краю дужа хораша напісаў літоўскі паэт і драматург Юсцінас Марцінкявічус у сваім «Дзённіку без дат». Варта прывесці тут яговыя словы: «Ніхто гэтак не паслужыў чалавеку, ніхто гэтак высока не падняў яго душы і ніхто гэтак не цярпеў разам з чалавекам, як кніга. Перад ёю блякнуць усе цуды свету, яна калыска ўсіх дасягненняў навукі і тэхнікі, маці ўсіх нашых духоўных сіл. Калі-небудзь прыход кнігі да чалавека будзе прыраўняны да выкрадання божага агню,— чым жа мы баронімся ад звяроў цемры, калі не кнігай, чым грэем загрубелую душу, чыё святло вяло і вядзе нас праз лабірынты свету і нашых уласных сэрцаў? Дзіўна, што мы да гэтага часу не паставілі ёй помніка. А можа, усё тое, што стварыў, зрабіў чалавек, і з'яўляецца нічым іншым, як грамадскім жывым помнікам кнізе, які творыцца ўсімі і паўсюль?

Калі мы так думаем пра гэты найвялікшы цуд чалавецтва, то асаблівы сэнс і хараство набывае подзвіг першых майстроў кнігі, яе стваральнікаў, тое праметэеўскае святло, якое ў цемрах гісторыі лілося ад іх сэрцаў і ад іх рук...

Шчаслівы горад, які сёння можа ганарыцца тым, што 450 гадоў назад прыняў доктара сямі вольных навук, Францішка Скарыну, з ягонымі шрыфтамі і нескладанымі друкарскімі станкамі, з яго высакароднымі гуманістычнымі асветніцкімі мэтамі і планамі. Шчаслівы горад, які пад сваімі дахамі выдаў першую ў Вялікім княстве Літоўскім друкаваную кнігу. І ніхто так прыгожа не аддзячыўся Вільні, як сам Францішак Скарына, напісаўшы ў сваіх выданнях, што гэтыя кнігі адціснуты «ў слаўным у вялікім горадзе Вільні». Ізноў парадокс гісторыі: гэты слаўны горад Вільня, выпусціўшы ў свет першую беларускую кнігу, а праз шэсць дзесяцігоддзяў і першую латышскую кнігу, дзеля розных прычын не стаў, на жаль, радзімай першай літоўскай кнігі. Калі б можна было рабіць закіды гісторыі, то гэты наш закід быў бы самы балючы для старой Вільні...

Ніхто з наведвальнікаў Вільні напэўна не абміне ансамбля гатычных касцёлаў бернардзінцаў і св. Ганны, помнікаў XVI стагоддзя. Насупраць іх знаходзіцца і трэці касцёл — гэта касцёл св. Міхала ў стылі рэнесансу. Але перад ім на рагу вуліцы бачым старажытны будынак з кантрафорсамі, збудаваны, мабыць, яшчэ ў XV стагоддзі, але напэўна не пазней першай паловы XVI стагоддзя.

Гэты палац — сядзіба Льва Сапегі, прадстаўніка слыннага магнацкага роду на Беларусі, выдатнага палітычнага дзеяча тагачаснай Літвы. Ён займаў адказныя дзяржаўна-адміністрацыйныя і ваенныя пасады: быў віленскім ваяводаю, канцлерам, а пазней і гетманам Вялікага княства Літоўскага. Быў стваральнікам Літоўскага трыбунала, які ўзнік у 1581 годзе, складальнікам трэцяй рэдакцыі Статута Вялікага княства Літоўскага, які ў 1588 годзе яго ўласным коштам быў надрукаваны на беларускай мове ў друкарні братоў Мамонічаў у Вільні. Даследчыкі лічаць, што ўпарадкаваннем пісанага права і выданнем Статута Сапега здабыў для сябе шчырую ўдзячнасць сучаснікаў і пакінуў яркі след у гісторыі дзяржавы. Статут быў адзіным зборам законаў XVI стагоддзя ў Еўропе, а таму разглядаецца як з'ява прагрэсіўная і па свайму зместу, і па часе ўзнікнення.

У сваёй палітычнай дзейнасці Леў Сапега стаяў на прынцыпе рэлігійнай талеранцыі, імкнуўся па магчымасці захаваць незалежнасць Літоўскага княства ад Польскай Кароны, што ў вялікай меры абмяжоўвалася Люблінскай уніяй 1569 года. Літоўскі статут, сеймавыя выступленні Льва Сапегі, складзеныя ім граматы і яго перапіска з'яўляюцца ўзорам старажытнай беларускай літаратурнай мовы, якая ў XVI і пачатку XVII стагоддзяў дасягнула свайго найвышэйшага развіцця.

У Вільні роду Сапегаў належаў яшчэ багаты палац з вялікім паркам на Антокалі, але ён адносіцца ўжо да помнікаў пазнейшай архітэктуры. Непадалёк адтуль — незабудаваны абшар, паркавая зона горада, з лясочкамі і ўзгоркамі, які захаваў назву гэтага магнацкага роду — Сапегіне. Улетку гэта месца спацыраў і адпачынку, а зімой шыро-

**Заканчэнне на стар. 24—25.**



## СТАРОНКІ З ДЗЁННІКА

Адляцела ў нябыт
Зорка Палын.
Пусцеюць, зарастаюць
чарнобылем-
палыном
дарогі, палеткі, вясковыя двары
ў «радыяцыйнай зоне бяды».
І адлічваюць трывожныя дні
і ночы
чарнобыльскія званы.
Пачынае свой астранамічны адлік
і восьмы год ад Чарнобыля —
трагічнага і горкага,
як палын.
26-е красавіка 1986 года.
Чацвёрты блок ЧАЭС.
Бэры. Кюры. Цэзій. Саркафаг...
Шмат пра якія сакрэты даведаліся мы
з таямніц «саркафага» і Крамля
за сем паслячарнобыльскіх гадоў.
Шмат перажылі,
калі знаёміліся ў прэсе
з рассакрэчанымі
дакументамі з архіваў
Старой плошчы,
пазначанымі грыфам «Сакрэтна».
Многія з тых дакументаў
сёння няблага было б
растыражаваць
пад грыфам зусім іншым —
«Цыто»,
што значыць — тэрмінова!
Бо заўтра будзе позна.
Бо заўтра пра цану жыцця
нам давядзецца спытаць
у мёртвых.
...А жыццё не канчаецца.
І працягваецца бой за лёсы
і жыцці
тых людзей, каго закранула
сваім
страшным крылом чарнобыльская
бяда.
Гэтай тэме прысвячаецца
наш сённяшні
«Чарнобыльскі блок».

**Аўтар гэтых нататак**
**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ**
**пасля катастрофы на ЧАЭС**
**апрануў ваенную гімнасцёрку.**
**Пазней такіх як ён,**
**мабілізаваных ваенкаматамі**
**для «выканання адказнага**
**спецзадання Савецкага ўрада»,**
**назвалі «ліквідатарамі».**
**Што адкрылася**
**іх вачам там,**
**у пакінутых вёсках?**
**Што перадумалася,**
**адчулася?**
**Што засталося ў памяці?**





іквідатары стаяць каля веснічак і ціха гамоняць.

— Уся Габраўка на замку, нават пуні і хлявы зачынены,— тлумачыць вымушаны перакур камандзір узвода Анатоль Шляшко.

— Вось толькі гэтую бабулю заспелі ў хаце.

Гаспадыня — маленькая, сухая бабулька ў паношанай плюшаўцы і вышытым фартушку — старанна падмятае падгнілы ганак. Знаёмімся: Марыя Фамінічна Курака — пенсіянерка.

— Не хочам мы вашай «акцівацыі», вось і зачыняемся,— з-пад выцвілых броваў-каласкоў зыркаюць сярдзітыя вочы.— Нічога ж не лепшае, толькі жвірам увесь агарод спаскудзілі; цяпер цыбуліна не ўзыдзе. Агурка і памідора другі год не бачу: у краму не завозяць, а да Веткі не дабрацца...

Пазней прачытаў: на дэзактывацыйныя работы было запланавана больш як сто мільёнаў рублёў. Падумалася: мыем-адмываем хаты, чысцім-ачышчаем агароды і дарогі, а толку... Каго супакойваем? І каго падманваем?



нядзелю ранкам паступіла каманда: усім быць на сваіх месцах, з Чарнобыля прыедуць спецыялісты правода́зіць праверку на ступень назапашвання ў арганізме радыяцыі.

Распрануўшыся, па чарзе ідзём на сцэну вайсковага клуба, дзе расселіся афіцэры-медыкі ў белых халатах. Працэдура займае секунд 30—40. Выходзім на вуліцу. Адны і тыя ж пытанні: «У цябе колькі?», «А ў цябе?..»

Бачу — некалькі чалавек зноў становяцца ў чаргу. Навошта?

Абследаванне закончана, але ліквідатары не разыходзяцца.

— Вы дакладна скажыце: што шукалі — бэры, мікрарэнтгены, цэзій ці стронцый?

У адказ — незразумелыя тлумачэнні з матэматычнымі разлікамі. Урэшце «госці» прызнаюцца: мы вызначалі дозу агульнага апраменьвання ў адзінках.

— А чаму прыехалі з сапсаванымі прыборамі? — не здаецца ганцавіцкі механізатар Мікалай Сарока.— Першы раз сказалі, што ў мяне 2,9 адзінкі, а праз тры хвіліны, калі зноў стаў у чаргу,— ужо 3,4.

— І ў мяне вялікая розніца... І ў мяне...

Ліквідатары ўсхваляваны. Але зноў — чуюць у адказ нешта аб прынцыпах работы ДРГ...

— У канцы збораў вас абследуюць на СІЧ, тады ўсё стане больш ясна. А пакуль не хвалюйцеся,— заявілі на развітанне медыкі і пачалі хутка спакоўваць свае бліскучыя прыборы.

Паабяцаны СІЧ я, як і многія іншыя аднапалчане, да гэтага часу ў вочы не бачыў.

Неяк у Мінску сустрэў мужыка, з якім тую службу разам неслі, разгаварыліся.

«На здароўе, здэцца, грэх скардзіцца, толькі вось у горле (і ўжо які год запар) пярчыць, дзярэ, не праходзіць...» — сказаў Аляксандр.

А ў нашых ваенных білетах запісана адна і тая ж доза апраменьвання — 2,157 бэра. На думку вучоных — не страшна... Але ж радыяцыя «страляе» па-рознаму: у аднаго — раней, у другога — праз пяць, дзесяць гадоў.

І няўжо маглі атрымаць аднолькавую дозу той, хто служыў на кухні, і той, хто лазіў па стрэхах, нашпігаваных атрутай?



Мінску кіраўніцтва рэспублікі арганізавала сустрэчу з грамадскасцю. Мы, ліквідатары, абляпілі адзіны спраўны тэлевізар. Ловім кожнае слова. Выступаюць Еўтух, Бур'як, Фаміч, Грышчанкоў.... Заціхаем: гутарка заходзіць аб Хойніцкім раёне, на тэрыторыі якога дыслацыруемся. Былы кіраўнік былога Дзяржаграпрома БССР



# АПРАМЕНЬВАННЕ СЭРЦА

Хусаінаў расказвае аб якасці сельскагаспадарчых прадуктаў у гэтым рэгіёне: «Так, у Хойніках быў масласырзавод, але мы яго закрылі. Сыр і масла завозяцца туды з Мінскай вобласці».

— Ах, тваю растакую...— чырвоны куток захістаўся ад мацюкоў нашага намесніка па тылу.— Я ж кожны вечар атрымліваю на заводзе прадукты!..

І гэта праз тысячу дзён пасля чарнобыльскай катастрофы.



заду засталіся Чарнобыль і Прыпяць — маладыя, але журботныя і няўтульныя гарады з пустымі кварталамі і парослымі травою балконамі, злева — Камарын і Брагін. Наперадзе — прамая, шырокая і роўная, як узлётная паласа, магістраль на Чарнігаў. Пралятаем па вялізным масце праз Дняпро і зварочваем на Славуціч.

Не, такога прыгожага горада я пакуль не бачыў — рос сярод хвойнага лесу. У кожнага квартала — свой нацыянальны каларыт, бо шчыравалі тут будаўнікі з усіх саюзных рэспублік. А жывуць у ім сем'і тых, хто абслугоўвае ЧАЭС. І, вядома, работнікі гандлю, медыкі, будаўнікі.

З задавальненнем шпацырую па горадзе-казцы. Углядваюся ў твары прахожых і раптам лаўлю сябе на думцы, што славуцічане не ўсміхаюцца. І гэта ў такім горадзе! Кідаю позірк на сосны-струны — о, Божа! — яны акораныя.

Іду да Віктара Пранягіна, які ўзначальвае групу нашых хлопцаў.

— Пайшлі са мною, пакажу...— гаворыць ён.

Зварочваем у лес — і праход загароджвае строгая таблічка: «Небяспечная зона!» А побач — чырвоныя сцяжкі разыходзяцца далёка-далёка.

Славуціч, аб якім столькі перагаворана і панапісвана, наспех «пасадзілі» на радыеактыўную пляму.

Дазвол будаваць горад у гэтым месцы далі вялікія вучоныя — масквічы Чазаў і Ізраэль.



Брагіне завітаў у карцінную галерэю. Ідылічныя дачарнобыльскія пейзажы пацясніла іншая рэальнасць. «Пажарны В. Ігнаценка» — палатно мастака В. Барабанцава. У пажарніка прыгожы, амаль хлапечы твр, уважлівыя вочы... Валянцін у ноч з 25 на 26 красавіка адным з першых ступіў на дах суседняга, трэцяга блока станцыі. Аб чым ён думаў у той момант? Мабыць, аб сваім родным Спярыжжы, да якога рукою падаць. Аб бацьках, сябрах дзяцінства... Няма цяпер на карце Спярыжжа,— ужо на пачатку мая 1986 года яго жыхароў тэрмінова эвакуіравалі ў чыстую зону. Няма і Валянціна Ігнаценкі — памёр...

Вельмі захацелася зайсці да яго сястры, што жыве ў Брагіне,— яна стала яго донарам, калі спатрэбўся касцявы мозг, была побач да апошняга дня.

Хацеў зайсці, але — не змог. Не адважыўся вярэдзіць яе рану.



а пару дзён вырваўся ў Маскву — праведаць сына-салдата. Купілі кветак і паехалі на Міцінскія могілкі.

...Дваццаць шэсць белых мармуровых надмагільных помнікаў. На кожным — золатам — прозвішча, імя... Дваццаць шэсць хлопцаў з Чарнобыля і Прыпяці, якія да канца выканалі свой абавязак. Сярод іх — беларус Валянцін Ігнаценка.

— Паўтарылі подзвіг панфілаўцаў,— ціха прамовіў сын, калі мы выйшлі за вароты могілак.— А мы пра іх нічога не ведаем...

Павінны ведаць!



афіцэрам-земляком спазніліся на рэйсавы аўтобус і вырашылі «пагаласаваць» за Хойнікамі і такім чынам дабрацца да свайго палатачнага гарадка. Хутка нас падабраў невялікі аўтобус, у якім сядзелі, у асноўным, міліцыянеры-сяржанты.

— Гродзенскае ўпраўленне ўнутраных спраў камандзіравала сюды на два месяцы,— растлумачылі хлопцы.— Зону ахоўваем! А вы даўно?

— Даўно, хутка паўгода,— адказваем.

— О, тады парайце, дзе самагонкі можна дастаць? Як-ніяк, сёння святая нядзелька, а ў нас ні ў адным воку.

— Не скажам, бо, шчыра кажучы, не ведаем.

— Эх, ё-кэ-лэ-мэнэ! — незадаволена злуецца дзяцюк з тварам, як поўня.— А ў нас такая закусь! Агуркі быццам толькі ўчора засолены, марынаваныя грыбы — пальчыкі абліжаш...

— Што, роднае МУС так падкормлівае? — пытаемся.

— Ага, падкорміць! У скляпах палешукоў столькі ўсялякіх далікатэсаў, што не аднаму дывізіёну хопіць...

Як добра, што мы якраз пад'язджалі да нашае вёскі. Сядзець з такімі спадарожнікамі раптам стала і гнюсна, і сорамна.



спамінаецца сустрэча з Васілём Васільевічам (прозвішча, на жаль, не помню)—загадчыкам Брагінскай аптэкі. Тады я спытаў: «А ці праўда, што ў маі 86-га вы раілі выганяць радыяцыю з арганізма гарэлкай?» Мой суразмоўнік усё аднекваўся, пераводзіў размову на іншыя тэмы, але, нарэшце, махнуў рукою.

— Уяўляеце, якое становішча склалася ў раёне ў тыя дні? Усе бягуць у аптэку, а ў мяне ніякіх антырадыянтаў няма. А тут у райком партыі выклікаюць: як быць, паніка навокал. Што я мог адказаць? Кажу, японцы сцвярджаюць, што мяса і алкаголь выводзяць радыяцыю. Ды і нашым падводнікам у меню закладваецца сухое чырвонае віно. «А як быць з законам па барацьбе з п'янствам і алкагалізмам?»—пытаюцца ў мяне. Карацей кажучы, далі час на роздум. А калі думаць? Натоўпы асаджваюць аптэку, людзі сварацца, плачуць.

Ну, я і выдаў «рэцэпт», на сваю, канешне, рызыку. Ва ўсіх населеных пунктах мы хутка расклеілі «рэкамендацыі»: на 100 грамаў гарэлкі — 3 кроплі ёду. Дарослым людзям, зразумела. Не ведаю, ці дапамог гэты антырадыянт, ці абараніў маіх землякоў ад апраменьвання, заўважу толькі: у тыя трывожныя дні ў раёне былі найвышэйшыя арганізаванасць і парадак.

Гэты факт я неаднаразова спрабаваў выкарыстаць у сваіх чарнобыльскіх публікацыях, але кожны раз рэдактары «страхаваліся» і бязбожна выкрэслівалі напісанае. Але ж праўда ёсць праўда.



то сабою ўяўляе Зона? Знешне яна нават прыгожая, лес без прасек і сцяжынак, балота, зарослае разнатраўем. У глухіх яе нетрах блукаюць адзічэлыя свінні, каровы, якіх не паспелі ці не захацелі вывезці пры адсяленні. Укормленыя радыяактыўныя каты палююць за мышамі...



Зона — гэта не толькі тэрыторыя, агароджаная двухметровым плотам калючага дроту ці якая ахоўваецца міліцыяй. Ёсць Зоны, якія ніхто не ахоўвае, і такіх становіцца з кожным месяцам усё больш і больш. Вось нядаўна давялося пабываць у ёй.

Вёска Кульшычы, за 60 кіламетраў ад Магілёва. Хаты з закрыжаванымі вокнамі, вядро на польдэрным «жураўлі». Лялька з адарванай рукою. Зламаны плот. Год назад адсюль падаўся апошні жыхар. Куды? Хто яго ведае: кожны выбіраў сабе новае месца сам. На вуліцы сляды дзікіх кабаноў і... марадзёрства. Выдраныя аконныя рамы, у пакоях адарваны падлога і столь, побач нехта не паспеў садраць шыфер, разбураны і разрабаваны печы...

Пуста. Дзіка. Страшна. І не дае спакою пытанне: чаму агульная бяда не аб'ядноўвае людзей? Чаму не робіць іх сэрцы больш шчырымі і спагадлівымі?



# НЕ ТРЭБА БЫЦЬ ГЕРОЕМ САВЕЦКАГА САЮЗА, А ТРЭБА ТОЛЬКІ ДАСТАЦЬ ПАСВЕДЧАННЕ «ЛІКВІДАТАРА»...

очаш атрымліваць сорак «кавалкаў» у месяц? — у тэлефоннай трубцы пазнаў голас знаёмага інжынера.

— Хачу, вядома... Але што я павінен зрабіць? Звольніцца з працы?

— Звальняцца не трэба, мы будзем плаціць табе за паслугі,— зноў загадкава адказала трубка.— Не разумееш?

— Не,— прызнаўся я,— патлумач, што і як?

— Мы зарэгіструем на цябе малое прадпрыемства. Ты ж — ліквідатар, а значыць з нашага МП не будуць дзерці падаходны і іншыя падаткі. Як, згода?

Давялося расчараваць свайго суразмоўніка: па-першае, я не маю ўсемагутнага пасведчання, а па-другое, сорамна красці ў беднай дзяржавы.

Прыведзены дыялог — яскравы прыклад таго, як на чарнобыльскай бядзе спекулююць найбольш спрытныя суайчыннікі. Не буду закранаць усіх, хто знаходзіць норы, каб пралезці праз кардоны законаў і пагрэцца за кошт дзяржавы ці гуманітарнай дапамогі. Я запрашаю чытачоў паразважаць аб тым, як з'явіўся і «расквітнеў» у рэспубліцы цэлы атрад ілжэліквідатараў. Таму што колькасць іх множыцца ўвачавідкі, а разам з імі — узаконенае казнакрадства. Прыкіньце: чалавек, пабыўшы два—тры дні ў Брагіне ці Нароўлі, карыстаецца бясплатным праездам у гарадскім і прыгарадным транспарце, атрымлівае беспрацэнтную пазыку, вызваляецца ад аплаты падаткаў, можа бясплатна прыватызаваць кватэру... А дадайце сюды бясплатныя пуцёўкі ў санаторыі і дамы адпачынку, штогадовую матэрыяльную дапамогу, прадуктовыя пайкі, першачарговае прадастаўленне зямельных участкаў, будаўнічых матэрыялаў... Спіс гэты можна доўжыць. Нездарма ж жартуюць: «Не трэба быць Героем Савецкага Саюза, а трэба стаць ліквідатарам. І ўсё ў цябе будзе...»

Па папярэдніх падліках Дзяржкамчарнобыля ў рэспубліцы больш за 25 тысяч чалавек, якія незаконна атрымалі пасведчанні ўдзельніка ліквідацыі вынікаў катастрофы на ЧАЭС. Большасць з іх карыстаецца льготамі па артыкулу 19, якія пералічаны вышэй. На выплату іх штогод расходуецца каля мільярда рублёў з «народнай кішэні». Натуральна, узнікаюць пытанні: чаму? І хто вінаваты? Калі адказаць коратка, то прычынай усяму — недасканаласць Закона РБ «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС».

Пракаменціраваць гэты дакумент я папрасіў двух былых адказных работнікаў Дзяржкамчарнобыля — Віктара Налецкага і Уладзіміра Маштакова, якія ўзначальвалі там аддзел прававой і сацыяльнай абароны насельніцтва. Чаму былых? Аб гэтым крыху пазней, а пакуль паслухаем У. Маштакова.

— Як кажуць, спатыкнуцца ў законе можна ледзь не на кожным кроку. Напрыклад, у крытэрыях аб статусе ліквідатара (арт. 13) не ўказаны тэрміны знаходжання ў зоне альбо дозавыя нагрузкі апраменьвання людзей. І, як вынік, затрымаўшыся ў гэтых мясцінах на працягу аднаго дня, чалавек, атрымаўшы пасведчанне, можа карыстацца льготамі доўгі час. Надзвычай шырокі, на маю думку, сэнс паняцця «жыццезабеспячэння» ў трэцім пункце гэтага ж артыкула. Ён дазваляе адносіць да катэгорыі ліквідатараў грамадзян, якія пастаянна жывуць ці накіраваны ў зоны першачарговага, наступнага адсялення і заняты на любых работах, нават не звязаных з ліквідацыяй вынікаў катастрофы. Скажам, рабочыя завода паехалі ў калгас на сенакос. Але ж нарыхтоўка кармоў на забруджанай тэрыторыі не звязана з ліквідацыяй вынікаў катастрофы, бо яна не выклікана ёю. На наш погляд, такіх грамадзян трэба аднесці да катэгорыі пацярпелых, а не ліквідатараў.

— Чаму ж такі «шчодры» закон? — спытаўся я ў Налецкага.— Можа, творцы яго падганялі льготы пад сваіх блізкіх, родных?

— Не,— адказаў суразмоўца,— яго падганялі пад сродкі вялікага і магутнага Саюза ССР. Раз Масква не скупіцца, то чаму б і не хапнуць гэтыя грошы, чаму не ўзнагародзіць людзей, якія былі кінуты на ліквідацыю. Але ў гарачцы былі ўпушчаны фактары часу і месца. У выніку мінчукі, камандзіраваныя, напрыклад, у Брагін на пару дзён, маюць ільготы па артыкулу 19, а сяляне Краснапольскага раёна, якія пастаянна жылі ў месцах са шчыльнасцю забруджвання 80—100 кюры на квадратны кіламетр, атрымалі пасведчанні па артыкулу 22, па якому льготы значна меншыя.

Цяпер, калі дзяржаўная праграма лягла на плечы рэспублікі, спахапіліся, пачалі біць у званы, маўляў, ратуйце ад ліквідатараў, якія плодзяцца, як пчолы ў вуллі.

В. Налецкаму і У. Маштакову я задаў адно і тое ж пытанне: чаму яны маўчалі, бачачы, якімі тэмпамі вядзецца рабаванне дзяржавы? І абодва амаль у адзін голас заявілі: не, мы не маўчалі, мы пісалі, прасілі, турбавалі. А ў адказ — маўчанне. І не толькі маўчанне. Іх аддзел раптам трапляе пад скарачэнне, яго рэарганізуюць у сектар ільгот і кампенсацый. Віктар Налецкі трапляе ў прафсаюзы, а Уладзімір Маштакоў у Кантрольную палату. Пасля гэтага з сектара зноў утвараецца аддзел. Парадокс? Ці нешта больш сур'ёзнае? На гэтыя пытанні хацелася атрымаць адказ у кіраўнікоў Дзяржкамчарнобыля, але і там ухіліліся ад іх.

Чытача можа зацікавіць, хто з высокага начальства атрымаў запаветныя пасведчанні? За якія заслугі? Назваць усіх немагчыма, бо на пералік прозвішчаў не хопіць адведзенага месца. Адзначу толькі, што кіраўнікі многіх міністэрстваў і ведамстваў займелі адпаведныя дакументы. Скажам, былыя міністры аховы здароўя Мікалай Саўчанка, Уладзімір Улашчык, цяперашні міністр Васіль Казакоў і яго намеснікі, былы старшыня праўлення Белсельбуда Аляксандр Кічкайла... Шмат ліквідатараў сярод генералаў і палкоўнікаў міністэрства ўнутраных спраў, міністэрства абароны, кіраўнікоў Мінсельгасхарчу...

З юрыдычнага боку ніякіх падстаў абвінавачваць іх няма: ездзілі ў той бок, начавалі ў гасцініцах, ёсць квітанцыі. Аднак паслухаем пракурора аддзела Пракуратуры рэспублікі Уладзіміра Плюшча, які праводзіў праверку правільнасці афармлення чарнобыльскіх дакументаў у міністэрстве аховы здароўя.

— Не магу пакуль што сказаць нешта дакладнае. Так, былы міністр аховы здароўя Мікалай Яўсеевіч Саўчанка, згодна камандзіровачным пасведчанням, ездзіў у Гомель. І толькі! Натуральна, аднесці яго да ўдзельніка ліквідацыі нельга. Аднак яго падначаленыя сцвярджаюць, што ён неаднаразова наведваў Брагінскі, Нараўлянскі і Хойніцкі раёны. Магчыма! Але ж у камандзіровачных пасведчаннях няма адзнак аб прыбыцці і выбыцці з гэтых мясцін. Скажыце, вам паверыць у бухгалтэрыі на слова? А нас вымушаюць верыць! Маўляў, уся справа ў сакрэтнасці, тады нельга было афішыраваць паездкі... у зону.

Напрошваецца яшчэ адно пытанне: дапусцім, кіраўнік прыехаў у зону, а што канкрэтна зрабіў, каму дапамог? Бо толькі канкрэтны ўдзел у ліквідацыі вынікаў катастрофы дае права на статус ліквідатара.

— Разумееце, цікавыя факты сустракаюцца пад час знаёмства са справамі ліквідатараў,— працягваў Уладзімір Іванавіч.— Напрыклад, пасля нашай праверкі камісія Мінсельгасхарчу па выдачы пасведчанняў аб'явіла: «Усім работнікам, якія маюць чарнобыльскія дакументы, падаць пацвярджальныя дакументы». Праз год (!) пасля таго, як пасведчанні былі выдадзены.

Цяпер ужо дакладна ўстаноўлена, што ў многіх міністэрствах і ведамствах, аблвыканкомах, на прадпрыемствах і ўстановах камісіі па пацвярджэнню статуса ліквідатара дзейнічалі фармальна, некаторыя адказныя асобы не ведалі законаў, тлумачэнняў Дзяржкамчарнобыля. Рашэнні аб выдачы пасведчанняў часта прымаліся па агульных спісах, без неабходных пацвярджальных дакументаў, калегіяльнага абмяркоўвання. Такія факты ўстаноўлены ў Белкаапсаюзе, КДБ, Акадэміі навук, Дзяржкамэкалогіі, Федэрацыі прафсаюзаў, Гомельскім аблвыканкоме...

Як вынік, цяпер у пракуратуру, парламент і ўрад паступаюць сотні пісьмаў, аўтары якіх просяць навесці, нарэшце, парадак у афармленні і выдачы дакументаў, прыцягнуць да адказнасці і тых, хто, заплюшчыўшы вочы, прыносіць фіктыўныя даведкі, і тых, хто прымае іх і выдае пасведчанні лжэліквідатарам. Калі гэты працэс не спыніць, то, напрыклад, хутка ўсё працаздольнае насельніцтва 16 пацярпелых раёнаў Гомельшчыны і Магілёўшчыны атрымае статус ліквідатараў. Атрымаюць запаветную кніжку і тыя, хто быў там наездам, на працягу гадзіны— другой дзеля спартыўнай цікавасці.

Увачавідкі разрастаецца сацыяльная несправядлівасць. Асабліва ў адносінах да тых, хто працаваў каля рэактара, праводзіў дэзактывацыю пасёлкаў і вёсак, дыхаў смертаноснай атрутай... Тых, хто цяпер не вылазіць з бальніц і паліклінік і праклінае той дзень, калі апрануў ваенную форму і па загаду камандзіраў кінуўся выконваць «адказнае заданне ўрада». Яны не любяць расказваць пра свае заслугі, не хваляцца шматлікімі граматамі і ганаровымі лістамі, не чапляюць на грудзі чарнобыльскі медаль.

Дзе ж выхад, спытае чытач. Яго павінен знайсці наш парламент, парламенцкая Камісія па чарнобыльскіх праблемах. Даўно наспеў час унесці ў закон канкрэтныя змены і дапаўненні. Па-першае, у адносінах да тых, хто прымаў непасрэдны ўдзел у работах, звязаных з ліквідацыяй. (Абавязкова ўлічыць час службы: многія насілі вайсковую форму ўсяго месяц — другі, астатнія — паўгода.) Па-другое, да тых, хто жыве ці накіроўваўся ў зоны адчужэння, першачарговага ці наступнага адсялення і выконваў там свае службовыя абавязкі. На наш погляд, варта не забыцца і пра тых, хто ў тыя красавіцка-майскія дні быў дома, у родных і блізкіх і атрымаў дозу апраменьвання. Для ўсіх іх неабходна вызначыць адэкватныя льготы.

Апошнім часам чуецца нямала прапаноў, а то і патрабаванняў адабраць пасведчанні ў тых, каму яны незаконна выдадзены. Гэты працэс, аднак, не агавораны ў законе. Можна, вядома, паступіць па-драконаўску: выклікаць чалавека ў ваенкамат, загадаць прад'явіць пасведчанне і... забраць яго, растлумачыўшы, што дакумент фіктыўны. Але ці гуманным будзе такі крок? Вярхоўны ж суд і Пракуратура рэспублікі, якія абмяркоўвалі механізм канфіскацыі, на жаль, так і не прыйшлі да адзінай думкі.

Няма выйсця? Думаю, варта звярнуцца да вопыту ўкраінцаў. Там з 1 студзеня гэтага года ўведзены новы парадак выдачы дакументаў. Былыя пасведчанні «саюзнага» ўзору адменены — уся юрыдычная сіла пераходзіць да ўкраінскіх.

Дарэчы, наш Дзяржкамчарнобыль яшчэ летам мінулага года звярнуўся з аналагічнай прапановаю ў Савет Міністраў рэспублікі, але там ніякіх захадаў не зрабілі. Час, аднак, дыктуе неабходнасць правядзення перарэгістрацыі ўсіх ліквідатараў. Гэта адзіны спосаб навесці хоць нейкі парадак. Вядома, справа няпростая, патрабуе вялікіх затрат, але яны акупяцца, бо дзяржава зможа вярнуць мільярды рублёў.

А пакуль... Выдача пасведчанняў працягваецца. Колькі яшчэ шчаслівчыкаў атрымае іх? Тысяча, пяць тысяч... Сказаць цяжка. Калі ўлічыць, што толькі ў ваеннай пракуратуры «згінулі» 30 бланкаў, атрыманых пазалетась. Сёння за 5—7 тысяч «драўляных» можна займець жаданы дакумент. Працэс, як кажуць, пайшоў.

Хто спыніць яго? І калі?

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ,**
**удзельнік ліквідацыі вынікаў катастрофы на ЧАЭС.**
(Пасведчанне серыі А № 742753.)

**АД РЭДАКЦЫІ. Спадзяёмся, што на выступленне часопіса прышлюць адказы І. КЕНІК — намеснік Старшыні Савета Міністраў РБ, старшыня Дзяржкамчарнобыля, І. СМОЛЯР — старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета РБ па чарнобыльскіх праблемах, Н. ГУРЫНОВІЧ — начальнік упраўлення па ліквідацыі вынікаў катастрофы на ЧАЭС Савета Міністраў рэспублікі.**

## «З-за лесу, з чарнобыльскай старany, сонца глядзіць сляпое...»






зве прыемныя сустрэчы адбыліся летась — з паэтычным зборнікам Міколы Мятліцкага «Палескі сум» і гэтай фотакарткай, якую даслала былая аднакласніца Галіна Калінічэнка.

**Прывід бяды і памяць вайны**
**Болем душу апояць,**
**З-за лесу, з чарнобыльскай стараны,**
**Сонца глядзіць сляпое.**

Так-так, радкі і здымак пра наш Бабчын, што ў Хойніцкім раёне, які накрыла чорнае крыло Чарнобыля. Глухія вуліцы, пустыя хаты, агароды, парослыя крапівою і палыном... Няма цяпер Бабчына на карце рэспублікі. А раней на ўсю Беларусь славілася вёска! І перш за ўсё знакамітай школай другой ступені, якая рыхтавала настаўнікаў малодшых класаў. Паступіць у яе было не так лёгка. Аўтар гэтых радкоў усе ўступныя экзамены вымушаны быў здаць на «выдатна», бо на адно месца прэтэндавалі ажно дванаццаць абітурыентаў!

На фотакартцы — наш сёмы клас вясною 1929 года. 40 вучняў і восем настаўнікаў. З таго часу многае сцерлася з памяці. Удакладніць прозвішчы мне дапамог Аляксандр Скуранок (ён у першым радзе ў белай кашулі). Справа ад яго — Кірыла Бандарэнка, які па-геройску загінуў на палях Вялікай Айчыннай. Не вярнуліся з фронту і Канстанцін Шалкоўскі, і Павел Шорап, і Іван Станкевіч, і Вячаслаў Скуронак, і Аляксей Рудабелец, і Міхась Корань, многія іншыя.

Франтавікамі і партызанамі ў грозны для Айчыны час былі Астап Лук'яненка, Віктар Ціханенка, Тамара Шапавалава... Многія выпускнікі-бабчынцы сталі затым вядомымі настаўнікамі, навукоўцамі, літаратарамі. Сярод іх — акадэмік Міхаіл Мацапура, пісьменнік Вячаслаў Станкевіч (Палескі), прафесар Казімір Пржэляскоўскі.

Пералічыць усіх немагчыма. Адзначу толькі, што ў цэнтры здымка — нашы настаўнікі, пасярэдзіне загадчык школы Максім Фадзеевіч Бандзарэвіч, справа — яго жонка Алена Осіпаўна, а злева — маладая настаўніца-філолаг Дар'я Аляксандраўна Красоўская.

Гэты здымак — сустрэча з юнацтвам. Сустрэча з Бабчынам, дзе, на жаль, цяпер

**...хаты — зеўраюць пустэчай,**
**Дзе зона суму — за спіной,**
**Дзе лёг бядой жагнуты вечар**
**На скроні першай сівізной.**

**Іосіф ЧАРНЯЎСКІ,**
**ветэран вайны і працы,**
**былы журналіст.**

# ХТО ГАСПАДАРЫЦЬ НА ЧАРНОБЫЛЬСКІМ «МАЦЕРЫКУ»?



этая чарнобыльская пустка пачыналася з сумна знакамітай 30-кіламетровай зоны. У тыя першыя дні і месяцы шмат каму думалася і верылася, што «не пройдет и полгода», як растане радыенуклідны снег і палешукі Брагіншчыны, Нараўляншчыны і Хойнікаўшчыны вернуцца ў родныя вёскі да звыклых сялянскіх спраў.

Не вярнуліся. Больш таго, густы радыяцыйны туман пасунуўся далей на поўнач, усход і захад, выганяючы з бацькоўскіх селішчаў пінчукоў і кармянцаў, клімаўчан і веткаўцаў... У зону адчужэння і першачарговага адсялення трапіла 564 населеныя пункты, у тым ліку 402— у Гомельскай вобласці і 162 — у Магілёўскай.

Але і гэтым, на жаль, памеры

бяды не вызначаюцца. Бо ёсць яшчэ зона наступнага адсялення, адкуль па сённяшні дзень працягваюць перараджджаць на чыстыя землі нашы пацярпелыя суайчыннікі. Чарнобыльская пустка на Беларусі пашыраецца, утвараючы своеасаблівую «дзяржаву ў дзяржаве». Ужо мае яна і сваё кіраўніцтва ў асобе Адміністрацыі зон адчужэння і адсялення Дзяржкамчарнобыля РБ.

Першы намеснік начальніка Адміністрацыі Рыгор ШОСТКІН пагадзіўся адказаць на пытанні часопіса.

**— Рыгор Іванавіч, ёсць на поўначы Афрыкі пустыня Сахара. Праўда, не чутно, каб ёю нехта кіраваў...**

— Разумею вашу іронію. Але не падзяляю яе. Ніякай цягі да афрыканскай Сахары чалавек, трэба думаць, не мае па вядомых прычынах. А вось да беларускай... Стагоддзі і тысячагоддзі жылі тут людзі. Радыяцыйная пагроза — нябачная, неадчувальная — не вельмі надзейны стрымліваючы фактар для грамадзян з пакінутых тэрыторый, якія захавалі памяць пра родныя мясціны. Але не толькі і нават не столькі супрацьдзеяннем іх настальгіі выкліканы пошук формы бяспечнага суіснавання жылой і нежылой тэрыторый.

Пасля адсялення ў беларускай «сахары» засталіся, прабачце, не нейкія пяскі, а матэрыяльныя каштоўнасці на многія мільярды рублёў. Збядненне насельніцтва з-за рэзка ўзросшых цэн падштурхнула некаторых набываць неабходнае ў чарнобыльскай зоне. Зладзействы пачынае набываць рысы масавай з'явы: крадуць, валакуць адтуль усё, што можна выкарыстаць у асабістых гаспадарчых патрэбах,— дошкі, шкло, шыфер, аконныя рамы, нават цэлыя свірны ды хаты. Хто са зладзеяў для свайго карыстання, а хто і на продаж. Шырокае дачнае будаўніцтва ў рэспубліцы стварыла вялікі попыт на будаўнічыя матэрыялы.

32 патрульныя ўчасткі і 21 кантрольна-прапускныя пункты Міністэрства ўнутраных спраў, якія дзейнічалі ў 12 раёнах Гомельшчыны і Магілёўшчыны з-за сваёй малалікасці і не зусім дасканалай арганізацыі ахоўнай справы не сталі надзейным заслонам на шляху нячыстых на руку асоб. Грамадская ж небяспека гэтай з'явы яшчэ і ў тым, што крадзеныя тавары з чарнобыльскай зоны — радыяцыйна забруджаныя. У чыстых раёнах яны, такім чынам, становяцца нечым накшталт «радыемін». Для таго-сяго, хто набыў, напрыклад, для дачы начыненую радыенуклідамі мэблю, магчымы некалі трагічны фінал — радыяцыйнае захворванне...

Ёсць шэраг іншых фактараў, што сведчаць на карысць утварэння спецыяльнага органа, які б узяў на сябе ролю арганізатара ўсіх спраў, звязаных з «зонаю».

**— Усё гэта ўвайшло, як я разумею, у функцыянальныя абавязкі Адміністрацыі!**

— Вызначэнне прыярытэтнасці работ у зонах адчужэння і адсялення; каардынацыя дзейнасці прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў, якія выконваюць тут навукова-эксперыментальныя, гаспадарчыя работы; інфармаванне насельніцтва аб экалагічным становішчы адселеных тэрыторый; кантроль за бяспечным функцыяніраваннем сістэмы захавання радыеактыўных адходаў; укараненне метадаў і тэхналогій дэзактывацыі прыроднага асяроддзя з мэтай вяртання ў гаспадарчы абарот палёў, лугоў, лясоў — вось далёка не поўны пералік напрамкаў нашай работы. Дарэчы, мы да іх толькі падступаемся, бо дужа мала часу мінула з дня заснавання спецпадраздзялення Дзяржкамчарнобыля, чым з'яўляецца Адміністрацыя.

**— Ад жыхароў чарнобыльскай глыбінкі чуецца шмат наракання з прычыны таго, што тыя органы кіравання, што маюць дачыненне да праблем катастрофы, звычайна знаходзяцца «ў вірах на юрах». Вось і ваша Адміністрацыя размясцілася ў Мінску...**

— У сталіцы працуюць толькі сем з трыццаці пяці яе штатных супрацоўнікаў. Астатнія — на перыферыі. Ў трох абласцях і пятнаццаці раёнах.

**— Дзе, такім чынам, функцыянiруе як бы дзве ўлады на пакінутай тэрыторыі — вашага спецпадраздзялення і Саветаў народных дэпутатаў!**

— Калі апошнія з'яўляюцца гаспадарамі маёмасці, размешчанай у пакінутых населеных пунктах, то наша служба вызначае парадак яе перадыслакацыі з «мёртвай» у «жывую» зоны. Гэта тычыцца вывазу прыродных рэсурсаў, зямлі, гліны, торфу, драўніны, грыбоў, ягад, лекавых раслін і г. д. Кантралюецца і зваротны працэс — з «жывой» зоны ў «мёртвую». Уваход ці ўезд людзей ажыццяўляецца па спецыяльных пропусках. Іх — сем, як кажуць, на ўсе выпадкі жыцця. Пачынаючы ад асоб, якія жадаюць трапіць на магілы сваякоў, і канчаючы вучонымі, якія вядуць тут навуковыя даследаванні па дзяржаўнай праграме.

**— З вашых слоў, Рыгор Іванавіч, вынікае, што пакінутая людзьмі зямля знаходзіцца пад цвёрдым дзяржаўным наглядам. А між тым, паўзуць чуткі, нібыта ў сапраўднасці ёю знутры кіруюць злачынцы. Росцяць там наркатычнае зелле, робяць адтуль злачынныя рэйды на «мацярык»...**

— Пра дзейнасць арганізаваных крымінальных груп мне не вядома. Аб выпадках вырошчвання маку для вырабу наркатычных рэчываў нашы «вушы і вочы», якія мы маем у зонах адчужэння і адсялення, таксама нічога не чулі і не бачылі. А вось што тычыцца валацужніцтва па пустых вёсках бомжаў, браканьераў, крымінальных элементаў, якія не тое што ўлад, але і саміх сябе баяцца,— такія факты ёсць. Толькі надвор'я яны, як кажуць, не робяць. І зона — гэта абсалютна дакладна — не ў іхніх руках.

Гутарыў Міхась СТЭЛЬМАК.



**Рэха званоў Чарнобыля з вялікім, на жаль, спазненнем адолела акіян, дакацілася да Нью-Йорка, да сцен сусветна вядомай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. І Амерыка, а разам з ёю і ўвесь цывілізаваны свет наноў пачалі «адкрываць Чарнобыль-86». Значыць, зорка Палын не канула ў Лету. Значыць, праўда пра чарнобыльскую катастрофу яшчэ толькі на паўдарозе да сусветнай грамадскасці. І рана яшчэ здаваць у архіў памяць пра яе...**

**Дакументальную хроніку ААН з каментарыямі зацікаўленых асоб чытайце на стар. 22—23.**

Дзеду Пархімчыку салдаты памагаюць вароты ставіць. Старыя заваліліся, ён нарыхтаваў лес на новыя слупы, і вось навешваюць на іх вароты. Пархімчык, былы брыгадзір калгасны, нават пакрыквае на немцаў:

— Старайся, хлопцы, а то працадзён не запішу!

Чым мацней і нясцерпней чаканне чагосьці жахлівага і няўхільнага, тым з большым самазабыццём людзі імкнуцца да малейшага пробліску надзеі. І таму збоку магло здацца, што не да кары, забойства рыхтуюць вёску і не сутаргава адпіхаюць жыхары ад сябе жудасную праўду, што гэта накшталт падрыхтоўкі да якогасьці свята — бабы бегаюць па суседству па ўсялякую драбязу, узрушана абмяркоўваюць падзеі, вочы зіхцяць.

Супакойвае вяскоўцаў аднак тое, што дазваляюць выходзіць з сяла, калі ты на далёкае поле кіруешся, уваходзіць у сяло — нават з лесу дзве сямейкі вярнуліся, калі прачулі, што так паводзяць сябе немцы, у лесе страшней чакаць невядома чаго.

А ў Паліны з Францам наогул поўны парадак. Тым больш што ён ведае мову. Гаворыць, праўда, марудна шукаючы словы і расцягваючы іх, як дзіця, часам блытае націск, але да гэтага прывыкаеш. Як прывыкаюць да заікання даўняга знаёмца. Амаль не заўважаеш. А ў іх у абодвух такое адчуванне, быццам не тры дні, а са школы знаёмыя. Словы ім не дужа і патрэбныя. Усмешка, кароткі жэст ці позірк, непрыкметны рух плячамі, і яны ўсё сказалі адно аднаму і ўсё зразумелі. Ну, а калі старым гэта не падабаецца, незразумела — тым больш забаўна і весела гуляць у гэту гульню Паліне і Францу.

Бацька (Франц цяпер гэта ацаніў) непрыкметна, але вельмі ўмела скіроўваў яго цікаўнасць і здольнасці менавіта да моў — лацінскай, англійскай, рускай. Толькі цяпер Франц пачаў кеміць: тым самым яго фатэр працівіўся агульнай пошасці — анічога апрача свайго ў свеце не цаніць, усё звесці да нямецкага кораня, сэнсу, разумення. Тое, што Франц моцна захапіўся рускімі кнігамі, а таму і моваю, мабыць, заслуга (ці віна) Дастаеўскага. Ён прыцягваў тым, што пужаў. Калі быў малым, сястра дала Францу ў руку сталовы нож і раптам паднесла да яго нейкую чырвоную падкоўку (магніт) — нож разам з рукой пацягнула незразумелая сіла. Ажно ўскрыкнуў і ўпусціў нож. Такая ж вусцішная сіла — у кнігах гэтага рускага пісьменніка. Нешта выцягвае з цябе, чаго раней, здаецца, і не было, быццам і не ты гэта.

У вачах Паліны Франц мала чым адрозніваецца ад тых хлопцаў з суседніх вёсак, якіх заманьвалі знакамітыя на ўсё наваколле петухоўскія вечарынкі: прыходзілі пад чаркаю, спачатку трымаліся ўсе гуртам, рыхтуючыся да адпору, калі іх пакрыўдзяць, а прыцемкам разбягаліся за петухоўскімі кралямі, хто куды, як рахманыя цяляты, даводзілася іх абараняць, апекавацца над імі, не папускаць іх у крыўду мясцовым раўніўцам. Франц цягаў ваду, сек дровы, расаду памідораў гэта дзеўка прымусіла высаджваць на агародзе, старога Ота гэта зацікавіла. Ён стаяў ля агароджы з трубкай у роце і цікаўна назіраў, як гітлерюгенд няўмела гнецца над градкай, а на шыі аўтамат матляецца, грэбаецца, як курыца, у зямлі, запэцкаў ад няўмелага старання нос, шыю.

Старая Кучарыха час ад часу дзе-небудзь адлоўлівала дачку, шыпела, як гуска (але нехта сказаў бы: добрая гуска):

— Супыніся, дзеўка, што ты сабе думаеш? Што ты над ім свае штучкі вычвараеш? А калі яго камандзірам гэта не даспадобы?

— А вы ведаеце, мама, яму крыху больш гадоў, чым мне. А вырас — гляньце, які дылда!

— Вы ўжо і гадкамі памераліся! Дурное і ёсць дурное, тое і яно, дзіця горкае. Ды толькі гэта табе не гульня! Ох, яшчэ пакажуць яны сябе, чуе маё сэрца!

І паказаў... У тую ж ноч.

Бадай, ніводная дзяўчына не падабалася так Францу, як раптам гэта кінулася ў вочы — з бандыцкае вёскі. Ды калі папраўдзе, нічога сур'ёзнага і не было яшчэ ў яго з жаночым племем. Хаця сярод аднагодкаў, асабліва калі быў у маладзёжным лагеры «Сіла праз радасць», не горш за іншых выстаўляўся вопытным лавеласам, абаяльным самцом, які не з чужых слоў ведае, што і як. А сам нават да прастытутак не хадзіў, куды ў маладзёнаў з лагера сцежка была пратаптана. Не толькі боязь заразіцца, адгукалася і хатняе выхаванне у сям'і пастара.

І вось перад ім тая, якую, яшчэ крыху, і ён пакахае моцна. Але часу на гэта не будзе: неўзабаве дзяўчыну застрэляць. (Хто? — стараўся не дадумваць.) Ён жа так і не спазнае таго, пра што гэтулькі гаворкі, пішуць у кнігах, у кіно паказваюць —

Працяг на стар. 19—20.





*Памяці брата.*

Алесь Адамовіч

# НЯМКО

# («ICH WERDE DICH SCHÜTZEN»)[1]

## Нявыдуманая гісторыя

### АД АЎТАРА

***«Здымаюць скальпы (нават з дзяцей), кастрыруюць, праз маленькую дзірку ў цемені выцягваюць з жывога чалавека мозг, іравуць ногі» — гэта хто, фашысты 40-х гадоў? Не, гэта сённяшнія газетныя паведамленні з нашых «блізкіх» рэгіёнаў-дзяржаў аб высвятленні нацыянальных, кланавых і палітычных прэтэнзій адно да аднаго. Гэта мы з вамі. Калі ў 41-м немцы-фашысты забівалі савецкіх ваеннапалонных на вачах у жыхароў майго пасёлка, старая, ушчэнт раздушаная бессэнсоўнай гібеллю ў засценках НКВД яе мужа (поруч з яшчэ васьмю дзесяткамі заводскіх рабочых), галасіла ў слязах: «Чаго хацець ад чужых, калі свае вунь што тварылі?..» О, гэтыя «чужыя» і гэтыя «свае»! Як лёгка асуджаем другіх і як цяжка паварочваецца язык сказаць жорсткую праўду сабе, уласнаму народу, нават калі верх у ім бяруць ці ўзялі ўжо «свае» падонкі і расісты (як бы яны сябе ні называлі). Шмат мы чулі самаасуджальных галасоў хаця б ад вядомых усёй краіне інтэлігентаў з Азербайджана і Арменіі, з Кіргізіі і Узбекістана, з Малдовы і Таджыкістана? Свет пахаладзеў ад Сумгаіта і Хаджы, ад Ферганы і Ошы, ад Бендэр і Курган-Цюбэ. Мільёны людзей ва ўсіх краінах у жаху, а наша нацыянальная інтэлігенцыя адмоўчваецца. І ў Прыбалтыцы маўчаць, і ў Грузіі, ніхто не сказаў, не гаворыць «на ўвесь голас» уласнаму народу, што шавінізм «малога» народа такі ж агідны, як і любы іншы, што імперскія замашкі ў адносінах да ўласных «меншасцей» падрываюць і тваё правы на самастойнасць. І дабром гэта ніколі не заканчваецца. Сведчаннем таму — Асеція, Абхазія, Прыднястроўе. Пра расійскіх і ўкраінскіх «нашых», якія адкрыта і ў самазабыццi дэманструюць свой нацысцкі радавод, і гаварыць не хочацца, хаця разумеем: вірусы расізму ў такім вялізным целе — небяспека ўжо для ўсёй планеты.***

***Не будзем недаацэньваць падобную ж небяспеку і для адносна спакойных Беларусі ці Казахстана. Мы пераканаліся ўжо: г э т а прарываецца нечакана і, здавалася б, «з нічога».***

***Бачачы ўсё, перажываючы, суперажываючы з іншымі — а непакоіць, мучыць гэта ўсіх,— я раптам прыгадаў рэальную гісторыю беларускай дзяўчынкі і маладога нямецкага салдата — з мінулай вялікай вайны, з часоў фашысцкага азвярэння цэлых краін і кантынентаў. Яны, амаль яшчэ дзеці, змаглі пераступіць праз магутнейшыя нацыяналістычныя і дзяржаўна-ідэалагічныя міфы, догмы і выканаць на зямлі сваю Чалавечую місію — быць братам, сястрой, быць каханнем, быць чалавекам для другога чалавека.***

***У нас перасыхае горла, перахоплівае дыханне, калі трэба сказаць жорсткую праўду пра нас саміх. Тады няхай яны ж нам скажуць, за нас — дзяўчынка і юнак адтуль, з самай ночы фашызму і сталінізму.***

***Гэта — аўтарскі адказ на зусім законнае, верагоднае пытанне: зноў пра вайну, навошта?***

11 верасня 1992 г.

[1] Я цябе абараню (нямецк.).

# Алесь Адамовіч
# НЯМКО

1

У вёсцы Петухі вырашылі затаіцца і адседзецца колькі дзён. Gross Dorf Pietuchi [1]. Праца эйнзацкаманды ўзбударажыла ўсё наваколле. На кожным узлеску засады, абстрэлы, на дарогах міны. Узварушылі партызанскае гняздо. А гэта вёска ад лесу адгароджана рачулкаю, сама на горцы. Выкапалі акопы для кулямётаў, парасстаўлялі ў садах лёгкія танкі і бронетранспарцёры ды зажылі мірна. Па два, па тры салдаты ў кожнай хаце, на сям'ю. Каравул размясціўся ў зручна размешчаных былой школе і калгаснай канторы. Загадалі, і тутэйшыя кабеты вычысцілі, вымылі загаджаныя пакоі, ім за гэта заплацілі па тры маркі. Няхай ніхто не кажа, што ў штурмбанфюрэра Дзірлевангера служаць не салдаты, а бандыты, крымінальнікі.

Штурмбанфюрэр уласнай асобаю меў палітычную суразмову з малодшымі афіцэрамі, а тыя — з салдатамі: як паводзіць сябе на гэты раз, у гэтай вёсцы. Аніякіх пагроз і канфіскацый, за паслугі дзякаваць і нават плаціць, смела ўступаць у асабістыя кантакты — усё, як у цывілізаванай краіне. А калі надыдзе дзень акцыі (аб чым будзе у час паведамлена), усіх гаспадароў свайго дома ліквідаваць, дом і ўсе забудовы падпаліць. Словам, далей дзейнічаць, як і ў іншых вёсках. Быдла, як і раней, асабліва буйное, не знішчаць, выгнаць з хлявоў, перадаць пагоншчыкам.

Пры тым кожны абавязаны: з першага ж дня зафіксаваць, колькі членаў сям'і пад вашым кантролем, размеркаваць, хто і за каго асабіста адказвае ў дзень акцыі, каб не ўцяклі, не схаваліся. Асабліва важныя апошні дзень і ноч перад ліквідацыяй: яны, як жывёла, чуюць блізкую разніцу.

Маладога салдата Франца Ш. (малады сапраўды, семнаццаць гадоў, прызваны па татальнай мабілізацыі) прымацавалі да напарніка вопытнага, надзейнага, праверанага ў справе. Ота Залескі, паводле нармальных армейскіх мерак, можна сказаць, ужо стары, ён з вясковых жандараў. Таксама татальнік, але не 1943 года прызыву, а 1942. Пасля Маскоўскай бітвы, тады як Франца фюрэр паклікаў пасля Сталінградскай.

Франц у баявое падраздзяленне патрапіў прама з Бабруйскага вакзала, разам з цяжкім узбраеннем, што прыбыло спецыяльна для гэтага батальёна. Так што вёска Петухі — яго першае баявое хрышчэнне. Кажуць, тут самы гадзючнік партызанскі. Як выказаўся штурмбанфюрэр, тут і курыца — партызан.

Аднак, Францу ў гэта нялёгка было паверыць, калі ён бачыў тутэйшы люд — што ў Бабруйску, што ў гэтай вёсцы. Запалоханы і нейкі прыгнечаны: ахвотна саступаюць тратуар, дарогу, у вочы, праўда, пазбягаюць глядзець (дзеці, тыя пазіраюць з пужліваю цікаўнасцю), але калі немец пакліча, паслухмяна падыдуць і нават колькі слоў па-нямецку скажуць, якія ведаюць. «Ніксфарштэйн» — нават з гонарам, што таксама могуць па-нямецку.

Калі па праўдзе казаць, то Францу куды больш не падабаюцца мясцовыя паліцаі: ілжыва-дагодлівыя, а тым не менш у руках у іх зброя. Што ён там на самай справе думае і што зробіць у наступны міг — хіба ведаеш?

Сітуацыя, у якой ён адразу ж апынуўся ў Петухах, не простая для любога. А Францу, навічку, як яму нават уявіць, што сёння ён вось з гэтымі людзьмі жыве ў адной хаце, яны яму грэюць ваду, смажаць яечню, з імі ён гамоніць, смяецца, а заўтра ён іх усіх заб'е? Прачнецца раніцай, павітаецца, пачысціць зубы, пасядзіць за сталом, пераглядваючыся з Палінай, маладой гаспадыняй, а затым яны з Ота паглядзяць на гадзіннік і бразнуць затворамі...

Пераглядвацца і перасмейвацца пачалі не адразу, толькі на другі дзень — Франц з дзяўчынай. Спачатку яму здалося, што ў гэтай хаце — дзве бабулькі. Старая, сівая бабулька з нейкай бязглуздай вечнай усмешкай і бабулька маладзей, ані не харашэй за тую, першую. Нават больш брудная, і ўся закручаная ў нейкія анучы, ды яшчэ і кульгае, горбіцца.

Але назаўтра раніцай другая бабулька некуды знікла, а аб'явілася амаль дзяўчынка, чарнавокая, з падкарочанымі валасамі, цікаўна і як бы смеючыся прыглядаецца да Франца. Спадніца тая ж, па-вясковаму даўгая, бруднага колеру, але кофта беленькая, нават з нейкімі вышыванкамі. Не падазраючы, што Франц па-руску разумее (бацька яго быў у рускім палоне, і дома ў іх нямала рускіх кніг, нават Біблія ёсць славянская), старая шыпіць на сваю, відаць, дачку, не паварочваючы да яе твару:

[1] Вялікая вёска Петухі (нямецк.)



— Што гэта ты сабе дазваляеш, язві тваю душу? Перад кім ты выфранцілася? Што гэта з табой робіцца?

Ота, хаця па-іхняму ані слова, тым не менш бачыць і разумее лепш за Франца. Растлумачыў. Яны тут усе так, хто маладзей і харашэй, прыкметней: твар, шыю ў сажу запэцкаюць, вымажуць, амаль не ў гной — рукі, ногі, апрануцца, быццам хлеў ім чысціць, яна табе і кульгавая, і гарбатая — адно не руш яе! Не спакушайся на яе хараство!

А гэта, бач ты, адразу змяніла тактыку, як толькі ты аб'явіўся,— ганарыся, Франц!

Старому Ота даручаны яго бацькоўскай апецы маладзён, прама з гітлерюгенда, нават спадабаўся. Хаця гараджане, ды яшчэ гарластыя, нахабныя юнцы, яму не надта да душы. Ад іх старому, ды яшчэ вяскоўцу, заўжды трэба чакаць нейкае насмешкі, непрыемнасці. Адзін ужо быў у яго такі, хуценька адхапіў пасаду цугфюрэра, узводам камандуе, і Ота цяпер яму падпарадкуецца. Начыста забыў, якім быў рахманым першыя дні, як зазіраў у рот бываламу салдату, лавіў кожнае яго слова, параду, а цяпер на Ота глядзіць заўжды з насмешачкай, штораз пры пастраенні пацікавіцца: «Hast du dein Scheiss beendigt?», ці пасраў гер Ота, а то цуг, узвод можа яго і пачакаць.

А з гэтым Францам яшчэ і такое магчыма: падстрэліць па дурноце, усё не нацешыцца атрыманым шмайсерам, важдаецца, як з цацкай, зараджае, перазараджае. На Ота пазірае, бы шкадуючы, у старога ўсяго толькі вінтоўка. З імі, з гэтаю дзявухай па-іхняму гамоніць, хіхікаюць, ці не з Ота? Калі паспеў і дзе так насабачыцца па-руску.

2

Прыгледзеўшыся да немцаў, што пасяліліся ў іх хаце, паслухаўшы, што суседзі расказваюць пра сваіх пастаяльцаў, Паліна сапраўды перастала баяцца. Не, страх, жах перад тым, што немцы вычварылі ў суседніх Борках і Каменцы, не знікаў, душыў. Але ж не Франца ёй баяцца, гэтага дылду-хлапца, які не можа з уласнымі рукамі-нагамі справіцца, падобны на ястрабяня, што вывалілася з гнязда. Шаснаццаць гадоў — гэта шаснаццаць гадоў. Менавіта столькі споўнілася Паліне ў студзені. Так хочацца верыць у лепшае. Ну, а немцу гэтаму — ці на шмат больш? Хаця і ўздзеў мундзір, рамянямі і нейкімі тэрмасамі абвешаны, як пудзіла агароднае, з аўтаматам і спаць кладзецца, смярдзіць конскім потам і нейкімі памадамі, адэкалонам. Без смеху глянуць на яго нельга. І ўвесь час бачыш яго блакітныя вочы. Нават спіною чуеш.

Варта ёй апрануцца па-людску, твар памыць, як тут жа жаночым чуццём зразумела: гэты хлопец яе, старацца дужа не трэба. Праўда, ён немец, не той час, калі на вечарынках забаўляліся. Але шаснаццаць ёсць шаснаццаць. Яе раптоўнаеператварэнне — прычына, каб весела, жартам пераглядвацца з Францам. Быццам разыгралі яны кагосьці трэцяга. І ўсё яшчэ разыгрываюць — старога Ота, скажам. Так яго шкада — з яго пагаслымі, абыякавымі вачыма, індычаю зморшчакаватаю шыяй. Памерці можна, слухаючы, як яны, старыя — Ота з маці Паліны — гамоняць. Старая звяртаецца да яго, як да глухога. Мабыць, ёй здаецца, што гучныя словы чужое мовы яму больш зразумелыя.

— Пан, а пан, вада цёплая трэба, галіцца, кажу, будзеце? Што франштэйн, што франштэйн: я кажу, галіцца будзеце?

Частка жыхароў загадзя ўцяклі ў лес, на балота. Жывыя яны, не — ніхто не ведае. Скрозь немцы папярэджваюць: каго ў лесе заспеюць — усіх пастраляюць. А ў вёсцы ўсё-ткі не так страшна. Але таксама страшна. І яшчэ як! Петухоўцы, хто застаўся ў сваіх хатах, карыстаюцца любым выпадкам, прычынаю, каб дазнацца, пачуць ад суседзяў супакойлівыя словы, весткі. Адно аднаго абнадзейваюць: а здаецца нічога, не лютуюць, штокроку: «данке! данке!», не падобна, каб задумалі нешта благое. Можна бачыць, як мірна мыюцца, палошчуцца немцы ў прасторным двары Францкевіча ля калодзежа: дзеці ім паліваюць спіны халоднай вадой: ахканне, смех. Вёску дзівіць, як часта і шмат яны ядуць. Дзень у дзень над вёскай стаіць чадны дым з каміноў: згатуеш ім ранні сняданак, тут жа стаў другі, тут жа полудзень і яшчэ падвячорак — гэтак да позняе ночы. Як у прорву, як на згубу ядуць. Ну, абы людзей не чапалі. Харчы ў іх свае. «Свае» — што нахапалі ў іншых вёсках, свіней, гусей на вазах вязуць, муку і нават бульбу выграблі.

А петухоўскае не чапаюць, нічога не скажаш.



# „Майстэрня"

● Імгненне, стала ўчарашнім. 1991 г.



# 411 ПРЫТУЛАК

## РАСКАЗ АЛЬПІНІСТА УЛАДЗІМІРА ЦАНУНІНА — АДНАГО З ЖЫХАРОЎ ПРЫТУЛКУ

Летам 74-га мы ішлі на Эльбрус. Нагадаю: 5642 метры над узроўнем мора. Каб падняцца на вяршыню, трэба адбухаць 120 кіламетраў. Пад'ём серпанцінам. Пасля двух ці трох тысяч метраў, як у каго, пачынаюцца фокусы: шмат хто слепне. Ратунак адзін — хутчэй уніз. Гэта не курыная слепата. І не снег, ад якога можна абараніцца акулярамі. Прычына — рэзкі перапад ціску паветра. Сам ведаю, як яно даецца. Ідзеш, ідзеш, а перад вачыма паступова ўсё навокал чырванее, чырванее, потым над бровамі пачынае страшэнна балець і раптам — джык! — суцэльная цемра. Падпахі цябе і ўніз. Хоць бы на метраў сто. Зрок паступова вяртаецца. Зноў пaўзеш угору, калі яшчэ здольны варушыцца.

Тым разам ішлі вельмі цяжка. Асабліва да 411-га прытулку, што знаходзіцца ў седлавіне паміж Паўднёвай і Паўночнай вяршынямі Эльбруса. Прытулак — гэта штосьці падобнае на браніраваную гасцініцу, дзе прыходзяць да нармальных пачуццяў перад апошнім кідком на вяршыню. Да яе — 600 метраў. Асабліва запомнілася першае наведванне прытулку. Мяне папрасілі нарыхтаваць дроў для вогнішча. Узяў сякеру, размахнуўся з усёй сілы — г-э-эх! — па жэрдцы, што прывалаклі на сваім гарбе. А сякера, як жывая, скок пад бараду. Размахнуўся яшчэ раз — зноў тое самае. Нават знаку не відаць, што прыклаўся. Вось дык дзівосы! Здаецца, сілы ў табе — хоць адбаўляй. Не тое што перасекчы — можаш паламаць любое палена. А папраўдзе цябе хапае толькі падняць сякеру. Паўдня я дзёўб тую жэрдку. Потым засунуў яе ў нейкую трубу і так паламаў на кавалкі.

Карацей, прыпаўзлі мы ў прыют. Упокат усе ляжаць. Я адчуваю: мне трошкі лягчэй, чым астатнім. Відаць, надта вялікія лёгкія выручалі. Сеў і ўзяў у рукі гітару, якую бяру з сабою ў любыя вандроўкі. Трэба падбадзёрыць знясілены люд. Спяваў тое, што, як кажуць, само лягло на язык:

**Здесь вам не равнина,**
**Здесь климат иной,**
**Идут лавина одна за одной,**
**Здесь на камнепад ревет камнепад.**
**И можно свернуть,**
**Обрыв обогнуть,**
**Но мы выбираем трудный путь,**
**Опасный, как военная тропа...**

Іграю, спяваю, а непадалёку адзін з нашай групы ляжыць. І, што мяне найбольш здзівіла, курыць. З нас ніхто больш не курыў. Нават я, хоць быў заўзяты курыльшчык. Дарэчы, з таго дня я таксама пачаў дыміць у гарах. І магу пацвердзіць: вышыня даецца намнога лягчэй, хоць па логіцы, павінна быць наадварот. Калі я скончыў песню, ён падпоўз да мяне і кажа:

«Колькі гадоў іграю на гітары, а ўпершыню сустракаю чалавека, які грае маім, цыганскім, строем... Дай мне гітару!»

Я, вядома, даў. Ён праспяваў «Скалалазку». Група — немалая, за сорак чалавек. Па імені ведаеш усіх, а па прозвішчу — не кожнага. Альпіністы на пашпарты не глядзяць. Яго, як і мяне, звалі Валодзя. Валодзя дык Валодзя. Ідзе дзесьці за спінаю, паўзе, як можа. Між іншым, вельмі цяжка ішоў... А побач са мною якраз Валера Заблоцкі сядзеў. Прыглядаўся ён, прыглядаўся да гэтага Валодзі, а пасля нібы жартам пытаецца:

«А ці не Высоцкі ты выпадкова?»

Адкуль нам ведаць, хто перад намі? Фотаплакатаў столькі ў сямідзесятых не вісела на слупах і агароджах.

«Высоцкі,— кіўнуў ён галавою і папрасіў: — Толькі няхай гэта застанецца паміж намі, мужыкі...»

Ды хіба шыла ў мяшку ўтоіш?!

На наступны дзень мы, дванаццаць чалавек, падняліся на Паўночную вяршыню Эльбруса. Высоцкі чакаў нас разам з усімі ў прытулку. Вярнуліся, сфатаграфаваліся. Усе разам і па некалькі чалавек. У мяне захоўваюцца тыя фотаздымкі. Стаю побач з Уладзімірам Высоцкім. Абодва ў форме, барадатыя. Хто ні зірне — адразу пазнае спевака.

На тым нашы сустрэчы не скончыліся. На наступнае лета нас панесла ў археалагічную экспедыцыю ажно ў Туркменію. Працавалі ў Каракумах на раскопках горада Ашаш, які калісьці пабурыў Цімур Тамерлан. Выпадкова даведваемся з газеты: у Ашхабад з канцэртам прыехаў Высоцкі. Большасць нашай экспедыцыі паднімалася разам з ім на Эльбрус. Дзякуй Богу, сярод нас быў Сашка Сікарскі — ужо нябожчык — у што я ніяк не магу і не хачу паверыць.

«Хлопцы,— кажа ён,— адпусціце на дзень! Хоць зубамі, але вырву білеты!..»

Сашка не быў бы Сашкам — дабіўся-такі да самога Высоцкага! Не ведаю, як яму гэта ўдалося. Уладзімір яго, канечне, адразу пазнаў... І наш ганец вярнуўся на раскопкі, маючы ў кішэні 54 білеты.

Той ашхабадскі канцэрт складаўся з двух аддзяленняў. У першым прагучалі, так бы мовіць, «патрыятычныя» песні — «Сыновья уходят в бой», «Он не вернулся из боя»... Другое аддзяленне склалі песні пра каханне. А ў канцы канцэрта Высоцкі раптам сказаў:

«На заканчэнне — песні для маіх сяброў! Хлопцы, прашу вас падняцца — я спяваю для кожнага з вас!..»

І ён пачаў называць нас па імёнах і прозвішчах. Не забыўся, хоць мінуў год, як мы ішлі на Эльбрус, і перад вачыма ў яго штодня круцілася мноства людзей. Што там казаць — такая ўвага да слёз расхвалявала нас. Канцэрт з усімі Валодзевымі рэплікамі я запісаў на магнітафонную стужку. Запіс з гадамі пачаў «яўкаць», але ўсё роўна чуваць выдатна. Перад тым, як выканаць знакамітых «привередливых», Высоцкі прызнаўся, што напісаў гэтую песню пасля нашага сумеснага каўказскага паходу. І таму, калі я сёння чую ў яго выкананні або сам спяваю «Коней», дык у мяне разам са словамі «хоть немного, но продлите путь к последнему приюту» перахоплівае дыханне, а перад вачыма адразу паўстае незабыўны 411-ты прытулак.

Запісаў **Уладзімір ЯГОЎДЗІК.**

страліць. Выстраліў Франц. Ён і не заўважыў, як рука ўскінула затвор аўтамата, апамятаўся толькі, калі аўтамат забіўся ў яго руках. Скрозь чад, што запоўніў пакой, лёгкія, вочы, свядомасць, Франц бачыць, як Ота, узмахнуўшы рукой і як бы адкідваючы вінтоўку, якая стукнулася аб кухонную шафу, хіліцца да печкі, хапаецца рукамі за яе, быццам узлезці на яе хоча. Спаўзае на падлогу, а белая бакавіна печкі заплывае чырвонай, крывавай плямай, што шырыцца на вачах у Франца (і ў вачах Франца).

Нейк адчужана ён пачуў гук свайго аўтамата, што ўпаў пад ногі. Нехта яго штурхае ззаду (Паліна), ён пераступіў аўтамат і апынуўся ля ямы, што вяла пад падлогу. Паліна трымае яго за плечы, нахіляе:

— Туды! Там ёсць ход! Туды!

Франц паспрабаваў нешта растлумачыць, спытаць, павярнуцца да яе, але чужыя рукі ўчэпіста і ўпарта скіроўваюць яго некуды. Толькі б далей ад гэтага жаху: Франц ступіў на лесвічку, адразу ж нязграбна слізгануў з яе і ўпаў каленьмі на нешта, яму слізкае, коўзкае. Рукі загрузлі ў бульбе, мокрай, падгнілай.

— О Божа! О Божа! О Госпад Бог!

Старая тут, жывая, але яе не відно. А Паліна закрывае за сабою вечка падполля. Шэпча:

— У цябе ліхтарык, запалі ліхтарык!

Дзейнічае надзіва ўпэўнена, з разлікам, быццам не раз з ёю такое адбывалася. Гэта прымушае падпарадкавацца і чакаць яе распараджэнняў. Праціснулася каля Франца, скіравала прамень ліхтарыка ў руцэ Франца на патрэбную ёй сценку і адразу стала зрываць, здымаць з яе драўляны шчыт.

— Ціха вы, мама! — прыкрыкнула на старую, што охала, стагнала.

За шчытом адкрылася дзірка-лаз. Паліна падсаджвае маці:

— Вы першая. Толькі ціха. Не бойцеся, татка вучыў вас, вы ж помніце.

Бездапаможна, бы ў жабкі, заторгаліся і зніклі ў чарнаце скрыўленыя ногі, на Франца жмурачыся (прамень ліхтарыка б'е ёй у вочы) глядзіць Паліна. Вялікія спалоханыя дзіцячыя вочы, не верыцца, што гэта яна так сурова распараджалася. Просіць:

— Паўзі цяпер ты, а я зачыню за сабой. Там у нас схованка, такі вялікі склеп. Спецыяльна мой фатэр зрабіў для нас. Нас не знойдуць, не бойся.

Франц поўз па халодным пяску, плячамі, локцямі, галавой адчуваючы дошкі вузкай, як труна, нары. Даводзіцца віцца, як чарвяку. Ён ужо і здаецца сабе чарвяком, у адзін міг з самаўпэўненага вясёлага гітлерюгенда, з начытанага, музыкальнага сына паважанага ў наваколлі пастара ператварыўся ў нешта запалоханае, паўзучае, што шукае ратунку. Чуе, як наперадзе цяжка крэкча старая, услед за ёю адпаўзае ад усяго ранейшага, ад сябе былога. Як хутка ўсё змянілася. Усё было і нічога не засталося. А недзе ззаду — Паліна. Адзінае, што яшчэ засталося на зямлі (пад зямлёй!) для яго, як праменьчык надзеі,— гэта спалоханая, але такая рашучая дзяўчынка. Франц скіраваў ліхтарык назад і ўбачыў... аголеныя белыя лыткі ног, стаптаныя чаравікі. Паліна паўзла нагамі ўперад — скеміў: яна зачыняла лаз шчытом, маскіравала і не змагла развярнуцца ў вузкай нары.

— Патушы зараз жа! Ты што? — гнеўны дзявочы голас.

Некуды зніклі рухавыя ногі старой. На руках Франц споўз, спусціўся ў нейкую яму, пасвяціў і агледзеўся. Тут скрынкі, на адной ужо ўсселася старая, стаяць бочачкі, вядро і нават кружка ля яго — усё нарыхтавана для працяглага сядзення. Старая паказвае: сядайце і вы! Сказаў машынальна: «данке», а не «дзякуй» — нямецкае слова для самога прагучала па-чужому, адразу павеяла пагрозай. Яны там знойдуць забітага Ота, а можа, ён толькі паранены, раскажа, хто ў яго страляў. Аўтамат Францаў застаўся ў хаце. Лепш бы згарэў дом, так надзейней было б, трэба было падпаліць, раней чым хавацца — з труслівай жорсткасцю падумалася Францу. Яму не да самаацэнак. Ды і не пра сябе ён думае, больш баіцца (упэўнен у гэтым) за родных, калі ўсё раскрыецца, іх у Германіі чакае лагер, ганьба, нянавісць і пагарда суседзяў.

Паспешліва ў склеп слізганула Паліна, балюча аб нешта стукнулася, ойкнула, сярдзіта папраўляла на сабе спадніцу.

— Памажы мне.

Ага, і тут ёсць шчыт, можна задраіць дзірку-лаз, што вядзе да хаты. Паліна растлумачыла непраўдападобна абыякавым тонам:

— Гэта ад дыму, калі гарэць будзе хата,— і прастагнала: — О Божа, што цяпер там?!

**(Працяг будзе.)**





прытым не з распуснай, а вось з такой чыстай, прывабнай. У гэтым халодным нібыта разліку: не ўпусціць! — нейк прысутнічала пачуццё закаханасці. Яно, гэтае пачуццё, нават завастрылася ад драпежных намераў, думак, што ўсё мацней бралі над ім уладу. Ад безабароннасці яе і асуджанасці яе плоць станавілася ўсё больш жаданаю. На трэцюю ноч толькі пра гэта і думаў, вячэралі, нікому ў вочы не мог глядзець. Дзяўчына разумела гэта па-свойму і дражніла яго яшчэ больш: падсочваючы, ловячы яго позірк. Так і дурное шчаня пачынае гуляць перад пашчаю воўка.

Што яшчэ жыло ў яго, Франца, свядомасці, як ні дзіўна — пратэст. Жорсткасць, эгаізм жадання супраць жорсткасці догмы, ідэалогіі.

Расавы закон жа яму гэтага не дазваляе. Забіць дазваляе і нават абавязвае гэта зрабіць. А вось падобным пралюбадзействам прынізіць сваю расу — тое ж самае што скаталожніцтва. І таго горш, больш небяспечна: скаціна табе сваю ідэалогію не перадасць.

Што пра гэта кажа закон, які спавядае яго бацька, пратэстанцкі святар, Франц, калі трэба, можа прыгадаць, але кіравацца ім немец не абавязаны. Фюрэр вызваліў ад гэтага абавязку, даў свой запавет, закон. Але цяпер менавіта з законам расы спрачаўся эгаізм маладога немца, не вяртаючыся, аднак, да бацькаўскага наказу. Новыя скрыжалі ўзнагароджваюць яго вернасць толькі трупам. І адбіраюць радасць уладання жывым. Дзе ж сіла праз радасць? Нешта тут не так, мой фюрэр, гэта прывабіць хіба што Ота — яму важней за ўсё сабраць смачную пасылку і пасласць яе сваёй жонцы...

Што адбылося ў тую ноч на кухні, на шырокай лаве ля акна, дзе клалася спаць Паліна, цемра не дала разгледзець ні Кучарысе, ні старому Ота (яна спала на печы, ён — у другім пакоі).

Я ж гэту сцэну нібы бачу (з боку Франца), выразна яе ўяўляю: сам перажыў нешта падобнае.

Гадоў за пяць да вайны да нас у госці прыехалі цётка з мужам і іх пляменніца. Быў я яшчэ пяцікласнікам-школьнікам. Дужа запала мне ў вока пляменніца, дзень у дзень мы з ёю лёталі па двары і ў хаце, абліваліся вадою, шчыпаліся, яна на мяне скардзілася, і нас абаіх прысаромлівалі, сварылі, мая мама мяне, цётка яе. А калі патушылі святло, леглі спаць (госці ў сталовай), я ў цемры папоўз, каб напалохаць іх. Дапоўз да стала — далей іх ложак і канапа — і крыкнуў па-дурному: «А-а-а!» Нешта гучна фыркнула, зашыпела, як клубок змей, і па маёй фізіяноміі, па шыі прайшліся чыесьці кіпцюры. Ды такія вострыя, шалёныя. Мне б у час успомніць, што ў нашай кошкі нарадзіліся кацяняты, і карабок, іх пасцель, пад тым сталом. Нічога не цямячы, залямантаваў, як зарэзаны. Спалох быў усеагульны. Пакуль не запалілі святло і не пабачылі мяне, з распісанай фізіяноміяй, і не скемілі, што адбылося. Мяне тут жа расфарбавалі яшчэ ёдам, доўга не маглі супакоіцца — потым ужо і ад смеху.

У хаце Кучарыхі рагатаў толькі Ота Залеўскі. Астатнім было не да таго. Франц выбег за дзверы, на вуліцу. Паліна кінулася на печ, да маці пад крыльца. І стаіліся абедзве.

Раніцой жанчыны ўсталі, як звычайна, раненька, асцярожна капашыліся ля печы, даілі карову, кармілі кабанчыка, курэй — усё, як заўсёды. Выйшаў да іх Ота, выспаны, дужа задаволены мінулай ноччу. Яны яго абслужылі цёплай вадзічкай: падрэзаў свае вусы, пагаліў змаршчакаватыя шчокі і шыю, часцей звычайнага паўтараючы: «Данке, гут, гут!» Франц выйшаў са спальні, як выбег, звонячы зброяй і металічнымі карабкамі на поясе, адварочваючы падрапаную, з барвовымі шрамамі, фізіяномію. Не павітаўшыся, пабег на вуліцу. Кучарыха правяла яго спалоханымі вачыма, нават Паліна, зусім ціхая, збялелая, стаяла ля шафы, вінавата маўчала. Ота ж проста свяціўся ўвесь, як новы пятак.

— Лыбіцца, быццам падмазку з'еў! — не стрывала Паліна. Здаецца, яна пакрыўдзілася за Франца.

Старая Кучарыха на яе накінулася:

— Ты хоць гэтага не чапай! Хопіць, ужо дагулялася.

Паліна ціхутка шмыганула за дзверы. Вярнуліся яны абое, зміраныя, задобраныя (што яна яму там казала, чым суцешыла?), хоць ты іх з іконай блаславляй.

— Мама, у нас лой быў, гусіны тлушч. Памазаць — і пройдзе.

Выбегла ў кладоўку, а Франц стаіць і збянтэжана пасміхаецца, пагладжваючы шчокі, лоб, шыю.

— Вőйна, матка, крыг! — спрабуе жартаваць.

— Вы ўжо на яе не гневайцеся, маладое-дурное, што з яе ўзяць?

Хвала Богу, хоць стары немец пайшоў у прыбіральню, не хутка вернецца. Паліна ўжо нясе шклянку, беланапоўненую, калупнула пальцам.

— У нас так лечаць,— растлумачыла Францу,— калі хто незнарок падрапаецца. Я змажу ранкі, гут? Не балюча, крышачку.

Франц пакорліва схіліўся. Паліна, водзячы пальчыкам, замаўляе:

— Па саломе, па мякіне, няхай пабаліць і пакіне. Пакуль жаніцца — загаіцца. Зажыве да вяселля.

3

Дзень расправы набліжаўся вывераным ваенным крокам. А вяскоўцам як вушы заклала, вочы залепіла: так ім не хацелася ў гэта паверыць. За ўсе крыўды Германіі, пасляверсальскія пакуты нямецкага насельніцтва павінна была расплаціцца беларуская вёска Петухі. Аб тым ведала адна частка людзей (пастаяльцы), другая ж частка (самі жыхары) з кожным, спакойна пражытым днём усё больш верыла: пранесла, на іх бяда не абрынулася, хаця б гэты раз.

Апошнюю ноч, калі ўжо быў аддадзены загад ажыццявіць на світанні (а 8.00), акцыю, Франц амаль не спаў. Ота Залеўскі паведаміў яму агульнае распараджэнне: больш нікога з вёскі не выпускаць (але тым, хто з лесу вяртаецца, не перашкаджаць), па магчымасці трымаць сваіх гаспадароў у хаце, папярэджваючы, што вось-вось можа пачацца бой з партызанамі, яны, маўляў, падыходзяць, акружаюць. Ота спаў адным вокам, некалькі разоў ноччу прачынаўся і курыў на кухні, бегаў вады папіць ці на двор па патрэбе. Франц ліхаманкава думаў, уяўляў, як гэта адбудзецца. Ота ў яго спытаў, ухмыляючыся: ты, вядома, маладую выбраў? Што ж, падабаецца, біттэ, калі ласка, а я па-старэчы прыгрэю старую каргу.

І ўсё-ткі задрамаў Франц, а калі прачнуўся і пачуў на кухні мірныя галасы старой і Ота, што ўсё спрабавалі растлумачыць адно аднаму, якая гэта ліхая штука вайна, яго раптам працяў холад, узялі дрыжыкі. Гэтага яшчэ не ставала! Як жа ён выйдзе да іх, як паглядзіць на Паліну, вачыма сустрэнецца з яе позіркам? О Божа, лепш бы не прачынацца наогул! Не жыць, не ведаць нічога гэтага. Бацька, ты любіў паўтараць словы пра чашу, якую Сыну Божаму назначана было выпіць да дна. За нас, каб і мы свае выпрабаванні прайшлі з гонарам. Ну, а сыну твайму — вось такое выпала. Не я выбіраю, за мяне Фатэрлянд, фюрэр вызначылі маю ношу. Як з ёю быць, што рабіць мне? У мяне засталася гадзіна часу, хто, хто падкажа?

Чуў, як з двара зайшла Паліна, грымнула дровамі ля печкі. Перад гэтым у пакой да Франца забег ашалелы стары: ты што, забыў, твая пабегла некуды, за яе ты адказваеш! О Божа, няхай бы яна і сапраўды ўцякла, не з'елі б за гэта Франца, ну, няхай бы пакаралі як след. Ці няхай, калі ўжо на тое пайшло, Ота ўсё гэта зробіць, яму гэта не навіна.

Чутно, як Паліна мые даёнку, пойдзе карову даіць, а сюды зноў уляціць гэты ашалелы падганяць Франца. Вось ён, аж задыхнуўся ад гневу, словы ў глотцы заселі.

Франц адно махнуў рукою, навешваючы на плячо аўтамат і кіруючы на кухню. Павітаўся з гаспадыняй, яна паабяцала:

— Зараз Паліна малачка свежага прынясе, а вы трошкі шпацырэн. Будзе апетыт гут.

Да чаго здольная да моў. Што ж, Франц пагуляе, а то яго апякун хутка забрэша ад абурэння.

Франц накіраваўся да варотаў, выглянуць на вуліцу. Чутно, як у хляве за не шчыльна прычыненымі варотамі пішчыць, патрабуе кармлення кабан, далятае голас Паліны, што пакрыквае на неспакойную карову. Усё так мірна, звычайна. І такі сонечны ранак. Самы чорны ў жыцці Франца. Глянуў з варот на вуліцу, там нейкі рух, заведзены машыны, перабягаюць вуліцу салдаты. А раптам раздумаў штурмбанфюрэр, гэта ў яго ўладзе, раптам аб'явяць: акцыя адмяняецца, адыходзім. Ну, няхай другі раз, няхай недзе, але не зараз, не тут. Зразумейце ж, Паліна, Паліна! Фюрэр мой, Германія, я дрэнны патрыёт, сам бачу, але я яшчэ набяруся мужнасці, волі, рашучасці. Я спатрэблюся ў справе. Але толькі не цяпер!

Чутно, скрозь усе ранішнія гукі прабіваецца да Франца, як звонка б'е ў дно даёнкі струмень малака, ласкавы голас Паліны, што ўгаворвае: «Стой спакойна, што гэта з табою сёння?» Ох, дзяўчынка, дзяўчынка, нават быдла нешта чуе, а ты — як жа ты не бачыш, што рыхтуецца? Сказаць ёй, махнуць на ўсё рукой і папярэдзіць! Ну і што, куды яна цяпер уцячэ, дзе схаваецца, калі ўсё пачне гарэць, а яшчэ Ота, ужо





ж ён не дасць парушыць загад! Раней трэба было, хаця б учора, пазаўчора. Чаго чакаў, чаму так не зрабіў? Але гэта ж здрада, гэтым ты здраджваеш інтарэсам свайго народа. Які там яна, гэта дзяўчына, вораг для Германіі, але важны прынцып: дзейнічаеш патаемна, за спінай усіх, парушаючы загад, у інтарэсах не Германіі, а яе ворагаў.

З расчыненых варотаў выйшла Паліна з цынкавай даёнкай у руцэ, убачыла распісаную ёю фізіяномію Франца, збянтэжана ўсміхнулася, нават румянак радасны сагрэў яе шчокі. Франц памог зачыніць цяжкія вароты. Знаёма ўскінула кароткія валасы і раптам паспешліва накрыла краем даўгой спадніцы малако. Растлумачыла, сарамліва смеючыся:

— Каб не сурочылі. Каб малако не скісла, вымя ў каровы не высахла. Калі ў вас благое вока.

— Паліна, я хачу сказаць,— усё, што здавалася самым важным, раптам перастала нешта значыць,— я хачу ... папярэдзіць. Блягі чалявек прыйшоў ужо, вам усім будзе бляга.

На Франца ўмольна глядзяць вялікія чорныя вочы: гэта няпраўда? Я не так зразумела? Ты абароніш!..

— Трэба вам... я не ведаю што...— сказаў і азірнуўся на дзверы, на вароты. Раптам гучна зарагатаў, гучна вымавіў: — Малако гут? Малако карашо!

Як бы перакрыўляючы Ота. Паліна на яго глядзіць у зваротнай надзеі, а можа яна не так зразумела яго? І ўсё не так страшна. Пайшла да хаты, а Франц, трымаючы аўтамат ля пояса, услед.

І пастаяльцы-немцы, і старая — усе ўважліва назіраюць (гэта заўсёды заварожвае), як малако льецца і пеніцца ў шкляным збане. Старая ўжо накрыла на стол: нязменная бульба, кавалачкі сала, смятана, кансервы (відаць, Ота расшчодрыўся і адкрыў банку).

Паліна ўзяла другі, непразрысты збан, гліняны, накрыла марляй і цэдзіць малако ў яго. З выразам смутку і асуджанасці на твары: Францу прыгадаліся такія твары ў музеі, куды яго часта вадзіў бацька — на карцінах з выявою мадоннаў. Ота выразна, не спяшаючыся, каб другія не звярнулі ўвагі, дастаў свой вялікі срэбраны гадзіннік і, шчоўкнуўшы вечкам, паглядзеў на стрэлкі. Заўважылі аднак усе: яшчэ б, такі гадзіннік, старадаўні, такі гук. Кучарыха нават пацягнулася разгледзець яго бліжэй. Як да ляза сякеры ў руках ката: ці вострае? Жах скаваў галаву Франца жалезным абручом, сталі раптам балець вочы, нават слязіцца ад болю.

Міжволі зірнуў на свой гадзіннік, наручны, падарунак маці: без пяці хвілін восем! Заўважыў, што міжволі ўслухоўваецца, што адбываецца за акном: ц і н е п а ч а л о с я? І ў жоўтых (якія яны жоўтыя ў яго!) вачах, на зрэзаным глыбокімі зморшчакамі твары Ота такое ж чаканне. Зморшчакаватая шыя сцярвятніка... Абодва заварожана глядзяць, як льецца пеністае малако, быццам і гэта звязана з чаканнем: скончыцца і... пачнецца.

— Вы снедайце, а я набяру бульбы, абед варыць трэба,— раптам пачуўся голас старой гаспадыні. Спалох на твары Ота: с і т у а ц ы я  ў с к л а д н я е ц ц а! Кабета за кольца ўзняла вечка падпола, у другой руцэ трымае пусты кош.

— Dorthin darf man nicht [1] — памкнуўся да яе Ота, падхопліваючы вінтоўку, што стаяла ля сценкі. Старая, не разумеючы, што немец мае на ўвазе, перадала яму з рукі ў руку вечка склепа, і Ота, як дурань, прыняў яго, трымае.

А старая, усё ўсміхаючыся, спускаецца ў склеп. І тут глуха застукалі за акном, недзе ў суседзяў, стрэлы.

— Komm raus [2],— закрычаў Ота.

Франц глядзіць на Паліну, што, уставіўшыся ў акно, прыслухоўваецца. Твар яе такі ж белы, як малако, што сцякае, ужо льецца цераз край чорнага збана, хлюпае на падлогу. Старая з склепа ані гуку, быццам і няма яе там. Ота ў адчаі кінуў вечка, якое да таго бязглузда трымаў, на падлогу і, паспешліва зарадзіўшы вінтоўку, грымнуў у падполле стрэлам. Франц ад нечаканасці (усё-ткі) падскочыў з табурэта, і цяпер Ота, ашчэрыўшы пракураныя жоўтыя зубы, яму крыкнуў:

— Was steckst du da, Scheisser? [3]

І скіраваў вінтоўку на Паліну. Але Паліна за спінай у Франца, і Ота не можа вы-

---

[1] Туды нельга! (Ням.)
[2] Вылазь наверх! (Ням.)
[3] Ты што, засранец, сядзіш? (Ням.)




## ПРЫКЛАДАМ КАНСТРУКТЫЎНАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА ПА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ПРАБЛЕМАТЫЦЫ З'ЯЎЛЯЮЦЦА ПРАКТЫЧНЫЯ КРОКІ

# ПРАКТЫЧНЫЯ КРОКІ

**З выступлення Пастаяннага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь пры ААН Генадзя БУРАЎКІНА ў Другім камітэце 47-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН па пункту 91 парадку дня «Міжнароднае супрацоўніцтва ў справе вывучэння, змякчэння і мінімізацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы». 19 лістапада 1992 года, Нью-Йорк.**



**арнобыльскі след** на многія пакаленні стаў вызначальным ва ўсіх сферах жыцця Рэспублікі Беларусь. Яна вымушана цяпер накіроўваць прыкладна чвэрць нацыянальнага бюджэту на змякчэнне наступстваў гэтай катастрофы, што сур'ёзна абцяжарвае дэмакратычныя рэформы і пераход да рыначных эканамічных структур. Нават уведзены ў нас дзяржаўны 28-працэнтны спецыяльны падатак не можа запоўніць востры недахоп сродкаў на фінансаванне прынятых праграм барацьбы з наступствамі выбуху на ЧАЭС. Трывога ж людзей за сваё здароўе і жыццё нашчадкаў стварае дадатковую напружанасць у грамадстве.

Ацэнкі, што змешчаны ў Міжнародным чарнобыльскім праекце, які каардынаваўся МАГАТЭ, неабвержна сведчаць, які страшны радыяцыйна-экалагічны ўрон нанесены маёй Радзіме. Параўнальныя звесткі, прадстаўленыя ў 1991 годзе ў Парыжы на Міжнароднай канферэнцыі «Ядзерныя аварыі і будучыня ядзернай энергетыкі: урокі Чарнобыля», паказваюць на тое, што атрыманыя і прагназуемыя эфектыўныя дозы абпраменьвання насельніцтва Беларусі, на вялікі наш жаль, самыя высокія ў свеце.

Вярхоўны Савет, урад Рэспублікі Беларусь надзвычай заклапочаныя прагрэсіруючым ростам некаторых захворванняў, асабліва значным павелічэннем, прычым раней, чым прагназавалася, колькасці паталогій шчытападобнай залозы. Гэтыя вельмі трывожныя звесткі пацверджаны, у прыватнасці, місіяй па ўстанаўленні фактаў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя.



**а мінулыя гады** у Беларусі назапашаны значны, шмат чым унікальны фактычны матэрыял як аб выніках радыяцыйнага ўздзеяння, так і аб практычных захадах па яго карэкцыі, уключаючы сацыяльна-рэабілітацыйныя мерапрыемствы. Залучэнне патэнцыялу сусветнага навуковага супольніцтва да далейшага вывучэння і апрацоўкі гэтых каштоўных звестак, аналізу нацыянальнага вопыту спрыяла б, на наша перакананне, інтарэсам усяго Чалавецтва.

На сваім жорсткім вопыце мы пераканаліся ў неабходнасці прызнання прынцыпаў калектыўнай бяспекі і калектыўнай адказнасці ў прадухіленні тэхнагенных катаклізмаў. І мы заклікаем сусветную супольнасць надаць пільную ўвагу комплексу прэвентыўных мер, пачынаючы з распрацоўкі і ўкаранення сістэм забеспячэння надзейнасці існуючых ядзерных рэактараў, стварэння і ўзмацнення прафілактычных мер па прадухіленні аддаленых вынікаў радыяцыйнай нагрузкі на экасістэмы і чалавека. Асаблівае месца ў гэтай справе павінны займаць краіны і арганізацыі, якія развіваюць ядзерную энергетыку. Да большай актыўнасці мы заклікаем і дзяржавы, у той або іншай ступені закранутыя «чарнобыльскім ценем».



**атуральна,** што Беларусь, Украіна і Расійская Федэрацыя, якія больш за іншыя краіны пацярпелі ў выніку катастрофы, надзвычай востра ўсведамляюць і нацыянальную адказнасць, і неабходнасць злучэння намаганняў і каардынацыі міжнародных дзеянняў. Пра гэта гаварылася і ў «Звароце кіраўнікоў дзяржаў Беларусі, Расійскай Федэрацыі і Украіны да Арганізацыі Аб'яднаных Нацый адносна прадастаўлення дапамогі ў змякчэнні наступстваў чарнобыльскай катастрофы» ад 20 сакавіка 1992 года, якое ставіла мэту надаць новы імпульс міжнароднай чарнобыльскай праграме. Прыкладамі канструктыўнага супрацоўніцтва па чарнобыльскай праблематыцы ў новых умовах з'яўляюцца практычныя крокі ў рамках новых і пацверджаных пагадненнях гэтых трох краін з Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя, Камісіяй Еўрапейскіх супольніцтваў, ажыццяўленне праектаў праграмы «ЮНЕСКА—Чарнобыль», а таксама дасягненне іншых дамоўленасцяў, як на двух-, так і на шматбаковай падставе. Мы разлічваем таксама і на скаардынаваныя ў Вашынгтоне, Лісабоне і Токіо міжнародныя намаганні па аказанню садзейнічання новым незалежным дзяржавам у кантэксце тэхнічнага і іншага садзейнічання з улікам і чарнобыльскіх праблем.

На жаль, даводзіцца канстатаваць, што велізарны патэнцыял ААН, яе аўтарытэт і вопыт у справе вывучэння, змякчэння і зніжэння наступстваў Чарнобыля не задзейнічаны цалкам.

**Мы вымушаны** шчыра адзначыць, што нас не задавальняюць ні ўвага Сакратарыята ААН да чарнобыльскіх праблем, ні дзеянні яго рабочага механізма па выкананні рэзалюцый 45/190 і 46/150 Генеральнай Асамблеі ААН...

Нам бачыцца, што далейшыя намаганні ААН павінны сканцэнтравацца на распрацоўцы доўгатэрміновай праграмы пошуку і залучэння новых і дадатковых рэсурсаў, магчыма, з выкарыстаннем нетрадыцыйных падыходаў. Улічваючы сённяшнія палітычныя рэаліі, праведзеная нядаўна ў Кіеве параўнальная інвентарызацыя прыярытэтных накірункаў Зводнага плана ААН па Чарнобылю дазволіць выкарыстаць гэты план як банк праектаў, прапанаваных для ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва...

Мы таксама лічым, што пры размеркаванні рэсурсаў трэба прымаць да ўвагі параўнальную абцяжаранасць вынікамі катастрофы ў асобных дзяржавах, іх навуковатэхнічны і эканамічны патэнцыял, эфектыўнасць выкарыстання ўжо атрыманай міжнароднай падтрымкі. Пры гэтым на даным этапе падставай для работы ААН і яе сістэмы павінны быць мандаты кансэнсусных рэзалюцый 45/190 і 46/150 Генеральнай Асамблеі ААН, а таксама рэзалюцыі, якую павінны будзем прыняць на гэтай сесіі, пры належным уліку іншых рашэнняў, якія маюць дачыненне да гэтай сферы міжнароднага ўзаемадзеяння.

### НАСТУПСТВЫ, НЕ СУВЫМЕРНЫЯ НІ З ЧЫМ

# ПАДЗЕЯ, ЯКАЯ ЎЗРУШЫЛА СВЕТ

### З ДАКЛАДА ГЕНЕРАЛЬНАГА САКРАТАРА ААН



ягледзячы на тое, што ў свой час пра гэту аварыю паведамілі шматлікія сродкі масавай інфармацыі, трэба нагадаць асноўныя яе факты.

На досвітку ў нядзелю, 26 красавіка 1986 года, на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, што на тэрыторыі Украіны, адбылася аварыя. У выніку некалькіх выбухаў дах будовы, у якой размяшчаўся блок № 4, быў сарваны, пры гэтым агалілася актыўная зона рэактара, што і прывяло да разавага выкіду ў навакольнае асяроддзе самага большага з калі-небудзь зарэгістраваных аб'ёму радыеактыўнага рэчыва. Паводле ацэнак, у выніку аварыі ў атмасферу было выкінута 50 мільёнаў кюры радыеактыўных ізатопаў, якія распаўсюдзіліся па заходніх раёнах былога Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік (СССР), па Усходняй і Заходняй Еўропе і ў меншай ступені па ўсім заходнім паўшар'і. Згодна з разлікамі, дзесьці 4 мільёны чалавек атрымалі павышаныя дозы радыеактыўнага апраменьвання і вялікія раёны Украіны, Беларусі і Расійскай Федэрацыі ў большай ці меншай ступені былі забруджаны радыенуклідамі. Якія б ні былі дакладныя звесткі, можна цвёрда сказаць, што гэта аварыя, бясспрэчна, мела ні з чым не сувымерныя наступствы.



проч непасрэднага ўздзеяння радыеактыўнага апраменьвання на здароўе насельніцтва, існуе верагоднасць доўгатэрміновага ўздзеяння, вывучыць якое больш-менш дастаткова не ўдасца праз многія гады. На нарадзе, што адбылася ў сакавіку 1992 года, спецыялісты, якія вывучаюць гэта пытанне ў Беларусі, паведамілі пра рэзкае павышэнне ўзроўню захворвання ракам шчытападобнай залозы сярод дзяцей у раёнах, што найбольш пацярпелі ад радыеактыўнага забруджвання... Тысячы людзей застаюцца ў цяжкім становішчы, нічога не ведаючы пра сваё здароўе і сваю будучыню, увесь час знаходзяцца ў стрэсавым стане і зведваюць трывогу і неспакой.



то да выяўлення расстройстваў і захворванняў, непасрэднай прычынай якіх магла быць радыяцыя, то нечаканае павышэнне ўзроўню захворвання ракам шчытападобнай залозы сярод дзяцей малодшага ўзросту, асабліва ў Беларусі, выклікае сёння асаблівую заклапочанасць. Вось чаму трэба высветліць, ці не звязана гэта з'ява з атрыманымі дозамі апраменьвання шчытападобнай залозы. І хоць ніякіх іншых патагенных наступстваў такога кшталту пакуль не адзначалася, не варта выключаць таго, што, напрыклад, гематалагічныя і ракавыя захворванні, прыроджаныя цэрэбральныя парушэнні і генетычныя адхіленні могуць праяўляцца на больш позніх этапах ці быць выяўленыя пры больш дасканалым абследаванні.

Калі нумар быў падрыхтаваны да друку, стала вядома, што ў красавіку, згодна з Праграмамі ААН, Беларусь наведае з афіцыйным візітам намеснік Генеральнага Сакратара ААН, каардынатар па міжнародным супрацоўніцтве ў галіне мінімалізацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы. Хто гэта будзе, пакажа блізкае прызначэнне: на час выхаду часопіса ў свет пасада была вакантная. Таму хацелася б спадзявацца, што кадравая калейдаскапічнасць вакол яе нарэшце саступіць месца стабільнасці і з асобай новага каардынатара — чацвёртага па ліку — прыйдзе і ўпэўненасць у перспектыве найважных праектаў, якія датычаць лёсу Беларусі.

Ці варта казаць, што прыезд прадстаўніка ААН — гэта не візіт ветлівасці, а дэталёвае вызначэнне і ўдакладненне шматлікіх пазіцый на месцы, правядзенне кансультацый і сустрэч, узгадненне асобных пунктаў Сумеснага плана ААН з нацыянальнымі органамі. Якой канкрэтна будзе дапамога Беларусі ў бліжэйшы час па лініі міжнароднай супольнасці, шмат у чым залежыць ад знаёмства шаноўнага каардынатара з нашай Рэспублікай. Не па даведках, а ў непасрэднай блізкасці.

Няхай будзе благаславёны візіт высокага прадстаўніка ў Рэспубліку Беларусь.

Валерый ДРАНЧУК,
вядучы рубрыкі «Цэнтр Еўропы».

## З РЭЗАЛЮЦЫІ, ЯКАЯ БЫЛА ПРЫНЯТА Ў ХОДЗЕ АБМЕРКАВАННЯ ПУНКТА 90 ПАРАДКУ ДНЯ 47-й СЕСІІ ГЕНЕРАЛЬНАЙ АСАМБЛЕІ ААН:

«Генеральная Асамблея,

...**выказваючы** глыбокую занепакоенасць у сувязі з маючым працяг уздзеяннем на жыццё і здароўе людзей, асабліва дзяцей, у пацярпелых раёнах Беларусі, Расійскай Федэрацыі і Украіны, а таксама ў іншых краінах, што пацярпелі ў выніку чарнобыльскай катастрофы,

**з заклапочанасцю прымаючы да ведама** апошнія аўтарытэтныя высновы Сусветнай арганізацыі аховы здароўя...

**усведамляючы** неабходнасць далейшага ўмацавання каардынацыі актыўных намаганняў на міжнародным і, у прыватнасці, нацыянальным узроўнях па змякчэнні і мінімізацыі радыяцыйных, медыцынскіх, сацыяльна-эканамічных, псіхалагічных і экалагічных наступстваў гэтай катастрофы, а таксама яе магчымае доўгатэрміновае ўздзеянне, у тым ліку ў выніку трансгранічнага забруджвання,

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

2. **просіць** Генеральнага сакратара працягваць ажыццяўленне мерапрыемстваў, звязаных з далейшай дзейнасцю па рэалізацыі палажэнняў рэзалюцый 45/190 і 46/150 Генеральнай Асамблеі, прымаючы да ўвагі наступныя сацыяльныя, эканамічныя і іншыя змены, якія адбыліся ў краінах, найбольш пацярпелых у выніку чарнобыльскай катастрофы;

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

4. **просіць далей** Генеральнага сакратара прадставіць Генеральнай Асамблеі на яе сорак восьмай сесіі (бліжэйшай.— **Рэд.**) даклад аб ажыццяўленні дадзенай рэзалюцыі... і зрабіць вусны даклад Эканамічнаму і Сацыяльнаму Савету на яго асноўнай сесіі 1993 года...»

## КАМЕНТАРЫЙ

### 2-га сакратара аддзела міжнароднага супрацоўніцтва па праблемах чарнобыльскай катастрофы МЗС Беларусі кандыдата медыцынскіх навук Алега ІВАНОВА:

— Прынятая рэзалюцыя абнадзейвае. Перш-наперш, прадугледжана выдаткаванне сродкаў ААН для рэалізацыі рада яе палажэнняў. Ужо сёлета 360 тыс. долараў пойдуць на фінансаванне дзейнасці спецыяльнага каардынуючага органа — Сакратарыята ААН па Чарнобылю. Намаганнямі беларускіх дыпламатаў у рэзалюцыю ўнесены пункт аб разглядзе ходу выканання чарнобыльскіх праектаў на 48-й (бліжэйшай) сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Якім будзе гэтае абмеркаванне? Пытанне далёка не рытарычнае. Мяркуецца, што будзе падрыхтаваны ўсеахопны даклад аб захадах, зробленых на нацыянальным і міжнародным узроўнях, і праведзена рэвізія вядомага Зводнага плана ААН па Чарнобылю, які ўмяшчае 131 праект. Калі абмеркаванне пойдзе ў такім кірунку, з'явіцца магчымасць, напрыклад, падкрэсліць надзвычай актуальны тэзіс аб несупастаўнасці эканамічнага, навуковага і людскога патэнцыялу Беларусі — у параўнанні з іншымі пацярпелымі рэспублікамі (Расія, Украіна) — для пераадолення агульнай бяды.

Вельмі важным падаецца яшчэ адзін пункт рэзалюцыі. На падставе высноў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя нарэшце прызнана як негатыўная тэндэнцыя захворвання, абумоўленая радыяцыйным уздзеяннем. Палажэнне, здавалася б, відавочнае для нас. Аднак да апошняга часу яно знаходзілася пад абстрэлам аўтарытэтных дзеячаў, у тым ліку і «блізкага» замежжа, якімі згаданая абумоўленасць рашуча аспрэчвалася. Прызнанне ж такой тэндэнцыі сусветным супольніцтвам, хочацца верыць, спыніць паток спекуляцыйных і правакацыйных выступленняў, яшчэ больш актывізуе міжнародныя сілы і дзеянні.







**Здымкі на прэс-канферэнцыі зрабіў Віктар ЖЫЛІН.**

***«Я вырашыў правесці гэтую прэс-канферэнцыю, каб адзначыць першую гадавіну амерыканскай дыпламатычнай прысутнасці ў Рэспубліцы Беларусь»,—***

так пачаў сустрэчу з журналістамі напрыканцы студзеня 1993 года пасол ЗША ў Беларусі **спадар Дэвід СУАРЦ.** Інтэрв'ю з ім чытайце ў наступным нумары часопіса.





# СТАРАЖЫТНАЯ ВІЛЬНЯ, БЕЛАРУСКАЯ ВІЛЬНЯ

Заканчэнне.
Пачатак
на 10-й стар.

ка выкарыстоўваецца віленчукамі для заняткаў лыжным спортам.

Здалёк відаць у Вільні Замкавая гара, якая ўзвышаецца над усім старым горадам. Як сімвал старажытнасці сталіцы на ёй віднеецца адзіная вежа Верхняга абарончага замка Вільні, якая захавалася да сённяшняга дня.

Віленскі замак, які пазнаецца толькі на асобных фрагментах, размясціўся некалі сярод лясістых пагоркаў, там, дзе рэчка Вялейка ўліваецца ў раку Вілію. Гэта быў цэлы вялікі абарончы комплекс — адзін з самых старажытных і ўражваючых помнікаў архітэктуры ў Літве. Так ацэньваюць яго сучасныя даследчыкі. Для народаў жа Літвы і Беларусі гэты помнік мае асаблівае значэнне. З гэтага замка — сядзібы валадароў некалі вялікай і магутнай дзяржавы — ажыццяўлялася палітычнае кіраўніцтва ўсёй краінай, якую засялялі літоўскі і беларускі народы.

Замкавая гара носіць яшчэ назву «гара Гедыміна», паколькі гэты князь, паводле слыннай легенды аб жалезным воўку, заснаваў тут горад, збудаваў абарончы замак і перанёс сюды сталіцу ўсёй Літвы. Існуе погляд, пацверджаны археалагічнымі раскопкамі, што на гары былі абарончыя ўмацаванні яшчэ ў першым тысячагоддзі, а ўжо з XIII стагоддзя знаходзяць рэшткі буйной драўлянай забудовы ля падножжа гары. І ўсё ж Гедыміну належыць права лічыцца заснавальнікам Вільні, бо месцам збудаванага ім абарончага замчышча была гара, якая і сёння ўзвышаецца над горадам і захавала ягонае імя. А вось муры, якія захаваліся да нашых дзён, мабыць, адносяцца ўжо да пачатку XV стагоддзя, бо завяршыў будову мураванага абарончага комплексу ўнук Гедыміна, вялікі князь Вітаўт.

Гэты абарончы комплекс Вільні складаўся з Верхняга і Ніжняга замкаў з сістэмай абарончых муроў, бастыёнаў і цэлага шэрагу будынкаў рознага прызначэння. На вялікі жаль, да нашых часоў большасць гэтых будынкаў і ўмацаванняў не захавалася. На гары засталася вежа і частка закансерваваных сцен Верхняга замка, а ад Ніжняга, які знаходзіўся між гарой і Катэдрай, не засталося нічога. Ды і тое, што можам аглядаць сёння, гэта плён работы рэстаўратараў. Рэканструкцыя вежы Верхняга замка была праведзена ў трыццатых гадах, але пад час апошняй вайны яна была зноў часткова зруйнавана. Завяршэнне рэстаўрацыі вежы і стварэнне ў ёй музея адбылося ў 1960 годзе, на гары быў тады ўстаноўлены памятны камень да 550-годдзя Грунвальдскай бітвы. У 1987 годзе закончылі адбудову







● Палац Тышкевічаў, у якім была рэдакцыя «Нашай нівы» (Пілімо, 26).
● Дом Льва Сапегі (Майроніса, 9).
● Царква Еўфрасінні Полацкай.




арсенала ля падножжа гары, стварылі музей прыкладнога мастацтва, распачалі археалагічныя раскопкі на месцы Ніжняга замка. Можна спадзявацца, што руплівасцю літоўскіх рэстаўратараў будзе ўзноўлены яшчэ не адзін аб'ект комплексу Віленскага замка.

Але сёння цэнтрам увагі турыстаў з'яўляецца вежа Верхняга замка на гары Гедыміна з яе музеем. З пляцоўкі, абсталяванай на даху вежы, адкрываецца цудоўная панарама ўсяго горада. Адсюль відаць вузкія вулачкі старога горада і навейшыя праспекты, дахі старажытных будынкаў з чырвонай дахоўкі, сярод іх раскіданы віленскія палацы і святыні з іх купаламі і накіраванымі ў неба шпілямі і званіцамі. Гэты позірк на Вільню з Замкавай гары некалі яскрава адлюстраваў Якуб Колас у паэме «Новая зямля» ў раздзеле «Дзядзька ў Вільні». Толькі розніца ў тым, што дзядзька Антось бачыў на ўскраі горада «нівы, лясы і гаёчкі», а цяпер на тых абшарах выраслі магутныя масівы новых мікраранаў з сучаснымі высокімі жылымі дамамі, што ўзвышаюцца вакол над горадам.

Музей у вежы сваёй багатай экспазіцыяй у выглядзе малюнкаў і макетаў горада з розных часоў, карт гістарычных падзей і старажытнай зброі апавядае наведвальнікам усю гісторыю некалі магутнай Літоўскай дзяржавы і яе сталіцы Вільні. Па экспанатах музея мы можам прасачыць усю гісторыю развіцця горада, пабачыць выявы тых аб'ектаў, тых помнікаў архітэктуры, якіх сёння ўжо няма.

І гэтая экспазіцыя яшчэ раз вымоўна сведчыць, што ўся Беларусь на працягу многіх вякоў уваходзіла ў склад дзяржавы, якой Вільня была сталіцай, здабыўшы ў ёй дамінуючае значэнне, развіваючы там сваю культуру, сваю пісьменнасць, сваю родную мову.

**Лявон ЛУЦКЕВІЧ.**
г. Вільня.

**Фота В. ХАРЧАНКІ
і з архіва аўтара.**

**● На будынку па вуліцы Вялікай, 19, устаноўлена мемарыяльная дошка Францішку Скарыне.**



**● Будынак беларускага выдавецкага таварыства на вуліцы Каштанавай, 5.**

**● Тут, у друкарні Марціна Кухты, друкаваўся зборнік паэзіі Максіма Багдановіча «Вянок» (вуліца Татарская, 2).**





**● Праваслаўны храм на вуліцы Майроніса. Справа — будынак, дзе жыў і працаваў Рыгор Шырма.**

# МОЙ І ТВОЙ РАДАВОД

*Маладое пакаленне,*
*Прачынайся, час прыйшоў.*
*Залатое адраджэнне*
*Кліча ўсіх пад родны схоў.*

Уладзімір ДУБОЎКА.

У старых кнігах пісалася: «Мелі тыя крывічы звычай: калі дасягаў у іх юнак паўналецця, мусіў ён, каб назвацца мужчынам, пераплысці хуткую ды глыбокую раку, упаляваць тура або мядзведзя, раскласці ў залеву вогнішча, а таксама распавесці суродзічам аб продках сваіх да пятага калена... Калі ж не ведаў ён роду свайго, дык падлягаў выгнанню, бо ўважалася, што род ягоны, а значыцца, і зямля бацькоўская яму не дарагія і можа ступіць ён на шлях здрады».

Побач, на палях, нехта паспрабаваў накідаць алоўкам дрэва свайго радаводу. Падобную спробу зрабіў і аўтар кніг «Еўфрасіння Полацкая» і «Рандэву на манеўрах» Уладзімір Арлоў[1]. Не пагроза выгнання ці пакарання хвалявала яго: у краіне, дзе, як у старажытным Вавілоне, адбылося неверагоднае змяшэнне «языков», народаў, культур і цэлых эпох, дзе слова «генеалогія» выклікае ўсмешку, бо яго блытаюць з «гінекалогіяй», можна пражыць век, не наведваючы не тое што родных магіл (што з імі і дзе яны наогул?), але і старэнькіх бацькоў, якія дагараюць у адзіноце дзе-небудзь у апусцелай вёсачцы. Чалавек, які хоць крыху дбае пра сваю душу, так жыць не можа. Ён абавязкова паставіць перад сабою пытанне: хто я і адкуль? Хто мае бацькі, бацькі маіх бацькоў, дзяды-прадзеды? Ці глыбока караніцца мой род у беларускай глебе? Мабыць жа, ёсць нейкі патаемны сэнс у бясконцых пералічэннях, хто ад каго пайшоў і да чыйго роду-народу належыць, якія прыцягваюць увагу чытача Біблії: Аўраам спарадзіў Ісаака, Ісаак спарадзіў Якава, Якаў...

Кожны, хто паставіць перад сабою падобную задачу, сутыкнецца з вялікімі цяжкасцямі. Як сутыкнуўся з імі і аўтар названых кніг Уладзімір Арлоў, чалавек дапытлівы, уражлівы, навучаны самім жыццём, што няма нічога больш складанага, чым адказы на простыя пытанні, абцяжараны ведамі ў галіне нацыянальнай гісторыі і тым не менш паслядоўны і ўпарты ў сваім пошуку першавытокаў сучасных падзей. Здаецца, куды прасцей: пачынай ад летапісцa «Откуда есть пошла Руская земля...» Але ў большасці беларуска-літоўскіх летапісаў пачатку проста няма — у Супрасльскім, Слуцкім, Віленскім, Археалагічнага таварыства, Акадэмічным... Гэта ў пазнейшых, напісаных па «дзяржзаказу» вялікіх князёў, летапісах Рачынскага ды Красінскага з'яўляецца закругленасць фразы і сюжэта: маўляў, рымскі імператар Нерон, вядомы сваёй ці не паталагічнай жорсткасцю, які «ўласную матку сваю сваею рукой забіў» і не раз падпальваў «вечны горад» Рым дзеля пацехі, стварыў такія ўмовы, што нейкі рымскі князь па імені Палемон, не будучы пэўны ў сваёй бяспецы, сабраў жонку, дзяцей, пяцьсот чалавек шляхты з роднымі і падданымі і паплыў морам шукаць «месца слушнае», урэшце ўпадабаўшы «усце, ідзе рака Неман упадывае ў мора-акіян». Але варта пачаць з легенды, няхай сабе наіўнай і складнай, як ужо міжволі давядзецца выдумляць і хлусіць да апошняй старонкі, мяшаючы праўду з маною, а прозу з паэзіяй.

Ёсць і іншы, куды больш натуральны, шлях узыходжання да вусця ракі нацыянальнай гісторыі — пачынаць з уласных успамінаў, з сямейнай легенды. Як гэта робіць У. Арлоў у эсэ «Мой радавод да пятага калена, або Спроба пазбегнуць выгнання». Пачаўшы досыць бадзёра з успамінаў пра бацькоў, усё цяжкае жыццё якіх у аўтара як на далоні, перабраўшы усё вядомае з жыццяпісу дзядоў і бабак, думка празаіка пачынае натыкацца на неадольныя перашкоды. Выяўляецца, што спроба ўзнавіць генеалагічнае дрэва роду Арловых выклікае насцярогу сваякоў па іншых лініях і нават неўсвядомленае супраціўленне: кожны бачыць падзеі мінулага па-свойму або нават проста не жадае варушыць успаміны, бо не так лёгка сказаць самому сабе, што перайшоў поле жыцця, не азіраючыся назад, па баках, не звяраючы свой шлях з запаветамі продкаў, не бачачы нічога далей двух-трох крокаў. «А суд гісторыі цяжкі»,— папярэджваў нас некалі Янка Купала. «Я наблізіўся да пачатку мінулага стагоддзя,— адзначае з горыччу аўтар эсэ,— і свечка сямейнага падання, што асвятляе мне шлях, пакрысе ператвараецца ў маленькі агарак».

На дапамогу ўласным успамінам і ўспамінам блізкіх прыходзіць эрудыцыя сучаснага адукаванага чалавека, які нездарма абраў гістарычны факультэт Беларускага (на жаль, адно толькі назваю) універсітэта. Тут ужо ўстаюць перашкоды іншага роду, якія нагадваюць арганізаваную ў некалькі эшалонаў з мноствам дотаў, мінных палёў і ўсялякіх воўчых пастак лінію фронту. Усё толькі дзеля таго, каб утаіць ад сучаснікаў і асабліва ад дапытлівай моладзі праўду пра тое, як жылі і як жывуць нармальныя людзі ў цывілізаваным свеце. Той, хто адважваецца выйсці ў паход па ісціну, нагадвае хутчэй за ўсё не Дон Кіхота, рыцара самотнага вобраза, а смяротніка-камікадзе. Спачатку на шляху ўзнікаюць свядомыя выканаўцы чужой д'ябальскай волі, фальсіфікатары беларускай гісторыі, накшталт дыпламаванага абскуранта Л. Абэцэдарскага, які нястомна выкарчоўваў карані радаводнага дрэва, заганяючы мінулае ў каментарыі да цытат з класікаў «передавого вучэння» і апошніх «гістарычных» пастаноў яшчэ аднаго з'езда «нашай роднай» партыі. А неўзабаве, калі цікаўнасць юнака спрабуе зазірнуць за межы забароненага, аднекуль заяўляецца чалавек з невыразным абліччам, які звоздаль дэманструе чырвоную «корачку» маёра КДБ: «Адзінай адметнасцю ягонага твару былі маленькія бясколерныя вочкі-свярдзёлкі (ці, можа, дакладней, іголкі ад шпрыцоў), чые дотыкі-ўколы я адчуваў амаль фізічна».

Але вось надышоў новы гістарычны дзень, у святле якога дрэнна сябе адчуваюць начныя птахі і аматары «прамываць мазгі», і пісьменнікі маюць магчымасць адкрыта гаварыць пра ўсё, што так ці інакш мае дачыненне да чалавечае душы. У. Арлоў не замарудзіў выкарыстаць гэтую магчымасць: і яго ўлёткі, яго народафронтаўскія агіткі блукаюць з афіцыйных выданняў у неафіцыйныя пад яго ўласным прозвішчам і ананімна. Простая мова спатрэбілася яму і тады, калі ён уступаў у адкрытую палеміку з ідэалагічнымі супраціўнікамі, «ворагамі беларушчыны», і тады, калі пісаў папулярны нарыс жыцця і духоўных пошукаў св. Еўфрасінні Полацкай, прызнанай патранесы і заступніцы Беларусі, разлічаны не толькі на беларускага, але і рускага чытача (нарыс падаецца як у арыгінале, так і ў аўтарскім перакладзе на рускую мову). Якія могуць быць эўфемізмы і ўскладнёныя метафары, калі размова заходзіць аб загадкавым знікненні ўжо ў наш час такіх нацыянальных святынь, як напрастольны крыж, зроблены па заказу святой падзвіжніцы ў 1161 годзе, ці перапісанае ў 1582 годзе слуцкім князем Юрыем Алелькавічам Евангелле. Што гэта, як не крымінальнае злачынства, учыненае службістамі НКВД-КДБ!

Тым не менш спецыфічныя акалічнасці часу, калі У. Арлоў уваходзіў у літаратуру, уплывалі на яго творчую манеру. Магчыма, не толькі індывідуальнымі асаблівасцямі яго таленту, але і самой эпохай тлумачыцца яго прыкметная схільнасць да «остранения» (калі выкарыстоўваць тут паняцце, уведзенае ва ўжытак крытыкам В. Шклоўскім), г. зн. свядомага разглядвання прадмета з іранічнай адлегласці. Гэта дазваляе празаіку не толькі апісаць вонкавае ўражанне, але і спасцігнуць дух з'явы, які не паддаецца простаму пералічэнню фізічна бачных і адчувальных прыкмет і падрабязнасцей. Чытач кнігі «Рандэву на манеўрах», несумненна, адзначыць, што аўтар, пераўвасабляючыся ў вобраз апавядальніка («Міласць князя Гераніма»), або летапісца («Пішу вам у Масковію»), або чалавека, які піша завяшчанне наследнікам («Пакуль не згасла свечка»), або нават у асобу з чужымі поглядамі на свет («Рандэву на манеўрах»), шукае найбольш адэкватны прадмету паказу спосаб, калі сказанае натуральна ўваходзіць у свядомасць чытача і распачынае ў ёй сваю разбуральна-стваральную дзейнасць. Разбураць жа трэба задужа шмат афіцыйных міфаў, сярод якіх асаблівае месца займаюць выдумкі «пра цёмных продкаў і рэлігійную ачмару». Гэта працэс вельмі хваравіты, бо закранае нашы асабістыя амбіцыі: як жа так, мы пражылі век і не заўважылі, што жылі ў хлусні і не па праўдзе?! Аўтар у гэтым сэнсе выступае ў ролі своеасаблівага лекара, які разумее ступень застарэласці агульнай хваробы і падае лекі праўды невялікімі порцыямі, пачынаючы з самых аддаленых часоў, калі толькі-толькі прачыналася нацыянальная самасвядомасць беларусаў.

Кніга «Рандэву на манеўрах», па сутнасці, так і выбудавана, што апавяданне пра мой і твой, пра наш радавод пачынаецца здалёк, калі св. Еўфрасіння стварала вакол Полацка атмасферу духоўнасці і тым самым рыхтавала глебу пад сяўбу агульначалавечых ідэй. Вось і ўзнікае міжволі пытанне, якое, магчыма, шакіруе таго, хто прыняў афіцыйную версію аб аўтарстве «Слова аб палку Ігаравым» за адзіную праўдзівую ісціну: а ці не меў гэты аўтар дачынення да Полацкай Русі, калі так жыва ўспрымаў яе боль і калі так блізка падышоў да ідэі аб яднанні, якую пачала прапаведаваць св. Еўфрасіння? У каго б гэта спытаць пра ісціну? Дакументаў няма, гістарычных сведчанняў самы мінімум, першакрыніцы страчаны або здзіўляюць сваёй беднасцю.

Многае можа быць раскрыта дзякуючы ўяўленню пісьменніка-вучонага. Нават калі такі вопыт узнаўлення не ва ўсім супадае з вядомымі звесткамі, ён мае ўсе правы на іс̆наванне: жыццё, гісторыя, свет куды багацейшыя за тое, што здолелі зафіксаваць пісьмовыя крыніцы. Самая магутная плынь рэчаіснасці імкне на вялікай глыбіні, і для яе ўсё тое, што мы лічым галоўнымі падзеямі гісторыі, усяго толькі вонкавыя праявы глыбінных працэсаў, дзе і разгортваецца велічная містэрыя чалавечае трагікамедыі. Цвяроза ісці за фактамі патрэбна, асабліва, калі фактаў дастаткова, каб што-небудзь адмаўляць або сцвярджаць. Але ўсякае імкненне да ўсярэдненасці вывадаў не на карысць ісціне, калі фактаў мала або яны ахутаны туманам маны. У такім выпадку на першы план выходзяць перавагі мастака перад вучоным, якія заключаюцца ў яго здольнасці ўяўляць цэлую карціну, бачыць сучаснае на велічным фоне вялікай гісторыі. І як тут не пагадзіцца з У. Арловым, што «людзі, якія даўніны свае не ведаюць, усё жыццё дзяцьмі застаюцца, і падмануць іх гэтаксама лёгка, як дзіця неразумнае».

**Міхась ТЫЧЫНА.**

[1] Арлоў Уладзімір. Еўфрасіння Полацкая. Евфросиния Полоцкая. Мінск, «Мастацкая літаратура». МП «Славяне». 1992.
Арлоў Уладзімір. Рандэву на манеўрах. Аповесць, апавяданні. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1992.

# НАВАКОЛЛЕ



Экалагічны выпуск часопіса «Беларусь». Красавік, 1993.

Фота Ігара БЫШНЕВА.

*Усё можна перажыць,*
*мы, дзякуй Богу,*
*прывыклі да цяжкасцей,*
*нават пустымі прылаўкамі нас не здзівіш.*
*Але калі ў прыродзе запануе пустэча,*
*мы не зможам яе запоўніць цаною*
*самых гераічных высілкаў.*

Сяргей ЗАЛЫГІН.

## ЧЫТАЙЦЕ:

**«БУДЗЕМ ЖЫЦЬ, БО ЯНЫ ЖЫВУЦЬ...»** Каго мела на ўвазе беларуская паэтка? Сакрэту няма. Яна сказала пра белавежскага зубра. Словы тым часам прарочыя: наша будучыня — у захаванні і адраджэнні роднай прыроды.

**АГЛАМЕРАЦЫЯ, АЛАРМІЗМ, АЎТАГЕНЕЗ...** Спадзяёмся, з дапамогай нашага слоўніка вы зможаце не толькі праверыць сваю эрудыцыю ці падмацаваць яе, але і абвастрыць сваю экалагічную свядомасць.

**У НАШАЙ ПАШТОВАЙ СКРЫНЦЫ** з'явілася першая экалагічная пошта. Вельмі рады. Дзякуй, сябры, за лісты.

**Выпуск вядзе**
**Валерый ДРАНЧУК.**

# АНКЕТА

*Зубр застаецца ўлюбёнай выявaю на візітнай картцы нашай Бацькаўшчыны. Публікацыя анкеты, якую мы працягваем, сведчыць не толькі пра навуковую зацікаўленасць аўтараў, але пераконвае ў тым, што зубр — гордасць беларускай фауны — больш, чым проста біялагічны від. А выказванне паэткі (верш «Зубры», 1965) сёння, у постчарнобыльскую эру, падаецца і актуальна-паратункавым, нават прарочым, і шмат да чаго абавязвае ўсіх нас.*

## „Я за поўнае вяртанне зубра ў прыроду"



**1** Якія надзеі звязваеце з «аптымізацыяй» беларускага **з у б р а**?

**2** Можна пачуць процілеглыя думкі пра магчымасць захавання **з у б р а** як віду. Калі здарыцца непапраўнае, Вы расцэніце гэта як...

**3** Уявіце, што Вы — прэзідэнт дзяржавы. Якія захады гатовы зрабіць дзеля аховы і адраджэння **з у б р а**?

**4** Ваш прагноз па **з у б р у** на бліжэйшыя 10 гадоў.

# „Жыць, бо яны жывуць"...

**Ларыса ГЕНІЮШ.**

**1** Сёння зубр лічыцца ўзноўленым відам. Аднак некалькі ізаляваных папуляцый — зусім не мяжа мажлівасцяў, а толькі зрух у вырашэнні праблемы. Трэба дамагацца поўнага вяртання зубра ў прыроду. Я застаюся аптымістам і маю спадзеў, што з часам у шэрагу рэгіёнаў Беларусі зубр стане звычайным, нават паляўнічым відам. Мой аптымізм грунтуецца на даволі-такі паспяховым шасцігадовым вопыце рэакліматызацыі яго ў Прыпяцкім запаведніку, пра што яскрава сведчаць больш высокія паказчыкі размнажэння, чым папуляцыі гэтага віду ў Белавежскай пушчы.

**2-3** Добры агульны стан прыпяцкага зубрынага статка, а таксама здольнасць да выжывання і самаўзнаўленне барысаўскай мікрапапуляцыі даюць падставы меркаваць, што бліжэйшыя перспектывы наўрад ці будуць азмрочаны чымсьці непапраўным.

Дарэчы, у беларусаў, як вядома, асаблівыя адносіны да зубра. Ён стаў аб'ектам нацыянальнай гордасці, нават, калі хочаце, нязменнай выявай нашага этнічнага аблічча. Варта нагадаць, што апошняя натуральная папуляцыя зубра, калісьці шырока распаўсюджанага на еўрапейскім кантыненце, у Беларусі захавалася да пачатку XX стагоддзя (у Белавежскай пушчы). Таму менавіта ў Беларусі яму трэба стварыць усе ўмовы для «аптымізацыі», нават калі на гэта спатрэбяцца немалыя сродкі, навуковыя і арганізацыйныя высілкі. І ў якасці прэзідэнта зрабіў бы ўсё магчымае для рэалізацыі навукова абгрунтаванай праграмы ўзнаўлення зубра ў Беларусі.

**4** Магчымыя канфліктныя сітуацыі «зубр — чалавек» з-за неўрэгуляванасці пытанняў утрымання, рассялення і вывучэння зубра, што патрабуе ўвагі, фінансавых і матэрыяльных выдаткаў. А на гэта разлічваць пакуль што цяжка. І ўсё ж на працягу бліжэйшых дзесяці гадоў, мяркую, будзе распрацавана Нацыянальная праграма па зубру і згодна з ёю будзе створана некалькі адносна вольных зубрыных статкаў. Падзяляю меркаванне, што зубр стане аб'ектам камерцыйнага палявання, спадзяюся, на селекцыйным узроўні.

**Анатоль УГЛЯНЕЦ,**
**намеснік дырэктара па навуковай працы Прыпяцкага ландшафтна-гідралагічнага запаведніка,**
г. п. Тураў

# «Мой прагноз аптымістычны, але...»

**1** Перш-наперш, заўважу, што азначэнне «беларускі зубр» з'яўляецца паняццем не біялагічным, а эканамічным ці нават палітычным. Бо, зрэшты, ёсць адзін зубр — нізінны, жыхар нізінных абшараў, якога трэба агульнымі намаганнямі аберагаць ад рознай навалы, каб не дапусціць яго вымірання.

Па-другое, што значыць «аптымізацыя»? Павелічэнне колькасці асобін, арэала распаўсюджання ці паляпшэнне кандыцыі кожнай асобіны?

Мне здаецца, што справай найпільнай і найкарыснай для зубра было б размнажэнне папуляцыі, што магчыма ў выпадку, калі сённяшні стан здароўя зуброў будзе адпавядаць норме.

**2** Як фізіёлага мяне менш займае тая акалічнасць, мае папуляцыя дамешак генаў каўказскага зубра ці не мае. Хоць не хацеў бы, каб змяшаліся гэтыя дзве моцныя сталыя лініі: белавежская і белавежска-каўказская. Затое надзвычайную важнасць мае фізіялогія пароды, якая ўсталявалася тысячы гадоў таму. Як вынік — зубр не прыстасаваны да сённяшніх жыццёвых варункаў, у роўнай ступені з прычыны хімізацыі прыроднага асяроддзя, а таксама з-за істотнага збяднення паверхні лесу. Таму, каб захаваць зубра як пароду, трэба пасярод лясных абшараў займець адмысловыя паляны для зуброў з натуральнай разнастайнай раслiннасцю, даць жывёлам магчымасць жыць ва ўмовах спакою.

**3** Прыклаў бы намаганні і як мага хутчэй рассяліў вялікія групы жывёл малымі статкамі ў розных мясцінах, з гарантыямі неабходных умоў жыцця. Адначасова паруліўся б ізаляваць хворых зуброў, а таксама з пэўнымі злаякаснымі адхіленнямі ды выразнымі марфалагічнымі зменамі. Наступны крок — арганізацыя скаардынаваных даследаванняў усіх даступных асобін дзеля атрымання важкага рэпрэзентацыйнага матэрыялу, які б прыдаўся для параўнання з вынікамі, атрыманымі іншымі даследчыкамі ў выключна спрыяльных умовах.

**4** Мой прагноз на дзесяць гадоў аптымістычны, але пры ўмове: а) калі ўдасца паменшыць памеры статкаў за кошт рассялення і тым самым аслабіць вельмі моцны наяўны стрэс; б) калі надалей захаваюцца мяккія зімы, у такім разе статкі не будуць павялічвацца і дзякуючы гэтаму захворванняў будзе менш. Каб пазбегнуць такой небяспекі ў выпадку халодных снежных зім, трэба арганізаваць кармленне зуброў у розных лясных мясцінах.

Падставай для аптымізму бачу таксама канкрэтныя агульныя намаганні дзеля захавання зуброў з боку дзвюх нашых дзяржаў.

**Януш ГІЛЬ,**
**прафесар,**
**Варшаўскі універсітэт.**

P. S. **Хочацца спадзявацца, што публікацыя анкеты зацікавіць Камісію па зубру (старшыня В. Алешка), якая згодна з рэкамендацыямі Міжнароднага белавежскага сімпозіума (красавік, 1992) створана пры камітэце па экалогіі. Намеснік старшыні камісіі аўтарытэтны «зубразнавец» П. Козла з трывогай засведчыў сваю вымушаную «бяздзейнасць» пасіўна-маўклівай пазіцыяй Дзяржкамітэта па экалогіі: камісія, з яго слоў, ні разу не збіралася, а пададзеныя ім навуковыя праекты пакладзены пад сукно.**

**Дык якіх зрухаў чакаць!**

**Інфармуючы пра такое становішча спраў, «Наваколле» разам з тым жадае ўсім, ад каго залежыць лёс беларускага зубра, актыўнага дачынення да пастаўленых мэт.**





# СЛОЎНІК
## ПАЗНАВАЛЬНА-АКТУАЛЬНЫХ ТЭРМІНАЎ

**АБАРЫГЕН.** Ад жывога — карэнны насельнік пэўнай мясцовасці, які спакон жыве ў ёй, але не абавязкова тут узнік і першапачаткова развіўся. (Параўнайце: **Аўтахтон** — від або любая іншая катэгорыя, якая ў пэўным месцы і ўзнікла, і першапачаткова эвалюцыяніравала.)

**АБРАЗІЯ.** Разбурэнне берагоў і прыбярэжных частак дна вялікіх вадаёмаў (азёр, вадасховішчаў і інш.) хвалямі і прыбоем, не выключаючы ўздзеяння рухавіковых суднаў.

**АВІФАУНА.** Птушкі пэўнай мясцовасці.

**АГРАЛАНДШАФТ.** 1. Антрапагенны ландшафт, натуральная раслiннасць якога на большай тэрыторыі заменена аграцэнозамі; 2. Пейзаж сельскай мясцовасці.

**АГРАЦЭНОЗ.** Біятычнае супольніцтва, створанае дзеля атрымання сельгаспрадукцыі. Пастаянна падтрымліваецца чалавекам. Валодае малой экалагічнай надзейнасцю, але высокай ураджайнасцю (прадукцыйнасцю) раслін або жывёл.

**АГЛАМЕРАЦЫЯ** (гарадская). Функцыянальна арганізаваная ў прасторы групоўка паселішчаў гарадскога тыпу, якая складае агульную сацыяльна-эканамічную і экалагічную сістэму.

**АДАПТАЦЫЯ.** 1. Прыстасаванасць арганізмаў да ўмоў асяроддзя, што выяўляецца ў змяненнях іх знешніх і ўнутраных асаблівасцей (біял.); 2. Любая прыстасаванасць органа, функцыі або арганізма да змены ўмоў асяроддзя (мед.); 3. Рэакцыі жывой сістэмы, што падтрымліваюць яе функцыянальную ўстойлівасць да змены ўмоў навакольнага асяроддзя.

**АЗОН.** Хімічнае злучэнне. У атмасферы Зямлі мае вельмі важную ролю за кошт здольнасці паглынаць пагібельнае для арганізмаў выпраменьванне ў некаторых участках спектра, асабліва ў ультрафіялетавай і











ультрачырвонай зонах. Гэтая здольнасць і робіць азон ахоўнікам усяго жывога на Зямлі, у тым ліку і чалавека.

**АЗОНАСФЕРА (АЗОНАВЫ ЭКРАН).** Слой атмасферы ў межах стратасферы на вышынях 7—8 км на полюсах, 17—18 км на экватары і да 50 км над паверхняй планеты. Мае павышаную канцэнтрацыю малекул азону (у 10 разоў большую, чым ля паверхні Зямлі). Мяркуецца, што глабальнае забруджанне атмасферы можа парушыць шчыльнасць азонавага экрана.

**АЗОНАВАЯ «ДЗІРКА».** Значная частка прасторы ў азонасферы Зямлі з прыкметна паніжаным (да 50 працэнтаў) утрыманнем азону. Зарэгістраваная над Антарктыкай і ў менш значнай форме — над Арктыкай. Найбольш верагоднае меркаванне, што ўтварэнні ўзнікаюць як вынік выкідаў фрэонаў і звядзення лясоў. Паводле прагнозаў, далейшае забруджванне стратасферы пагражае чалавеку і ўсёй біясферы павелічэннем захворванняў скуры і сятчаткі вачэй, непрадказальнымі генетычнымі зменамі ў біялагічных арганізмах і інш.

**АЙКУМЕНА (ЭЙКУМЕНА).** Частка зямной паверхні, якая заселена людзьмі і скарыстоўваецца імі. Апошнім часам плошча айкумены ацэньваецца ў 135,8 мільёнаў кв. кіламетраў, ёмістасць — у сярэднім (і большасцю спецыялістаў) у 5—7 мільярдаў чалавек.

**АКВАКУЛЬТУРА.** Развядзенне карысных арганізмаў у водным асяроддзі.

**АКВАТОРЫЯ.** Водная разлегласць, абмежаваная прыроднымі, штучнымі або ўяўнымі (умоўнымі) межамі.

**АКТ ПРАВАВЫ (ЗАКАНАДАЎЧЫ) ПА АХОВЕ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ.** Міжнароднае або ўрадавае рашэнне (канвенцыя, пагадненне, пакт, закон, пастанова), рашэнне мясцовых органаў дзяржаўнай улады, ведамасная інструкцыя і г. д., якія рэгулююць прававыя ўзаемаадносіны або ўсталёўваюць абмежаванні ў галіне аховы прыроднага асяроддзя.



**АЛАРМІЗМ** (ад англ. alarm — трывога, страх). Плынь у навуцы, прадстаўнікі якой акцэнтуюць увагу на катастрафічных наступствах уздзеяння чалавека на прыроду, няхватку прыродных рэсурсаў для далейшага развіцця чалавецтва, неабходнасці прыняцця неадкладных рашучых захадаў для аптымізацыі сістэмы «прырода — грамадства».

**АМПЛІТУДА ЭКАЛАГІЧНАЯ.** Граніцы прыстасавальнасці віду або супольнасці да зменлівых умоў асяроддзя.

**АНАМАЛІЯ.** Усякае адхіленне ад нормы або агульнай заканамернасці.

**АНТРАПАГЕН.** Апошні з геалагічных перыядаў ад узнікнення роду чалавечага да сучаснасці. Доўжыцца, паводле розных меркаванняў, ад 1,8 да 5,5 мільёнаў гадоў.

**АНТРАПАСІСТЭМА.** Чалавецтва як адно цэлае, што развіваецца, уключае чалавека як біялагічны від, яго матэрыяльную і духоўную культуру, прадукцыйныя сілы і вытворчыя адносіны.

**АПАДКІ КІСЛОТНЫЯ, КІСЛЫЯ (ДОЖДЖ КІСЛОТНЫ, КІСЛЫ).** Дождж (і снег), падкіслены з-за растварэння ў атмасфернай вільгаці прамысловых выкідаў. А. К. падкісляюць вадаёмы і глебу, што вядзе да пагібелі рыбы, іншых водных арганізмаў, да зніжэння прыросту лясоў і да іх засыхання.

**АПТЫМІЗМ ЭКАЛАГІЧНЫ.** Аптымізм у значэнні шапказакідальніцтва — беспадстаўна-легкадумнай упэўненасці.

**АРКАЛОГІЯ** (архітэктура і экалогія). Раздзел архітэктуры, які распрацоўвае метады стварэння гмахаў, якія ўмяшчалі б, напрыклад, цэлыя паселішчы і такім чынам давалі магчымасць захоўваць дзікую прыроду.

**АЎТАГЕНЕЗ.** Самаўзнікненне, эвалюцыя ў выніку дзеяння ўнутраных фактараў.

**АЦЭНКА ЛАНДШАФТУ ЭСТЭТЫЧНАЯ.** Вызначэнне інтэнсіўнасці станоўчых эмоцый, якія спрыяюць добраму самапачуванню чалавека.

● **АБАРЫГЕН. Танец з веерам, Гана.**

● **АБРАЗІЯ. Возера Нарач. Разбурэнне берагоў астраўных экасістэм.**

● **АГРАЛАНДШАФТ. АЦЭНКА ЛАНДШАФТУ ЭСТЭТЫЧНАЯ. Такія краявіды можна ўбачыць у любым кутку Беларусі.**

● **АВІФАУНА. 1. Самая буйная драпежная птушка Беларусі арлан-белахвост (вага — да 5 кг, размах крылаў — 2,5 м). 2. Самая маленькая птушка Еўропы — жаўтаробы каралёк. 3. Самы шматлікі від авіфауны Беларусі — зяблік (берасцянка).**

● **АДАПТАЦЫЯ. 1. Будова рагоў высакароднага алення зводзіць да мінімуму яго небяспеку для іншых самцоў гэтага ж віду ў шлюбны перыяд. 2. Тонкая выгнутая дзюба пішчухі — прыклад марфалагічнай адаптацыі да здабывання кузурак з-пад кары дрэва.**









**Фота Ігара БЫШНЁВА.**

# Пошта



## ЗЛІТУЙЦЕСЯ НАД КРАСОЙ, НЕ ВЫНІШЧАЙЦЕ АПОШНЯЕ!

**Відаць, не ўсе ведаюць, што сярод нашай беларускай флоры ёсць расліна, якая ўпершыню ад з'яўлення на свет божы зацвітае толькі праз 15—17 гадоў. Затое калі ў гэты час патрапіць на кветку, яна здзівіць і збянтэжыць адначасова. «Як такое дзіва захавалася»,— міжволі страпянецца ўзрушаная душа. Завецца гэтая расліна венерын чаравічак сапраўдны альбо жоўты. І водар яго незвычайны, ванільны.**

**Расце чаравічак асобнымі групамі на лясных палянах. Як ні сумна, мясцін, дзе ён зацвітае, з кожным годам усё менш і менш — дзве ці тры засталося. Від знікае, таму, натуральна, кветка ўзята пад ахову і занесена ва ўсе Чырвоныя кнігі.**

**Венерын чаравічак, як вядома, належыць да групы архідэй. На тэрыторыі Беларусі расце 12 іх відаў. І ўсе яны занесены ў Чырвоную кнігу. Чаму так здарылася! Мабыць, таму, што архідэі — прыгожыя дэкаратыўныя расліны, маюць выразны прыемны пах, валодаюць шмат якімі лекавымі ўласцівасцямі. У гэтым і бяда іх: людзі, не ведаючы сапраўднай цаны кветак, зрываюць іх на букеты, вынішчаюць апошняе. Да таго ж, лясныя прыгажуні не пераносяць бруду, чуйна рэагуюць на экалагічныя парушэнні.**

**Словам, архідэі не павінны знікнуць. Усе мы нясём адказнасць за іх лёс, за іх зберажэнне.**

**Валянцін і Вера МАЦВЕЙЧЫКІ,**
**сябры Беларускага**
**батанічнага таварыства.**
г. Ваўкавыск.

## МЮЗЛІ — СТРАВА ЭКАЛАГІЧНАЯ. І ВЕЛЬМІ СМАЧНАЯ.

**Летась мне пашчасціла браць удзел у еўрапейскім экалагічным фестывалі ў горадзе Фрайбургу (Германія), які сабраў прадстаўнікоў нярадавых незалежных арганізацый. Уражанняў безліч, але ў гэтай кароткай нататцы хачу адзначыць толькі адно: адметны падыход гаспадароў да арганізацыі форуму, перш-наперш з пункту гледжання экалагічнай культуры, вопыту правядзення падобных сустрэч.**

**Праходзіў фестываль на тэрыторыі парку, які, дарэчы, размешчаны ў маляўнічых перадгор'ях Альпаў. Па-першае, парк — сапраўдны рай для адпачынку людзей. Дагледжаныя дрэвы, акуратныя зялёныя лугавінкі, цудоўныя спартыўныя і дзіцячыя пляцоўкі, пантонны мост цераз возера, амаль ручныя вадаплаўныя птушкі, дзівосная архітэктура экалагічнага цэнтра — усё максімальна гарманізавана. Па-другое, у палатачным гарадку, дзе размясціліся ўдзельнікі фестывалю, прадугледжана ўсё неабходнае, хай сабе звыклае ў побыце немцаў, затое для нас, напрыклад, узорна-павучальнае. Скажам, смеццевыя бачкі. Іх абавязкова тры: для поліэтыленавых і пластыкавых вырабаў, для шкла, для паперы. Усе адходы ідуць на перапрацоўку, а не так, як робіцца ў нас,— усё на звалку, у адну кучу. Або і ўвогуле ў бліжэйшы лес.**

**Мяне парадаваў і незвычайны стол для ўдзельнікаў фестывалю. У меню — пра яго варта сказаць больш падрабязна — толькі вегетарыянская ежа: мюзлі (аўсяныя шматкі з клубніцамі, чарнаслівам, курагой, арэхамі, разынкамі — усё заліваецца малаком, немцы ўжываюць гэтую страву пераважна на снеданне), а таксама салата, рэвень, шпінат, каляровая капуста, брусельская капуста, чай двух відаў (цёмны і светлы), кава, джэмы, мёд, хлеб, вотруб'евы і ячны. З лісця шпінату і салаты рабілі галубцы, злёгку напханыя варанымі крупамі з таматнай падліўкай. І ўсё гэта, натуральна, амаль сырое, каб вітаміны захаваліся, а не змарнаваліся ў працэсе прыгатавання. Словам, добры ўзор сапраўды экалагічнай, карыснай і, пасведчу, вельмі смачнай ежы, якая, дарэчы, цяпер надзвычай папулярная на Захадзе. Варта сказаць, што папулярнасць яе звязана з тэндэнцыяй да памяншэння спажывання ва ўсім, асабліва ў прадуктах харчавання і скарыстанні сыравінных крыніц. Такі вопыт, на мой погляд, неабходны і нам.**

**Таццяна ЛІЗНЯНКОВА.**
Мінск.

# ХТО СМЯЕЦЦА АПОШНІМ?




## САМАВУЧЫЦЕЛЬ БЮРАКРАТЫЧНАЙ ГУЛЬНІ

Бюракрат — гэта не захапленне. Бюракрат — гэта не лад жыцця.

Бюракрат — гэта прафесія.

А прафесіянал заўсёды павінен быць у добрай «спартыўнай форме». І дамагчыся гэтага дапаможа «самавучыцель бюракратычнай гульні», які мы сёння і прапануем.

Такім чынам, за справу...

## ПОСТКРАСАВІЦКІЯ ЗАКЛІКІ ПАСЛЯ ДНЯ СМЕХУ

***Свята заўсёды свята. Пры розных рэжымах. Дзень смеху таксама. І па завядзёнцы мы прапануем чытачам посткрасавіцкія заклікі. Пасля Дня смеху.***

- Народныя дэпутаты і прадстаўнікі апазіцыі! Пакіньце сілавыя прыёмы для хакея. З шайбай.
- Аматары плюралізму! Памятайце, што плюралізм у адной асобна ўзятай галаве — гэта першая фаза шызафрэніі.
- Работнікі нацыянальнага банка і міністэрства фінансаў! Выключце друкарскі станок па выпуску «зайчыкаў» і іншых нацзвяркоў, інакш у РБ не стане паперы, нават для выдання «Чырвонай кнігі».
- Студэнты, пенсіянеры і хатнія гаспадыні! Тужэй зацягвайце паясы!
- Настаўнікі і педагогі! Сейце вясной-93 «разумнае, добрае, вечнае»! Не пасееце — увосень мы застанёмся і без розуму, і без дабрыні, і без вечнасці.
- Бізнесмены і брокеры! Інвесціруйце авуары і ваўчэры праз маркетынг, бартэр і трансферт!
- Прафесіяналы пяра і аматары паэзіі! Актыўней распачынайце распрацоўку радовішчаў і здабычу каштоўных выкапняў! Узбройвайцеся запаветам пралетарскага песняра — «Паэзія — тая ж здабыча радыю».
- Навасёлы! Дамагайцеся, каб разам з ордэрам на кватэру вам выдавалі ключы ад сейфа, дзе грошы ляжаць.
- Інтэрдзяўчаты! Грудзьмі пракладвайце дарогу ў царства свабоды!

## «ТЫ — МНЕ, Я — ТАБЕ...»

**НЕ МАГУ ЗАСНУЦЬ**

Студэнт пытае ў сябра:

— Табе што, лектар не падабаецца?

— Не, лектар нічога сабе, а вось крэслы мулкія, ніяк не магу заснуць.

**НЕ ХВАЛЮЙЦЕСЯ**

— Павінен вам сказаць, што ваш сабака зноў усю ноч выў пад маім акном,— кажа сусед суседу.

— Не хвалюйцеся. З ім нічога не здарылася, проста ён днём выспаўся.

**АДДЗЯЧЫЦЬ**

Мужчына выцягнуў з рэчкі зубнога ўрача, які тануў.

— Дарагі чалавеча,— гаворыць урач,— як жа цябе аддзячыць? Прыходзь да мяне на прыём, я табе ўсе зубы павыдзіраю...

Падрыхтаваў А. БАБРОЎ.

## СУПЕРПРАГНОЗ-93

**Увага! Усіх, хто любіць доўга паспаць, чакаюць «цяжкія дні», а іменна: з моманту выхаду ў свет часопіса «Беларусь» № 4 па 31 снежня 1993 года. Ку-ка-рэ-ку!!!**

**ПЕВЕНЬ.**

## ВЯСЁЛЫ ФЛАМАСТЭР МІКОЛЫ СЕЎЛЮКА



Дзверы рэдакцыйнага пакоя ён адчыніў асцярожна, але загаварыў рашуча: «Дзень добры! Гэта — я...»

На пытанне рэдактара «Кім працуеш і дзе?» госць бадзёра адказаў: «Беспрацоўны я...»

Сказаў так, і стала ясна, што ў нашага госця з гумарам усё ў парадку.

«Цікаваць за жыццём і маляваць карыкатуры гэта што — не работа? Як вы думаеце?» — спытаў у сваю чаргу госць рэдакцыі.

Мы падумалі і — пагадзіліся з суразмоўнікам: «Маляваць фламастэрам карыкатуры, канешне ж, работа».

P. S. **Мікола Сяўлюк па-ранейшаму працуе беспрацоўным у вёсцы Руднікі Карэліцкага раёна. Яго працоўная справаздача за першы квартал 1993 года — перад вамі.**



Малюнак Канстанціна **КУКСО**, г. Мінск.

# ЧАРГА КАЛЯ «MAGAZINE», ДЗЕ ПЛАЧУЦЬ БАГАТЫЯ І БЕДНЫЯ. АД СМЕХУ.

*Вось вам і сапраўдны рынак: М. М. Жванецкі займеў свой прыватны магазін («Magazine»).*

*Дзівацтвы прыватызацыі? Не скажыце!*

*Тады можа — прыхватызацыя? Пардон!*

*Пардон таму, што «Магазін» гэты — увогуле не «гандлёвая кропка», а часопіс, дакладней — іранічны альманах, каб смяяцца з сябе самога.*

*«Магазін» толькі адчыніў дзверы і адразу — дзве сенсацыйныя «пакупкі»: альманах заваяваў прыз «Залаты Астап» і атрымаў статус міжнароднага гумарыстычнага выдання — «INTER-MAGAZINE».*

*«Magazine» адчынены.*

*Ля «Magazine» чарга, у якой усе згодны стаяць і плакаць. Ад смеху.*

„Камандаваць гумарыстычна-іранічным парадам буду я!"

## «Я НЕ ЖАРТУЮ...»

*З дыялогаў з сатырыкам, аўтарам папулярных эстрадных мініяцюр і монаспектакляў, а цяпер і камерцыйным дырэктарам «Magazine» сп. М. М. Жванецкім.*

**— Міхаіл Міхайлавіч, можа прыгадаеце найбольш яркую падзею апошняга часу?**

— Прыгадаю. Мой дзень нараджэння...

**— Займаючыся сатырай, вы...**

— Пардон, я займаюся не сатырай, а цвярозым роздумам...

**— Што прывяло вас на эстраду?**

— Адэскі інстытут інжынераў марскога флоту я заканчваў якраз у той час, які можна назваць часам усеагульных спаборніцтваў гумарыстаў, вастрасловаў, жартаўнікоў, час, калі з хуткасцю грыбоў раслі клубы «Вясёлых і знаходлівых» і гэтак далей. У 1959 годзе са студыяй «Парнас-2» мы прыехалі ў Ленінград на конкурс студэнцкіх тэатраў. Разам з Ромам Карцавым запрасілі Аркадзя Райкіна паглядзець нас. Гэта быў вялікі дзень для нас — майстры сцэны рагаталі да слёз. У шасцідзесятым Райкін прапанаваў Раману Карцаву працаваць у сваім тэатры, а мне даручылі ролю загадчыка літчасткі...

**— Ці не з вашага спектакля рэпрыза: «Няхай усё будзе, але ж няхай нечага і не хапае!»?**

— З майго. «У Грэчаскай зале», «Авас», «Федзя-прапагандыст» — таксама мае мініяцюры.

**— Восем гадоў вы працавалі ў Адэскім порце. Што-небудзь вынайшлі як інжынер?**

— А як жа! Падчэп для выгрузкі і пагрузкі аўтамабіляў. Ён, дарэчы, да гэтай пары там выкарыстоўваецца...

**— Не задумваліся, Міхаіл Міхайлавіч, што на пасадзе інжынера прынеслі б рэальную, канкрэтную карысць...**

— Задумваўся. Мяне гэта і цяпер хвалюе. Знаёмец-педагог неяк пахваліўся: «Мае студэнты вывучылі вашы мініяцюры назубок. І гэта вельмі добра». І яшчэ. Вычытаў неяк, што смех лечыць канкрэтныя хваробы, што дзякуючы смехатэрапіі хворыя пераходзяць ад штучнага дыхання да свайго, уласнага. Мы, сатырыкі, дамагаемся, каб у чалавека быў свой погляд — востры, іранічны.

**— Якім кнігам аддаеце перавагу?**

— Энцыклапедычнаму слоўніку. Чытаю даведнікі, каб ліквідаваць недахопы адукацыі.

**— У сваёй творчасці, Міхаіл Міхайлавіч, вы часцяком звярталіся да тэмы спорту: прынамсі, да футбола («...ён атрымаў мяч, абышоў абаронцу і гародамі, гародамі да Катоўскага...», да хакея («...падграваем лёд паяльнай лямпай, і вымаем з кішэні па шайбе...»), да акрабатыкі («...заўтра ў нас сустрэча з англічанамі, у іх прафесіянальная каманда Уімблдонскага конезавода, а я каго выстаўлю — парушальнікаў рэжыму!..»), да лёгкай і цяжкай атлетыкі... А да шахмат?**

— Не люблю пісаць пра шахматы. Гуляць, дарэчы, таксама. Вінаваты тут мае школьныя сябрукі, якія заўсёды выйгравалі ў мяне. І я даў слова пераўзысці іх хаця б у трапнасці... І — стаў пісьменнікам-сатырыкам. А з шахматамі вырашыў «парваць» назаўсёды. Бо прайграваць з пачуццём уласнай годнасці не навучыўся. Без годнасці... таксама.

**— Міхаіл Міхайлавіч, калі ўжо зайшла гаворка пра модныя віды спорту... Што вы думаеце наконт моднай апраткі?**

— Жанчыны сталі апранацца так, што цяжка адвесці пагляд... Мужчыны ж выглядаюць нахабнікамі — чапляюць нешта несуразнае, вешаюць на шыю бірулькі, ланцужкі, вяроўкі... Мужчыну трэба слухаць, а не разглядаць як цацку на навагодняй ёлцы. А калі ён, мужык, не ў стане прымусіць сябе слухаць, хай фарсіць у прыгожых штанах...

**— ...а не маглі б вы задаць сабе пытанне самі...**

— Якое б я хацеў задаць пытанне сабе? Можа, гэтае: ці працягваў бы я пісаць, калі б зніклі тыя з'явы, пра якія цяпер пішу? Адкажу: не, не працягваў бы! І ўвогуле, пішу я не для заробку, не для таго, каб упрыгожыць літаратуру...

**— Значыць, фраза «не магу не пісаць» — гэта не пра вас?**

— Не пра мяне. Гледачы і слухачы неаднойчы пыталіся: «Сатыра — гэта зброя для нападзення ці для абароны?». У гэтым пытанні — усё жыццё. Для мяне сатыра — абарона. Я вось завітаў у краму, у майстэрню ці камбінат бытавых паслуг і... атрымаў удар. Вяртаюся дадому — пішу адказ. Вось такі своеасаблівы «бокс». Паўтараю: выправім недахопы і хібы, нармалізуем хоць крышачку жытку — я кідаю пісаць. Я не для літаратуры створаны. Для жыцця...

**(Дайджэст па матэрыялах друку.)**

- **Усе мы змагаемся з цвіллю, замест таго, каб змагацца з сырасцю.**
- **Жыццё ў вялікім горадзе — гэта барацьба за тэлефон, а потым — з самім тэлефонам.**
- **Як толькі знікаюць прадукты, адразу з'яўляецца НЛА, астролагі, экстрасенсы, прадпрымальнікі, рэкецiры і прэзідэнты.**
- **З чаго пачынаецца каханне? З розніцы.**
- **Жанчыны! Віншую ўсіх вас. Гэта мара майго юнацтва — павіншаваць усіх вас па чарзе.**
- **Дзеці! Да пабачэння! Я любіў вас, дзеці...**

**(З публічных выказванняў Міхал Міхалыча.)**

# «У «АПОШНІМ ВАГОНЕ» Я ЗАСЕДЖВАЮСЯ З БОЛЬШАЙ ПРЫЕМНАСЦЮ, ЧЫМ У ВАГОНЕ-РЭСТАРАНЕ...»

Не магу назваць ваш часопіс бездакорным, бо матэрыялы яго, на жаль, часта няроўныя і нераўназначныя, ёсць тэндэнцыя да залішняй афіцыёзнасці і закамплексаванасці. Нядрэнна было б надаць больш «камернасці» ці, як цяпер модна казаць, «інтымнасці» асобным старонкам, але не «поп-эстрадна-сексуальнай», а падамашняму прыватнай, сямейнай і шчырай.

Упрыгожыла б часопіс і большая ўвага да прафесійнага выяўленчага і народнага мастацтва Беларусі, дзякуй Богу, яно ў нас не такое і беднае.

Досыць слаць праклёны, махаць кулакамі і плакацца аб сваім лёсе. Трэба вучыць людзей думаць, працаваць, адпачываць, кахаць, выхоўваць дзяцей і любіць адно аднаго.

Дзякуй вам, што ёсць «Апошні вагон». Тут я заўжды «заседжваюся» і нават з большай прыемнасцю, чым у любым вагоне-рэстаране.

**З найлепшымі пажаданнямі «Беларусі»**
**Аўсей УРАНАК.**
г. Магілёў.



**Фота Віктара ЖЫЛІНА.**

**КАЛОНКА З ПРАЦЯГАМ**

# Апошні вагон



## ЯК КОШКІ ВЫРАТОЎВАЮЦЬ ЧАЛАВЕЧЫЯ ЖЫЦЦІ

Дакументальных гісторый пра тое, як кошкі прыходзяць на дапамогу людзям, якія трапілі ў бяду,— шмат. Прыгадаем толькі адну.

Маладажоны Лопа Дэль Коста і яе муж пілот Эрнэста вырашылі правесці свой «мядовы месяц» у Іспаніі. Маршрут пералёту на ўласным самалёце быў такі: Італія — Іспанія. Да пасадкі маленькага спартыўнага самалёта заставалася яшчэ мінут 30 лёту, пад крыламі прасціралася Міжземнае мора... І раптам — выбух!

«Ударная хваля кінула нас на лабавое шкло, і Эрнэста параніў галаву,— успамінае Лопа,— але ён упэўнена трымаў штурвал і спакойна сказаў мне: «Скачы ў мора. Я — за табою!..»

Плылі яны доўга, і паранены Эрнэста пачаў слабець літаральна на вачах жонкі...

SOS, які падаў у эфір Эрнэста перад катастрофай самалёта, зафіксавала мноства судоў. Многія з іх адразу ж накіраваліся ў раён бедства. Узяло курс да месца катастрофы і італьянскае гандлёвае судна «Латуга».

...Спакваля вечар пераходзіў у чорную міжземнаморскую ноч. Экіпаж «Латугі» ўжо губляў усялякую надзею на выратаванне двух чалавек — пілота і яго нявесты. Але менавіта ў гэтыя самыя драматычныя хвіліны праявіў кемлівасць карабельны кот па мянушцы Рыкі: ён ускараскаўся на нос карабля і пачаў моцна мяўкаць...

Капітан «Латугі» аддаў загад накіраваць пражэктары на ваду перад носам карабля. Як толькі фары выхапілі кавалачак мора, матросы ўбачылі на хвалях жывую істоту. Гэта была Лопа.

...З тае пары матросы «Латугі» пачалі называць ката Рыкі «Выратавальнікам».

## КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталі:** 3. Бортправадніца. 5. Кілявая яхта міжнароднага алімпійскага класа. 7. Чорная таполя. 11. Сатырычнае або гумарыстычнае адлюстраванне каго-небудзь у наўмысна перабольшаным карыкатурным выглядзе. 12. Увесь свет у разнастайнасці яго форм. 13. Ручка шаблі, шпагі. 17. Возера на Браслаўшчыне. 18. Рысунак, чарцёж, план, зроблены на металічнай дошцы для друкавання. 19. Гераічныя народныя паданні. 20. Група плямён у Індыі. 21. Раздзел геалогіі, які вывучае ваганні зямной кары. 22. Сорт яблыні. 24. Опера Дж. Вердзі. 25. Рытмічны парны танец. 27. Найбуйнейшы кальцавы радыётэлескоп АН СССР. 28. Паўночны вецер. 29. Паэма Р. Барадуліна. 30. Абшар зямлі; прастора. 33. Мемарыяльны комплекс у Оршы. 35. Земляныя арэхі. 36. Сукупнасць умоўных абазначэнняў, знакаў.

**Па вертыкалі:** 1. Ступень адрознення, чын. 2. Галоўны істотны прынцып светапогляду. 3. Стыхійная бяда ў гарах. 4. Перакрыцце паміж дзвюма апорамі. 5. Служба абслугоўвання. 6. Жывёліна сямейства цюленяў. 8. Пастка на звяроў і птушак. 9. Своеасаблівы прыпеў. 10. Прэснаводная рыба. 11. Ядомы грыб. 14. Век. 15. Разведчык, Герой Савецкага Саюза, беларус. 16. Член урада. 23. Перасохлае рэчышча. 24. Невялікая рыбка сямейства селядцоў. 26. Беларускі народны герой. 27. Радыёлакатар. 31. Стромая скала. 32. Прыродная мінеральная фарба. 34. Паўднёвае пладовае дрэва. 35. Горад у Францыі.

**Склаў Валерый ПІНЧУК.**

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 3**



# ПРА КАЛУМБА, ПЕЎНІКА ПЯТРУШУ І ПРЫНЦЭСУ ТЭ КАВАН



**Пабольшала клопатаў у пеўня Пятрушы і яго вясковых сябрукоў — вясна прыйшла. Сёння Пятруша шпацыруе па двары, вызвоньваючы шпорамі. І так будзе на працягу ўсяго 93-га года, бо год гэты — год Пеўня.**

**...А пакуль Пятруша шпацыруе, пазнаёмімся з ягонымі суродзічамі бліжэй.**

● Першымі дзікіх курэй пачалі вырошчваць у гаспадарках жыхары Паўднёва-Усходняй Азіі. Пяць стагоддзяў назад Хрыстафор Калумб завёз курэй у Амерыку. Сёння ў свеце звыш 80 працэнтаў хатніх птушак — куры.

● Куры, як вядома, у спартыўных спаборніцтвах не ўдзельнічаюць. Аднак у Кнізе рэкордаў Гінеса ёсць імёны курэй-рэкардыстак.

● 23 снежня 1956 года курыца Бланш (парода легорн) знесла незвычайнае яйка з двума жаўткамі і двайной шкарлупінай. Важыла тое яйка... 454 грамы.

● Чэмпіёнкай свету сярод нясушак лічыцца Прынцэса Тэ Каван, якая знесла 361 яйка за 364 дні. Гэты «рэкорд» быў зафіксаваны ў 1930 годзе і не пабіты і па сёння.

● Курыца па мянушцы «чэмпіёнка» стала ўладальніцай рэкорда свету: яна праляцела ў паветры 95 метраў.

**ШАХ ЯГО ВЯЛІКАСЦІ**

# ТРЫ КАРАЛЕВЫ ПРЭТЭНДУЮЦЬ НА КАРАЛЯ



Сваім апошнім ходам — b2—b1Ф+ чорныя ператварылі пешку ў ферзя (ферзёў цяпер у чорных ажно тры!), а белы кароль скокнуў на поле a7 і надзейна замаскіраваўся ў стане «варожага войска»...

Чорныя яшчэ не ведаюць, што ход b2—b1Ф+ гэта іх апошні ход...

Сітуацыя даволі пікантная: тры каралевы ў чорнай апратцы прэтэндуюць на белага караля, а той, у сваю чаргу, кідае позіркі на белую пешку e7, якая вось-вось таксама стане каралевай.

Такія вось закулісныя гульні пры двары караля...

У шахматах, дарэчы, як і ў рэальным жыцці, здараецца і такое: перавагу мае адно войска, а перамогу святкуе — другое.

# ПРАПАНАВАНА 445 ГАДОЎ НАЗАД

У такім выглядзе, як паказана на дыяграме, пакінуў пазіцыю аўтар першай у свеце шашачнай кнігі Антоніо Тарквемада. Выйшла яна ў Валенсіі (Іспанія) ажно... у 1547 годзе.



**Выйгрыш.**

Каб даказаць бездапаможнасць чорных у гэтым карысным для практыка заканчэнні, дамкі белых неабходна перавесці на палі a7 і c5. Гэта пры ўмове, калі дамка чорных прыпыніцца на полі a1. А каб змусіць чорных заняць такую непрыемную для іх пазіцыю, белыя выйграюць тэмп па лініі c5—f8. Дамогшыся патрэбнай пазіцыі, белыя на ход чорнай дамкі 1. a1—h8 знішчаюць яе шляхам 2. h6—g7. Іншыя хады па «вялікай дарозе» таксама не выратоўвалі пасля ўдару або ахвяры белай дамкі 2. c5—b4.

Менавіта такі спосаб выйгрышу прыводзіцца ў шматлікіх дапаможніках, але, на жаль, аўтары не спасылаюцца на год «нараджэння» гэтага прыгожага заканчэння і не называюць яго першаадкрывальніка Антоніо Тарквемаду.

# «ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ — ПРАВЕРЦЕ...»

■ У вас выскачыў вінт з аправы акуляраў. Кавалачак лёскі з поспехам заменіць яго. Кончык лёскі лёгка аплаўце на полымі запалкі, устаўце ў гняздо і аплаўце з другога боку. Мацаванне надзейнае.

■ Цвік у чаравіку — як яго абясшкодзіць? Самае простае — адцягніце ўверх сцілку і ўцісніце ў падэшву паверх цвіка канцылярскую кнопку. Металічная плешка абясшкодзіць вашу нагу.

■ Арганічнае шкло наручных гадзіннікаў з часам траціць празрыстасць. Нанясіце невялікую колькасць зубной пасты на анучку і патрыце ёю шкло ў розных напрамках. Прамыйце ў чыстай вадзе: шкло — як новае!

**ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ**

# ГАТОВА ВЫСТУПІЦЬ АДВАКАТАМ!

З задавальненнем чытаю часопіс «Беларусь» ад першай старонкі да апошняй, гэта значыць, да «Апошняга вагона». Не абмінула ўвагай заданне В. Астрынскага «Піфагор — плагіятар?» (№ 11 за 1992 г.). Сапраўды, калі б невядомы індыйскі вучоны быў жывы, ён мог бы аспрэчваць права аўтарства ў знакамітага Піфагора. Але гісторыя навукі ведае нямала прыкладаў, калі ў розных краінах і нават у розныя часы рабіліся аднолькавыя адкрыцці (вядомыя нам яшчэ са школьнай лаўкі законы Бойля-Марыёта, Мендзялеева-Клайперона і г. д.). І тут, напэўна, адбылося тое ж самае. Так што, калі аўтар формулы $\sin^2x+\cos^2x=1$ выступіць у якасці абвінаваўцы, а В. Астрынскі ў якасці суддзі Піфагора ($a^2+b^2=1$), я буду яго адвакатам.

Калі я правільна зразумела В. Астрынскага, гэта і неабходна было яму даказаць?

**Надзея МАРЧАНКА.**
Светлагорскі раён.

**КАЛОНКА З ПРАЦЯГАМ**



# БУЛЬБУ ВАРЫМ, БУЛЬБУ СМАЖЫМ...

● Калі хочаце згатаваць бульбу хутчэй, пакладзіце ў ваду сталовую лыжку маргарыну.

● Адварная бульба для гарніру застанецца цэлай, калі ў ваду, у якой яна варыцца, дадаць крыху воцату.

● Абабраную бульбу трэба адразу ж апусціць у халодную падкісленую ваду, але не болей чым на 10—15 хвілін, паколькі вітамін С у ёй раствараецца.

● У каструлю, дзе варыцца бульба, нельга наліваць задужа многа вады — яна павінна пакрываць бульбу не больш чым на 1 сантыметр.

**САЛАТА БУЛЬБЯНАЯ З ФАСОЛЯЮ.** Зварыць у лупіне бульбу, паачышчаць і нарэзаць скрылікамі сярэдняй таўшчыні. Адварыць белую фасолю, змяшаць яе з бульбай і дробна насечанай рэпчатай цыбуляй, дадаць соль, паліць салатнай запраўкай. Страву ўпрыгожыць зяленівам. (3—4 шт. бульбіны, палова шклянкі белай фасолі, 1 цыбуліна, 4 ст. лыжкі салатнай запраўкі, пятрушка, кроп, соль).

**САЛАТА БУЛЬБЯНАЯ З ЦЫБУЛЯЙ І ЧАСНАКОМ.** Бульбу адварыць і парэзаць скрылікамі. Паачышчаныя долькі часнаку патаўчы ў ступцы, разбавіць мясным булёнам альбо халоднай гатаванай вадой. Дробна пасечаную рэпчатую цыбулю падсмажыць на алеі, перамяшаць з бульбай, дадаць часнок, соль і ўсё зноў перамяшаць. Пасыпаць кропам. (6 шт. бульбін, 1 цыбуліна, 2 долькі часнаку, 1 ст. лыжка алею, чвэрць шклянкі вады ці булёну, кроп, соль).

**САЛАТА БУЛЬБЯНАЯ З КІЛЬКАЙ.** Адварную бульбу парэзаць скрылікамі, зялёную цыбулю — кавалачкамі, салёныя гуркі і рэпчатую цыбулю — паўкольцамі. Дадаць разабраную кільку, кансерваваны зялёны гарошак і добра перамяшаць. Салату запраўляць смятанай з гарчыцай, выкласці горкай у салатніцу, упрыгожыць зяленівам і гуркамі. (5 шт. бульбін, 100 г кількі, 2 агуркі, 1 цыбуліна, 50 г зялёнай цыбулі, 2 ст. лыжкі зялёнага гарошку, палова шклянкі смятаны, зяленіва, 1 ст. лыжка гарчыцы, соль).

13 ПРАЦЯГВАЕМ ЗНАЁМСТВА З ЧЛЕНАМІ РЭДСАВЕТА



# ПРАДПРЫМАЛЬНІК, ДА ТАГО Ж — САМЫ СУМЛЕННЫ

Пагадзіцеся, такое словазлучэнне ўсё яшчэ рэжа вуха былога «саўка», бо яму ж дзесяціголдзямі даводзілі, што прадпрымальнік — гэта спрытнюга, які выгадна «абцяпвае» свае справы. Ды і аб чым гаворка, калі нават тлумачальны слоўнік надзяляе прадпрымальніка не вельмі пахвальнымі эпітэтамі. Але прыйдзе час, які паверне наша разуменне да тае высновы, што сумленне — адна з найважнейшых якасцей сапраўднага бізнесу. І, калі вам цікава даведацца пра чалавека, якога ўжо сёння называюць самым сумленным прадпрымальнікам, знаёмцеся: генеральны дырэктар рэспубліканскага аб'яднання «Белатракцыён», віцэ-прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Беларусі Аляксандр Калінін.

**З біяграфіі: нарадзіўся ў 1959 годзе, у 1981 — выдатна закончыў Беларускі інстытут народнай гаспадаркі па спецыяльнасці «Планаванне прамысловасці». Пасля службы ў арміі працаваў інжынерам на заводзе імя Вавілава. Быў запрошаны ў Міністэрства культуры. У 27 гадоў узначаліў рэспубліканскае аб'яднанне «Белатракцыён». Летась абраны на пасаду віцэ-прэзідэнта Беларускага саюза прадпрымальнікаў. Жанаты, мае двух сыноў.**

**— У свой час, Аляксандр Фядотавіч, вы зрабілі ўсё магчымае, каб перавесці «Белатракцыён» на арэнду. Што гэта — эксперымент?**

— Не зусім так. «Белатракцыён» адносіўся да дзяржаўных прадпрыемстваў з добрымі эканамічнымі паказчыкамі. Таму натуральны рахунак пад выглядам вялікіх амартызацыйных адлічэнняў, «сілавая» канфіскацыя часткі прыбытку ў кошт стратных прадпрыемстваў, канечне ж, не падабаўся нашым супрацоўнікам. Мы перайшлі на арэнду і больш не тлумачым Міністэрству культуры, чаму зарплата нашых работнікаў (а яна пастаянна індэксіруецца) вышэйшая, чым у іншых. Акрамя гэтага да пераходу на арэнду наша дзейнасць была абмежавана тэрыторыяй Беларусі. Сёння нашы залы ігральных аўтаматаў ёсць не толькі ў кожным горадзе рэспублікі з насельніцтвам больш як сто тысяч чалавек, але ў Маскве і Санкт-Пецярбурзе, у Крыме і Прыбалтыцы. Добрыя сувязі ў нас з вядучымі еўрапейскімі фірмамі ігральнага бізнесу, што дазваляе валодаць прафесіянальнай інфармацыяй, прымаць удзел у міжнародных семінарах, выставах, дае магчымасць самастойна выбіраць партнёраў, купляць новую тэхніку.

**— Не сакрэт, што вы маеце на мэце зрабіць «Белатракцыён» акцыянернай карпарацыяй. Значыць, арэнда — ужо мінулы дзень?**

— Статус арэнднага прадпрыемства не зусім акрэслены. Для далейшага развіцця ігральнага бізнесу неабходны рэальныя перспектывы. Таму акцыяніраванне, як найбольш сталая форма маёмасці, больш адпавядае сучасным патрабаванням.

**— Ігральны бізнес ва ўсім свеце папаўняе дзяржаўны бюджэт значнымі грашовымі сродкамі. У Беларусі ж гэтая дзейнасць абкладаецца самым высокім падаткам — 60 працэнтаў.**

— Гэта так. Нават заработная плата не ўключаецца для нас у затраты, а налічваецца з прыбытку толькі пасля аплаты падатку. Але і пры такім відавочна выгадным для дзяржавы раскладзе існуе каласальнае супрацiўленне чыноўнікаў пры ўкараненні такіх звычайных для развітых краін відаў адпачынку, як ігральна-грашовыя аўтаматы або казіно. Узнікае часам неадольны псіхалагічны бар'ер. Напрыклад, дзейнасць казіно, якое мы адкрылі ў Мінскім Палацы спорту, давялося абараняць нават пасля таго, як была выдадзена ліцэнзія... Бо, як ні смешна, само слова «казіно» ў даволі сур'ёзных работнікаў кіруючых ведамстваў асацыіравалася ледзьве не з публічным домам. І гэта ў той час, калі паўсюдна — гэта ўтульны клуб, дзе адпачываюць, гуляюць у папулярны «Блэк Джэк» ці ў «Амерыканскую рулетку», або проста назіраюць за гульнёй. Паўсюдна, але не ў нашым жыцці...

**— Законы ствараюць палітыкі. Ваша пасада віцэ-прэзідэнта Саюза прадпрымальнікаў таксама патрабуе значнай палітычнай актыўнасці. Што змушае вас да яе?**

— Складанасць моманту і некампетэнтнасць многіх нашых «прафесіянальных» палітыкаў. Эканамічная сітуацыя ў СНД мяняецца вельмі хутка. Палітычныя ж амбіцыі некаторых лідэраў краін садружнасці прывялі да фактычнага развалу адзінай эканамічнай прасторы. Аб гэтым сведчыць і крызіс у разліках паміж прадпрыемствамі і рэспублікамі СНД.

**— Напэўна, толькі аптымісты чакаюць, што ўсім нам вось-вось стане лягчэй. Ці стане? Вы — эканаміст, адкажыце.**

— Пакуль што кожная рэспубліка СНД, у тым ліку і Беларусь, праводзіць бескантрольную грашовую і крэдытную эмісію. Даныя аб гэтым нідзе не публікуюцца, ніякай справаздачы няма. Не зводзіцца па рублёвай зоне і адзіны баланс. І каб стабілізаваць грашовую сістэму, наяўную эмісію і крэдытную палітыку, патрэбны ўзгодненыя дзеянні. І, перш за ўсё, больш плённая праца парламента, якому трэба вызначаць абгрунтаваную жыццём заканадаўчую базу, а не азірацца на дзень мінулы. Трэба рашуча дзейнічаць ужо сёння.

**Гутарку вяла**
**Наталля ХАРКЕВІЧ.**



**БЕЛАРУСЬ**

ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ШТОМЕСЯЧНІК

ВЫДАЕЦЦА СА СТУДЗЕНЯ 1930 ГОДА

№ 4 (652)
КРАСАВІК 1993



НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: карціна Міколы СЕЛЕШЧУКА.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
І ПРАЦОЎНЫ КАЛЕКТЫЎ РЭДАКЦЫІ.

Выдавецтва «Полымя» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Мінск.

Журнал «Беларусь» на белорусском языке.

Здадзена ў набор 15.02.93. Падпісана да друку 19.03.93. Фармат 70×108 1/8. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 7. Ул.-выд. арк. 11,01. Ум. фарбаадб. 12,6. Т. 8668 экз. Зак. 99.

Кошт у розніцу — 15 рублёў.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19.
Тэлефоны для даведак: 33-02-29; 33-20-54.
Рэдакцыя разглядае рукапісы памерам не больш як 10 машынапісных старонак.
Допісы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі, атрыманыя рэдакцыяй, не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
220041, Мінск, праспект Францыска Скарыны, 79.
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».

# АКЦЫЯ
# ЧАСОПІСА «БЕЛАРУСЬ»

**УВАГА,**

**ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА!**

***26—28 мая 1993 года ў горадзе Мінску адбудзецца трэцяя Мінская Міжнародная дзелавая сустрэча прадпрымальнікаў***

# «БІЗНЕС БЕЗ ГРАНІЦ»

## АРГАНІЗАТАРЫ:

Мінскі гарадскі Савет народных дэпутатаў;
Рэдакцыя часопіса «Беларусь»;
Саюз прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь;
Асацыяцыя дзелавога супрацоўніцтва «Гарант»;
Беларускі фонд фінансавай падтрымкі прадпрымальніцтва;
Акцыянернае таварыства «Цэнтр — XXI стагоддзе».

## ПРЫ САДЗЕЙНІЧАННІ:

Міністэрства замежных спраў РБ;
Упраўленне эканомікі Савета Міністраў РБ;
Дзяржкамітэта па знешніх эканамічных зносінах РБ;
Антыманапольнага камітэта РБ;
Дзяржаўнага мытнага камітэта РБ.

## ГЕНЕРАЛЬНЫЯ СПОНСАРЫ:

**Беларускае оптыка-механічнае аб'яднанне** (г. Мінск);
**Завод аптычнага станкабудавання** (г. Смаргонь);
**Народнае аб'яднанне «Бабруйскдрэў»** (г. Бабруйск);
**Завод «Оптыка»** (г. Ліда).
**Асацыяцыя дзелавога супрацоўніцтва «Белфартэкс».** (Мінск.)

## У ПРАГРАМЕ СУСТРЭЧЫ:

дыскусія «Бізнес без граніц»: вопыт і перспектывы развіцця;
кангрэс беларускай дыяспары «Бізнес-кангрэс-93»;
выстава-кірмаш «Мінск-93»;
выстава-кірмаш «Абаронная прамысловасць-93»;
наведванне гарадоў Бабруйска і Смаргоні;
культурная праграма.

***Падрабязная інфармацыя — тэл.: 69-00-34, 36-69-21, 33-20-01; факс: 36-69-21, 27-15-96.***

АРГАНІЗАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ.

Фотаэцюд Віктара ЖЫЛІНА
«За цаглянай сцяной».

## ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

ВЫ, КАНЕШНЕ Ж, ВЕДАЕЦЕ,
ШТО ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСНАЯ КАМПАНІЯ
НА 2-ю ПАЛОВУ 93-га ГОДА.

НАГАДАЕМ: ІНДЭКС «БЕЛАРУСІ»
РАНЕЙШЫ — 74820.

КОШТ ПАДПІСКІ НА 6 МЕСЯЦАЎ — 150 рублёў,
НА КВАРТАЛ — 75 рублёў.

КАЛІ ВЫ ХОЧАЦЕ, КАБ «БЕЛАРУСЬ»
ТРАПІЛА Ў ВАШ ДОМ,
ПАКЛАПАЦІЦЕСЯ АБ ПАДПІСЦЫ ЎЖО СЁННЯ!

ISSN 0320-7544. «Беларусь», 1993, № 4, 1—36. Індэкс 74820.

Кошт у розніцу — 15 рублёў.